## Пялёсткі

У маладыя гады ішоў я неяк з дзяўчынай па Вялікай Мікіцкай вуліцы. Непадалёк ад кансерваторыі была антыкварная крама. Мы спыніліся ля вітрыны, бо абмінуць яе было нельга: не вітрына, а сапраўдная выстаўка старадаўніх рэчаў розных эпох і народаў. Побач з кітайскімі бажкамі французская парцэляна, побач з брусельскімі карункамі найдзіўнейшыя ядвабныя індыйскія тканіны. А яшчэ ж вырабы са срэбра, золата, дамаскай сталі... У цэнтры гэнае цікавае і багатае вітрыны стаяў адзін сціплы малюнак, які ўсім сваім выглядам паўтараў спрадвечную ісціну: марната марнаты і ўсялякая марната... На гэным малюнку мастак намаляваў асенні сад, а на пярэднім плане - клумбу кветак, злева - частку тэрасы дома. Кветкі на клумбе адцвіталі, абсыпалі на дол пялёсткі. На некаторых кветках пялёсткі яшчэ зіхацелі ў сонечным праменні, на іншых іх не засталося зусім. Перад клумбаю стаяла двое людзей у гадах - Ён і Яна. На Ім шынель без пагонаў, на Ёй старамоднае, на погляд сучаснікаў, паліто. На галаве - капялюшык з вуалеткай. Яны, так адчувалася, маўчалі, але гэтае маўчанне было такое красамоўнае! Памаўчалі і мы. Першы загаварыў я.

- Прыйдзе час... Будзем і мы з табою стаяць увосень свайго жыцця перад такім кветнікам і моўчкі пазіраць на пялёсткі...

- Ой, не! - адказала мне дзяўчына. - Я не дажыву да такога часу. Ды, шчыра кажучы, не хацелася б быць удзельніцаю падобнага сумнага роздуму...

Мы пайшлі далей сваім шляхам.

Сустракалі мы вёсны, сустракалі мы восені і зімы. Сустракалі іх пад субтрапічнымі пальмамі, там, дзе кіпарысы, жылі мы і ў сібірскай тайзе, там, дзе машкара і ўсялякі гнюс, там, дзе лютыя маразы, светунябачныя завеі.

А кветкі раслі і красавалі ўсюды і скрозь. А пялесткі з тых кветак абляталі на дол кожную восень. І багата іх было, тых восеней, нямала было і пялёсткаў.

Сёлетняй восенню, шпацыруючы ў старадаўнім парку паблізу Масквы, мы з жонкаю спыніліся ля адной клумбы, на якой былі ўсялякія кветкі, але ўсе на адцвітанні. Пялёсткі ад іх ляжалі на клумбе, на сцяжынцы.

Нібыта выбліск маланкі асвятліў мне той далёкі дзень, калі я з Ёй разглядваў малюнак у вітрыне антыкварнай крамы. Я запытаўся:

- Табе нічога не нагадвае гэтая клумба?

- Не пытайся лепш!

- І Вялікая Мікіцкая, і вітрына, і малюнак?!.

- Я проста дзіўлюся, каб не сказаць жахаюся, з такога падабенства, - адказала Яна. - Думалася, што ніколі мы не дачакаем гэтага часу, аж вось!.. Дачакаліся... Стаім і разглядваем пялёсткі свайго жыцця...

Пялёсткі свайго жыцця!.. Адзін. мудры англічанін сказаў аднойчы: «У кожным сэрцы ёсць гразь, каменне і кветкі». У адным больш, пэўна, камення, у другім - больш гразі. У трэцім - больш кветак. Але ж і гэтыя кветкі таксама ведаюць свае вёсны і свае восені, свае красаванні і свае адцвітанні. Колькі пялёсткаў з іх ападае на каменне, у гразь, марнуецца і знікае там на векі вечныя. А на іх жа занатоўваліся радасць і гора, жаданні і надзеі, летуценні дзяцінства і мары сталасці.

Калі ўзяць хоць невялічкую частачку іх, падняць з таго камення, адмыць, можа, нават гарачай слязой ад усяе твані, бросні, паказаць свайму добраму сябру: зірні, што станецца з пялёсткамі нашага жыцця, калі кветкі сілкуюцца толькі ад шчырасці, ад чыстага сумлення. Яны і пасля адцвітання красуюць і зіхацяць, як жывыя...

Дык хай жа і станецца так!

## Як мяне, маленькага, тапіць меліся

Славутаму прароку Майсею ні па матчынай, ні па бацькавай лініі я раднёй не быў. Але, згадваючы першыя дні свайго жыцця, мушу згадаць і прарока. Справа ў тым, што ў біблii пісана, нібыта маленькага Майсея, зусім немаўлятку, паклалі былі ў нейкі абсмолены кош і пусцілі па вадзе. Добрыя людзі былі ва ўсе часы і ва ўсіх народаў. Яны перахапілі той кош, вынялі з яго немаўлятку і назвалі яго Майсеем, што ў перакладзе са старой жыдоўскай мовы і азначае - «выцягнены з вады». Пасля, праз колькі гадоў, атрымаўшы веды, пазнаўшы добра жыццё, Майсей даў чалавецтву запаветы боскія, якія людзі вывучалі на памяць з малых гадоў, але якіх увогуле ніколі не прытрымліваліся. Асабліва часта парушалі людзі запавет пра хлуслівыя свядоцтвы. Але я хачу сказаць не пра гэта.

Нарадзіўшыся на белы свет, як казала маці мая, я ціхенька ляжаў у калысцы каля самага яе ложка. Яна ж думала: «Трэба жыта жаць. Што рабіць з малым? - Пасля даўмелася:- Прыйдзецца браць у поле. Пакладу яго ў бабку, пад снапы. Там і халадок будзе, і ад мяне блізка, і паветра чыстае...»

У гэты момант расчыніліся дзверы і ў хату закаціласа колькі хлопчыкаў: мой старэйшы брат Ваня, два фельчаравы сыны і трое братоў - дзеці вясковага крамніка. Прывалаклі яны вялізныя

начоўкі, узяўшы іх аднекуль, бо не нашы. Маці, паводле яе слоў, спачатку расчулілася:

- Ах, якія добрыя хлопчыкі! Гэта вы прыцягнулі начоўкі, каб было ў чым купаць нашага маленькага? Дзякую вам, але ў нас ёсць адмысловая балейка...

- Не, - адказаў старэйшы з іх хлопчык, - мы ў гэтых начоўках павязём яго на млын...

- На які млын? - здзівілася маці. - Навошта?

- А каб ён тут не плакаў, мы яго ўтопім.

З гэтымі словамі яны падышлі да калыскі і пачалі падымаць мне, каб пакласці ў начоўкі. Пабачыўшы гэта, маці ўскочыла, схапіла ручнік ды пачала іх пытляваць тым ручнікам. Такі пачастунак ім не спадабаўся, яны пакінулі свае начоўкі і паўцякалі. Выкінуўшы начоўкі, маці легла зноў на ложак і доўга не магла супакоіцца.

- Тапіць! - паўтарала яна. - Тапіць!..

Што магло б быць, каб маці, скажам, спала, уявіць сабе не цяжка. Пушчаны на ваду, я, зразумела, не стаў бы новым Майсеем, а пайшоў бы на дно ў самым пачатку свайго вандравання... Не дайшоў бы я і да гутарак з богам...

Хоць будучыя мае сябры не здолелі ажыццявіць сваёй задумкі, але яны напрарочылі мне такую вандроўную долю: у сталым веку хвалі насілі мяне на сабе праз усю краіну. Ці шчаслівая яна, гэта мая доля, ці нешчаслівая, я і сам, паклаўшы руку на сэрца, кажу: не ведаю!..

## Прышываны нос

Мянушкі ў нас давалі малым і старым дужа проста і хутка. Сказаў чалавек дзіўнае на вуха слова - яно і прыліпала да яго адразу. Якое цікавае здарэнне - зноў гатова мянушка. Так жа і мне, зусім малому, браты і суседскія хлопцы падкінулі падарунак - пачалі зваць Прышываным носам. А чаму? Праз нешчаслівы выпадак.

Маці павесіла на тапарышча сякеры мяшэчак з адагрэтым тварагом для сырка, а сама пайшла даваць скаціне есці. Сякера ляжала на лаве, на якой быў і я. Гуляючы, я дапоўз да сякеры і закрануў яе сваімі малымі рукамі. Сякера звалілася, а за ёй і я. Падаючы, яна сваім носам секанула па маім. Палілася кроў.

Ад такой нечаканкі і болю я пачаў моцна плакаць. Пачуўшы, маці прыбегла ў хату, схапіла мяне на рукі і адразу да мясцовага доктара - адзінага нашага медыцынскага працаўніка, былога вайсковага фельчара. На маё шчасце, жыў ён праз дарогу ад нас і

быў якраз дома. Не думаючы доўга, ён адразу прышыў мой нос з адсечанага боку на месца.

Прышыў так удала, што, калі праз колькі дзён, даставаў нітку, выявілася, - толькі маленькі рубчык застаўся нібыта лішні. Фельчар і пажартаваў тады, як маці апавядала:

- Гэта дробязь! Калі хлопец у далейшым будзе жыць добра, сходзіць да сапраўдных дактароў, і яны адрэжуць лішняе. А не - і так пражыве.

Дык вось жа: ад таго часу і мянушка ў мяне з'явілася была на некалькі гадоў...

## Мой самы першы твор

Была нядзеля. Ніякай рабочай стукатні. Можа б, я доўга спаў на печы, але нейкі прыемны пах пачаў ласкатаць мой нос. Выявілася, мама пякла грэцкія бліны. Добра распазнаўшы гэта, я ўмольна папрасіў:

- Мамачка! Дай блінка!

- Ды што ты, сынок! Трэба ўстаць, памыцца, пацеры змовіць, тады і бліны можна есці.

- Я не ведаю пацераў!

- А без іх нічога не будзе. Прыдумай.

Я пасядзеў, пасядзеў. «Трэба маліцца! Бліны, відаць, смачныя!»

І тут мая маленькая фантазія ўзнялася на стварэнне першага ў жыцці твора, ды яшчэ якога - верлібрам!*

** Верлібр - нерыфмаваны верш.*

...Ты - наш бог.
Твая і хата.
Твая і печ.
Але ж мама - наша.
Мама ўчыняла бліны.
Мама пячэ бліны.

- Мамачка! Змовіў! Давай блін!

Маму, як яна пасля апавядала, расчуліла ў маёй малітве тое, што я вышэй бога паставіў яе працу.

Так я атрымаў першы ганарар у жыцці, не меўшы і чатырох гадоў ад нараджэння. Ганарар быў круглы, як сонейка, гарачы, як матчына ласка, спажыўны, як родная зямля.

## Сапсаваны падарунак

Мы ўсёй сям'ёй паехалі капаць бульбу на самае далёкае поле.

Верасень быў няроўны: то прыпячэ сонца, то падзьме сібернік, як у нас звалі паўночна-ўсходні вецер.

Бацька разворваў плужком барозны. Маці і ўсе больш-менш дарослыя дзеці бралі бульбу ў кошыкі, паспявалі акуратна прайсці баразну, пакуль бацька толькі пачынаў другую.

Спрабаваў памагаць і я, але ніякай карысці ад гэтай дапамогі не было. Каб не крыўдзіць малога, маці прапанавала:

- Ты, Уладзік, пахадзі па ўзлессі. Можа, ягадка якая засталася, можа, што-небудзь цікавае пабачыш. Нам тады і раскажаш...

А было мне, «расказчыку», пяць гадоў. Ды на гэты самы дзень прыпала на маю долю свята. Жыў у нас тыдні са два кравец. Каму шыў новае, каму латаў ці перашываў старое. А для мяне, сабраўшы неяк розныя кліны і абрэзкі саматканага шарачка, ён пашыў новае пальцечка. Ды якое! У ім былі дзве кішэні, яно было зроблена адмыслова на мяне і для мяне! Да гэтага часу я ўсё даношваў братнія каптанікі ды розныя марынарачкі, куртачкі. Ад радасці я, як той казаў, не тоўпіўся ў сваім новым пальцечку. Мне здавалася, што нават сарокі, якія стракаталі на дрэвах, адна адной крычалі: «Гляньце, гляньце, што за ён!» Пад гэты строкат, як пад гукі ўрачыстага маршу, я пашпацыраваў па ўзлессі. Цікавага было там багата. Адных чырвоных ды пазлацістых лістоў колькі! Але раптам - грыб, казляк. За ім - другі, там-трэці. Спачатку я наважыўся ўзяць іх і адразу аддаць матцы. Пасля затрымаўся. «Не! Я іх пакладу ў кішэні, нікому нічога не скажу, а калі прыедзем дадому-дастану: во што я знайшоў! На цэлую вячэру».

Так і зрабіў. Напакаваў кішэні казлякамі. А кішэні, праўду кажучы, былі ёмістыя: кравец кужалю не пашкадаваў. Гэта ж не шарачок выцалёўваць!

Тым часам нашы выбралі бульбу. Частку ўсыпалі ў загадзя падрыхтаваныя ямы, а рэшту - пассыпалі ў мяшкі і склалі іх на воз. Усе ішлі пехатой, аднаго мяне пасадзілі на бульбу. Прыгрэўшыся ля мяшкоў, я заснуў.

Калі мы прыехлаі двору, мяне, соннага, занеслі ў хату і, не распранаючы, паклалі на печ. А самі заняліся парадкаваць бульбу ды гатаваць вячэру. Вячэраць у нас садзіліся ўсёй сям'ёй: дарослыя і дзеці. Пабудзілі, паклікалі і мяне.

Прахапіўшыся, я адразу палез у кішэні, каб даць маме свой здабытак.

Толькі прамовіў словы: «Мамачка! Што я знайшоў!», як мае рукі трапілі ў нейкі кісель. Ажно гэтыя казлякі на гарачай печы

папякліся, ператварыліся ў сапраўдны клей.

Як я закрычаў, загаласіў - аж зайшоўся ад плачу. Бацькі напалохаліся: я ўзняў рукі ўгору, з іх цячэ нейкая брыда.

Колькі часу прайшло, пакуль дабраліся толку! Тады ж пачалося другое гора: забрудзіў новае пальцечка.

Але мяне суцешылі тым, што дакляравалі сёння ж пальцечка вымыць. Мне растлумачылі, яно стане яшчэ прыгажэйшае...

Так я ў самыя малыя свае гады даведаўся, што трэба насцярожана аглядаць і радасць, ці не схаваны ў ёй, часам, слёзы...

## Мой першы працоўны дзень

Мне споўнілася шэсць гадоў. Праўда, пары месяцаў не хапала, але я быў рослы хлопчык, і ніхто не сумняваўся, калі я казаў, што мне шэсць поўных. Гэтая мая пахвальба, мабыць, дапамагла таму, што мне надумалі даць пэўную работу на ўсс лета. Не цяжкую, без пылу і дыму, але... ад усходу сонейка і да сонейкавага захаду. Работа гэтая - пасвіць гусі. Іх у нас быў статак немалы: тры гускі, гусак ды пятнаццаць гусянят. Схадзіў я з мамай напярэдадні на выган. Расказала мне яна, як іх трэба пасвіць, каб яны добра наядаліся, як трэба пільнаваць, каб іх ніхто не крыўдзіў - ні дзеці, ні якія бобікі ці рудзікі.

- Заўтра, - мне сказана было, - як толькі сонейка пачне ўставаць, ты таксама ўстанеш і пагоніш гусі на пашу. Так сонейка і будзе даглядаць цябе цалюткі дзянёк. А калі яно пойдзе за небакрай, на адпачынак, дык і ты з гусямі двору...

Падрыхтавалі мне торбачку, а ў ёй луста хлеба ды невялічкі сырок.

- Калі захочаш піць пасля палудня - нап'ешся з ракі.

Добра я спаў. Разаспаўся надта. А тут мяне пад бачок:

- Сынок! Уставай! Сонейка пачынае ўзыходзіць...

- Мамачка! Яшчэ крыху пасплю...

- Сынок! Чуеш, гускі цябе шукаюць, клічуць: «Га-га-га, а дзе наш пастушок?» Уставай. Трэба ж і паснедаць...

Устаў я. Ногі мае аж запляталіся, калі я ішоў да мыцельніка. Папырскаў там вады на твар. Пасля - паснедаў. Торбачку цераз плячо. Дубчык у руку і - на панадворак. А гусі ўсе чакаюць ля брамы і гагочуць, гагочуць...

Адчынілі браму - яны адразу налева, на выган. Гусак наперадзе, гускі з бакоў і ззаду, а гусяняткі ўсярэдзіне, пад надзейнай аховай.

Гускі толькі гагакаюць на кожны шолах, на кожны стук.

Выбраліся мы на выган. Там яны ўсе да травы. Нездарма ж і

пра людзей гавораць, калі іх да чаго вельмі цягне: «Прыпаў да гаворкі, як гусі да травы...»

Я тым часам бадай зусім ачуняў. Пачаў разглядаць, дзе што робіцца, як конікі свіргочуць і скачуць з травінкі на травінку, як божая кароўка клапатліва аглядае нейкую зёлку, як плісачка круціць сваім хвосцікам, а сама нібыта паклоны адбівае... Колькі ўсяго цікавага!

Пачакаўшы, паехалі людзі з суседніх вёсак нашай дарогай у мястэчка. Едучы, яны злазілі з вазоў, адчынялі вароты, за якімі была ярына. Праехаўшы, зачынялі вароты і тады толькі садзіліся на воз. Але адзін нейкі нявывалака, праехаўшы, за сабой вароты не зачыніў, паленаваўся. Сеў сабе і паехаў сваёй дарогай. Магчыма, ён разважаў так, што пастушок зачыніць вароты. А пастушок гэты і не здагадаўся.

Наш гусак, пабачыўшы адчыненыя вароты, адразу да іх і падаў сігнал: «Го-го-го!», гэта значыць - «за мной усім родам!». Так увесь род гусіны і падаўся праз вароты ў ярыну. А там, ля самага плота, Жаўняроў авёс. Ды такі авёс - цёмна-зялёны, як трысцё.

Прыпаўшы да таго аўса, мае гускі зусім замоўклі. Яны елі, елі. Клаліся на авёс, адпачывалі. Пасля зноў уставалі, зноў елі.

Раптам з'явілася старая Жаўнярыха. Яна толькі выгукнула:

- А божухна, а літасцівы!

Пасля схапіла нейкую парканіну і пачала латашыць маіх гусак. А мне ж дадзены наказ - бараніць гусей і ад людзей і ад бобікаў. Я са сваім пруточкам да яе ды ў голас:

- Што вы робіце! Гэта мае гусі!

- Ах, твае? Гэта твае гусі? Дык на ж і табе!

Тут парканіна загуляла па маіх баках. Ужо ж яна мяне так перыла, так пляжыла, што жывога месца на мне не засталося. Гусі тым часам самі выбеглі ўсе на выган. Пайшоў і я за імі, слязьмі абліваючыся. Старая тая зачыніла вароты і падалася да гасподы, праклінаючы і маіх гусей і мяне самога...

Дабыўшы з гускамі да сонейкавага заходу, пагнаў я іх двору.

Тата запытаўся ў мяне:

- Усіх гусак дапільнаваў? Не згубіў ні аднае?

- Ды не! Усе тут.

- А чаму ж ты нейкі сумны, ды нейкія пісягі ў цябе на руках...

- Мяне старая Жаўнярыха набіла. Кіем біла.

Бацька зжахнуўся.

- Як так? Завошта?

Я расказаў пра ўсё, як яно было. Бацька пайшоў і пасварыўся на старую.

- Хіба так можна рабіць? Ты ж магла акалечыць хлопца. Усё роўна ж мне трэба будзе аддаць табе снапы за тое, што мае гусі

выелі.

А мне сказаў:

- Сынок! Сцеражыся! У людзей зямлі мала. Нівы малыя. Калі іх выпасвіць гусьмі, коньмі, авечкамі, дык што ж людзі нажнуць, што ж яны намалоцяць, з чаго ж яны хлеб будуць есці?!. Вароты павінен зачыняць той, хто іх першы пабачыць расчыненымі, каб пазбегнуць шкоды...

Зачыняў пасля. Зачыняю і цяпер, калі дзе бачу адчыненыя...

## Як бацька вучыў агонь распальваць

Цяпер агонь распаліць можа кожны блазан, які навучыўся самастойна штаны сабе зашпіляць.

Ідзеш калі па вуліцы і бачыш, як такі герой стаіць і страляе запалкамі, пстрыкаючы іх па адной з пушачкі. Бывае, што і пажар напстрыкае каторы.

Але ж быў такі час, калі агню не было ў людзей. Першыя вынаходцы агню былі не менш ушанаваны сваімі сучаснікамі, чымсьці ў нашыя дні адкрывальнікі атамных таямніц. Нядаўна ў Інданезіі знайшлі ў джунглях невялічкае ізаляванае племя людзей, жыццё якога стаіць на ўзроўні каменнага веку. Агонь яны і сёння здабываюць, тручы кавалкі сухога дрэва. Падобнае ж племя нядаўна выявілі і ў нетрах басейна ракі Амазонкі. Ды што там Амазонка!

Нябожчык наш вучоны Сербаў расказваў мне ў дваццатыя гады, што ў часе свайго падарожжа ў глыбіні Палесся ён знайшоў адну палескую вёску, у якой жылі сапраўдныя вогнепаклоннікі.

Напярэдадні Купалля ў гэтай вёсцы гасілі, залівалі ўсе агні ва ўсіх хатах. Не пакідалі аднаго нават вугольчыка або іскрынкі. Печы бялілі нанова крэйдай. Пасля ўсе жыхары, дарослыя і малыя, апраналіся ў святочныя, белыя вопраткі і, спяваючы адпаведныя рытуальныя песні, ішлі працэсіямі ў свой лес, на лясную паляну. Там старэйшына гэтай вёскі ссякаў ясень і пачынаў, прыстасаваўшы кавалак яго як корбу, церці аб сухое дрэва, пакуль не загараўся агонь. Калі з'яўляўся новы агонь, людзі раскладвалі вялікі касцёр. Дзяўчаты і маладзіцы вадзілі ля яго карагоды, мужчыны і хлопцы спявалі і танцавалі. Усе песні былі не абы-якія, а прыстасаваныя да гэтага ўрачыстага моманту. Пасля, зноў жа са спевамі, неслі агонь у вёску, а гаспадары кожнае хаты прыпальвалі ад яго лучынкі і заносілі ў свае печы. Ад таго дня яны не зводзілі гэты агонь цэлы год, аж да новага свята.

У нашай мясцовасці я такога свята не ведаў. Але ў часе свайго дзяцінства я бадай-што не бачыў, каб хто распальваў агонь

запалкамі. Усе мелі пры сабе скалку, крэмень, крэсіва і цэру. Перад самай першай вайной цэру замяніў крамны кнот. У параўнанні з першым спосабам здабывання агню, - трэнне дрэва аб дрэва, - другі спосаб быў, мабыць, цэлай падзеяй у жыцці многіх народаў, чаму і пратрымаўся амаль да самай рэвалюцыі.

Усе «агнявыя» прылады дарослыя людзі насілі ў адмысловых скураных капшуках, магалейках, на паясах, з левага боку. А магалейкі выраблялі з барановых машонак, каб яны не прапускалі ні дажджу, ні снегу, не мелі ніякіх швоў. Падлеткам насіць агнявыя прылады забаранялася. І вось, - які вялікі гонар! - я атрымаў ад бацькі магалейку тады, калі мне было восем гадоў. Ды не без дай прычыны, а з-за вялікай патрэбы.

Здарылася так, што вясковы выган для скаціны стаў вельмі кепскі. Вось бацька ўзяў як бы ў арэнду пасеку ля возера Доўжа. Самі гаспадары жылі стала мілі за тры, і паша іхняя ніяк не выкарыстоўвалася. У першы дзень, калі мне бацька паказаў дарогу, - вярсты тры лесам, - да гэтае пасекі, ён і навучыў мяне агонь распальваць.

- Даю табе, сынок, усе гэтыя агнявыя прылады. Агонь - святая справа. Ён дае нам жыццё, але ж можа і адабраць жыццё. Агонь памагае нам паляпшаць жыццё, але можа ў адно вокамгненне знішчыць усе набыткі на тло. Ніякіх жартаў з агнём быць не можа і не павінна. Ні абражаць яго, ні сварыцца на яго, ні закідваць якім брудам нельга, бо ён спомсціцца так, што ты і не рады будзеш. Галоднаму ён дапаможа згатаваць страву, халоднага абагрэе, у цёмную ноч дасць нам святло. Але толькі тады, калі будзе сапраўдная патрэба, можна ўдарыць крэсівам аб скалку. Агонь раскладзі так, каб ён не дастаў да дрэў, каб не пабег па лесе. Спачатку кладзі крыху падпалу, а як угарыцца - падкладвай больш. Калі згатуеш страву або абагрэешся, засып яго зямлёй, пяском. Хто гэтага не зробіць, той ніколі другому чалавеку не паспагадае, не паможа яму з няшчасця выбавіцца. А ты заўсёды так рабі, дзе б ні быў, хоць і цяпер, малы, хоць у далейшым, дарослы. Бо я прыйду і пагляджу, як ты выконваеш мой наказ... А цяпер назбірай сухіх сучкоў і ядлоўцу, раскладзі сам першы агонь...

Я назбіраў апалу і падпалу, склаў маленькі ламок і пачаў высякаць першы ў сваім жыцці агонь. Сэрца маё аж заходзілася ад радасці і гордасці. Ад хвалявання я больш трапляў па пальцах, чымсьці па скалцы. Але ўсё ж праз некалькі хвілін іскрынка трапіла на цэру. Я раздзьмуў яе і паднёс да сухога ядлоўцу. Ядловец адразу пыхнуў. Шыза-сіні дымок ахапіў мой твар. Гаркава-салодкі смак яго я ўяўляю і цяпер і адрозню яго лёгка ад усялякага іншага...

...Распальваў я агні толькі ў тыя раніцы, калі сапраўды было зімна. Разы са два-тры за лета прыходзіў мой тата, абыходзіў усе мясціны, дзе я пасвіў каровы, праглядаў і нешматлікія вогнішчы. Пасля ўсяго казаў:

- Добра, сынок!

У далейшым жыцці я ніколі і нідзе не пакінуў непагашанага агню. Так ужо ў звычку зайшло.

Быў такі выпадак. Жыў я на Далёкім Усходзе. Траляваў з тайгі бярвенне на тартак. Аднойчы паехаў разам з адным алтайцам. Заехалі ў тайгу. Паклікаў ён мяне:

- Давай падымемся на сопку!

- Ды мой конь не самавіты!

- Дарма! Затое там возьмем сушынак, адразу норму споўнім.

Паехалі. Узняўшыся, пэўна, на кіламетр да неба, адшукалі і сушынкі. Бяры, грузі ды да долу. Але тут раптам узняўся буран. Ды які! Аж сопка здрыгалася. Мы адразу коні падвялі да вывараці, прывязалі іх да каранёў. Так, нібыта ў закутак, яны і сталі. А самі за вывараць селі, склалі галовы і пачалі раіцца.

- Ну, добра, калі гадзіну якую пакруціць. А калі на ўсю ноч? Што тады?

Думай не думай, а трэба чакаць. Мой напарнік сабраў па кішэнях нейкія рэшткі махоркі, зляпіў дзве цыгаркі і кажа:

- Давай запалкі!

- Няма!

- І ў мяне няма. Але чакай - зараз агонь будзе.

Выдраў ён з ватніка крыху ваты, скруціў яе ў маленькі валік, сякерай адшчапіў ад пня сухую трэсачку і пачаў гэтай трэсачкай качаць валік па пні. Я накрыў яму галаву крысом бушлата, каб не заносіла снегам. Раптам ён спыніўся, хапіў валік, дзьмухнуў на яго і пацягнуў канцы ў розныя бакі. Адразу пыхнуў агонь. Мы падпалілі трэсачкі, распалілі пад вывараццю невялічкі агонь і, зразумела, прыпалілі свае цыгаркі.

Пакуль курылі, грэліся, жартавалі - буран заціх, спыніўся. Спыніўся ён так жа раптоўна, як і пачаўся. Мы адразу ж увязалі вазы - фінскія сані.

- Ну, паехалі! - кажа мой напарнік.

- Пачакай. Трэба агонь пагасіць.

- Ды што ты, мілы! Вецер і снег усё загасяць.

- Хай яно і так, але я калісьці даклараваў свайму бацьку, што ніколі і ні пры якіх акалічнасцях не пакіну нідзе нават маленькага агеньчыка. Справа нядоўгая.

Агонь пагасіў...

## Навучыўшыся здабыць - навучыся і спажыць

Я пачаў жаліцца, прыгнаўшы каровы двору, што ў мяне нехта з'еў мой абед. На другі, на трэці дзень - таксама. Маці здзівілася.

- Можа, да цябе якія сябры прыходзілі?

- Ды не, нікога не было.

Пачала мяне маці распытваць, дзе я трымаю свой абед. Я сказаў, што, прыгнаўшы каровы на пашу, кладу торбачку пад дубочкам, у кустах.

- Э-ге, - кажа маці, - паспрабуй павесіць на дубку, а сам адыдзіся ды панаглядай ціхенька.

Назаўтра я так і зрабіў. Толькі сеў у ядлоўчыку, павесіўшы сваю торбачку з лустаю на дубовы сучок, як наша маладая карова кінула адразу шчыпаць траву ды бегма да дубочка. Крыху яна не дацягнулася губамі да торбы, тады ўзнялася на дыбкі і скінула маю торбачку на зямлю. Прыбег я, а яна зубамі і торбачку паспела развязаць, толькі-толькі маю лусту не з'ела.

Я на яе сварыцца, а яна адышлася да сваёй маткі, пасецца побач ды толькі адным вокам за мной наглядае, ці не пайду я куды ад яе далей, ці не дастанецца ёй смачная луста.

- Ах ты, - кажу да яе, - нягодніца!

А яна як бы ў адказ мне і зарыкала. Чую, нібыта вымаўляе яна:

- А хіба я табе малачка не даю? А ты і пачаставаць мяне лустачкай не хочаш…

Пасля пачаў я ёй па маленькім кавалачку хлеба даваць, калі сам палуднаваў, але торбачку вешаў так, што яна больш не дастала ні разу. Калі пра гэта ўсё я расказаў сваёй маці, яна толькі пасмяялася.

- Усё ў жыцці так. Для цябе навука. Навучыўшыся здабыць - навучыся і спажыць…

## Чорнае і белае

Споўнілася мне восем гадоў. Кавалер, як бачыце, ладны. Пачаў, зразумела, на дзяўчынак паглядаць. А была ў нас адна, яе звалі Мілачка. Вучылася яна ў Вільні, у жаночым епархіяльным вучылішчы. А прыгожая, прыгажэй ад яе няма больш на свеце. І вельмі добрая характарам. Яна не ганарылася ні бацькавым станам, ні тым, што сама вучыцца ў вялікім горадзе, ні тым, што я вясковы хлопчык і пастушок, апрануты кепска.

Пабачыўшы, што я ганю каровы дадому, яна заўсёды гукала мяне з саду, дзе бавілася з маёй сястрой Тасяй.

- Уладзік, хадзі сюды, на гігантах пабегаем.

А гіганцкія крокі, пастаўленыя ў іхнім садзе, мелі чатыры вяроўкі. Дзве дзяўчынкі, я трэці, падабраўшы дзве вяроўкі, бегаем, падлётваем хто ведае ў якую вышыню. Смяёмся. Страшнавата, але затое весела.

Вось я падлётваў на гэтых дзвюх вяроўках, разгойдваючы дзяўчынак. Раптам пачуўся трэск і я адчуў, што вяроўкі зашморгалі па маёй уласнай скуры. Саскочыўшы, я памацаў рукою і выявіў, што мае штонікі лопнулі ад самага паяска і да нізу. А мы ў тыя гады ніякіх трусікаў не ведалі і не насілі. Выходзіць, што я з такога гіганцкага размаху павінен зусім здрабнелым спосабам, са штанамі пад пахай, з'явіцца дадому.

Мая юная паненка пашкадавала мяне.

- Не бядуй, Уладзік! Я зараз зарапарую твае майткі, - так па-далікатнаму звалі ў нас штонікі. Яна збегала дамоў, прынесла ніткі, іголку і на мне зліквідавала прарыў.

Я вельмі шчыра і пачціва падзякаваў сваёй юнай даме за такую дапамогу, але бегаць больш не схацеў, тым больш, што клікалі вячэраць.

Павячэраўшы, я прайшоў нечага па хаце. Раптам маці пытаецца:

- Уладзік! Што за дзіва-дзіўнае? У цябе штонікі ззаду зафастрыгаваны белымі ніткамі. Як гэта здарылася?

Ажно мая слаўная паненка зашыла мае чорныя штонікі белымі ніткамі.

Усе пачалі смяяцца.

Гэты выпадак запомніўся мне на ўсё жыццё. І ўжо дарослы, куды б я з дому ні адлучаўся, браў з сабой пакрысе чорных і белых нітак ды іголку, каб не клікаць нікога на дапамогу ў такой справе і не зашываць чорнае белым ці наадварот.

## Капа пернікаў за тры капейкі

Каля нашае царквы быў фэст. Наз'язджаліся людзі з усяго свету, як у нас казалі. А свет гэты ўвесь меў у радыусе дзесяць - дванаццаць вёрст. Дзяўчаты і хлопцы хадзілі праз плошчу прыбраныя ў святочныя строі. З бліжніх мястэчак папрыязджалі бойкія мяшчанкі з пернікамі і мучнымі цукеркамі. Моладзі хапала і ля гэтых вазоў, бо тут ішла латарэя, цягнулі нумаркі. Аддаўшы тры капейкі, можна было выцягнуць шчаслівы нумарок на капу пернікаў адразу, а іншым разам і нічога не

выцягнуць. Я пра такую механіку яшчэ ніколі не чуў. Мама дала мне тры капейкі, каб я схадзіў і купіў тры пернікі: сабе, сястры і брату. Калі я падышоў да воза і паказаў менавіта тры капейкі, шастак, як у нас тады казалі, дарослыя хлопцы надумаліся пажартаваць з мяне, малога.

- Што табе тры пернікі! Кідай свой шастак і цягні нумарок! Адразу ўвесь воз будзе твой.

Я так і зрабіў: укінуў грошы, пацягнуў нумарок.

І што б вы думалі: выцягнуў шчаслівы нумар, сапраўды капу пернікаў.

Хлопцы аж пазайздросцілі.

- Ты падумай, колькі шастакоў пракідаў - нічога няма. А гэты малы - з аднаго разу ўвесь кон і забраў...

Але што рабіць далей? Я ж не данясу дамоў такі выйгрыш. Тыя ж хлопцы знялі з мяне кашульку, спакавалі ў яе пернікі і памаглі дадому паднесці.

Маці мая напужалася. Падумала, што я абрабаваў тую гандлярку.

Павінен прызнацца, што гэта быў мой адзіны выйгрыш за ўсё жыццё. У далейшым я выйграваў толькі тое, што зарабляў сваёй уласнай працай, якая не заўсёды бывала лёгкая.

## Дзядуля размаўляе з бацянамі

Скончылася зіма. Снегу бадай не засталося. Толькі дзе ў равах, у нізінах, пад дрэвамі. Сонейка прыгравала так, што ад зямлі аж пара ішла. На бярозах, на многіх іншых дрэвах пачалі трэскацца пупышкі, і з'яўляліся светла-зялёныя, кволыя лісточкі. На стрэхах і ў застрэшшах заўзята цвіркалі і ціўкалі вераб'і, нібыта вітаючы вясну. Віталі яе і мы, усе малыя дзеці. Гэта ж не жарты- праседзець колькі часу ў хатах, толькі ў адлігі выбягаючы на панадворак, ды і то - крадком.

І раптам - дзіва, навіна: бацяны прыляцелі! А жылі яны на дзядулевай сядзібе, на старым клёне. На верхавіну клёна было зацягнена старое кола. На ім і змайстравалі сваю сядзібу бацяны.

Дзед быў на гумнішчы. Збегалі да яго.

- Дзядуля, бацяны прыляцелі!

Дзядуля бачыў іх неаднойчы, але ж трэба даць радасць малым, аддзякаваць ім за тое, што прынеслі добрую навіну.

- Прыляцелі? Добра, дзеткі. Зараз іду.

Падышоўшы да клёна, дзядуля выгукнуў:

- Дзень добры, боця!

Бацян нахіліў галоўку з дрэва і заляскаў дзюбкай:

- Та-та-та-та...

- Дзе ж ты лётаў? Што ж ты бачыў?

Бацян зноў у адказ:

- Та-та-та...

- Жыві шчаслівa ў нас. Ніхто цябе не скрыўдзіць. А калі што якое - адразу скажы мне. Я таму дам кару добрую...

Бацян паўтарае сваё:

- Та-та-та-та...

Мы ўсе да сваіх матак.

- Мамачка! Дзядуля з бацяном размаўляў. А боця яму пра ўсё апавядаў: як ён лятаў, куды, што дзе бачыў...

Размаўляў ці не размаўляў, але нейкае паразуменне між імі было. Трэба сказаць, што адзін бацян аднойчы закульгаў, недзе ў вялікім падарожжы пашкодзіў ножку. Колькі часу жыў ён у дзеда. А пасля - ведалі дакладна: сем гадоў прылятаў ён, кульгавы, на сваё гняздо.

Пасля загінуў недзе. Пачаў прылятаць новы жыхар гэтага гнязда.

## Як зайцы на ямішчы гулялі

Нашы каровы на пасецы пасвіліся добра. Набіраліся-наядаліся яны спажыўнай травы ўсялякай, ад чаго давалі нашай вялікай сям'і малако і масла. Масла было такое духмянае і прыгожае з выгляду, што кабеты суседскія, пабачыўшы яго, казалі маёй маме:

- Не хочаш праўду сказаць, ты яго шафранам падфарбоўваеш.

Але, зразумела, нічым гэтага масла мая мама не падфарбоўвала. І колер, і смак, і духмянасць давалі яму травы, мурог...

Мая задача была яшчэ прасцейшая: толькі не перашкаджаць каровам у сваёй справе адбору травы ды на палудзень перагнаць да возера. Там яны пілі, заходзячы ў ваду, пасля, уклаўшыся ў халадку, пад дрэвамі, адпачывалі, жавалі жвачку...

Пакуль не надышоў гэты паўднёвы час, я займаўся сваімі назіраннямі, размаўляў з птушкамі, якія падляталі да мяне зусім блізка, ледзь на плячо не садзіліся. Некаторыя нават спявалі кароткія песенькі. На доўгія ў іх часу не хапала. Усе яны спяшаліся аднесці ежу ў гняздо сваім птушаняткам, якія ўжо апярыліся і сталі падлёткамі, патрабавалі ежы ўдвая больш, чымсьці раней. Некалькі разоў я паднімаў такіх падлёткаў з зямлі і саджаў назад у іхнія гнёзды, з якіх яны павывальваліся, спрабуючы свае крыльцы.

Назіраў я за рознымі кветкамі, як яны паступова ператвараліся ў плады, ягады. Набіраў пакрысе ў торбачку і добрых

грыбоў, каб хапіла падсмажыць і падвесяліць вячэру ўсёй нашай сям'і. Плёў часам кошычкі для хатняга ўжытку... Але багата часу праводзіў, слухаючы музыку, спевы, гоман бору.

Аднойчы так я суцішыўся, захапіўся гэтым нібыта знаёмым і заўсёды новым гоманам бору і раптам чую, што ў гэтай музыцы з'яўляюцца нейкія нязвыклыя для майго вуха гукі. Так, пэўна, уяўляю я цяпер, дырыжор аркестра чуе на рэпетыцыі які-небудзь рып не ў час адчыненых дзвярэй або чый-небудзь прыглушаны кашаль.

Дык вось і я, хоць быў толькі сціплым слухачом канцэрта, які давала геніяльная мастачка - прырода, пачуў нейкія нязвыклыя, дысанансавыя гукі: «пто»... «'пто»... «пто»... і затым «оп»! І так разоў дзесяць запар.

Я ціхенька ўзняўся і, цікаючыся, пачаў набліжацца да сасонак, за якімі былі ямішчы, - напалову засыпаныя леташнія ямы, дзе зімой трымалі бульбу. Расхінуўшы сасновыя лапкі, бачу больш дзесятка зайцоў, вялікіх і малых, якія, стаўшы на дзірванок перад гэтымі ямамі, разбягаюцца, нібыта паводле нейкай каманды, а затым скачуць праз ямы: раз, два, тры. У гэтым спаборніцтве некаторыя, асабліва меншыя, увальваліся ў якую адну яму. Вось бегучы яны і давалі гукі: «пто», «пто», «пто»... Я нават добра не зразумеў, ці гэта яны лапкамі так тупалі па пяску, ці прыгаварвалі, каб паддаць сабе імпэту. Глядзеў я, глядзеў, а пасля, калі яны падрыхтаваліся да чарговага перабегу, выйшаў раптоўна ды сказаў:

- Пачакайце, я з вамі...

Куды там! Нават не мог заўважыць: ці яны раставалі, ці паразбягаліся так хутка.

Больш яны сюды не прыходзілі, а можа, прыходзілі, калі мяне не было.

Дома, пры вячэры, я расказаў пра гэтую гульню. Бацька і растлумачыў, што адзіны зайцаў паратунак - ногі. Вось звяры і практыкуюцца, каб у іх ногі былі моцныя.

## «Канец свету»

Перад рэвалюцыяй, гадоў шэсцьдзесят - семдзесят таму назад, у нас, у Беларусі, было мала школ, не было зусім бібліятэк у вёсках, не было тады наогул нідзе на свеце радыё, тэлебачання. Людзі даведваліся пра апошнія навіны і пра тое, дзе што на свеце дзеецца ад розных падарожных людзей, ад вандроўнікаў. Часам гэта былі самыя звычайныя ашуканцы, якія ішлі ад вёскі да вёскі і памаленьку пашыралі ў народзе ўсялякія былі і небыліцы. Усюды іх

прымалі, частавалі і прагна слухалі розную несусветную лухту. Прыблізна ў 1906 годзе такія падарожныя людзі, як згаварыўшыся, на пытанне: «Што чуваць?» - адказвалі адно:

- Дужа кепскае чуваць. Будзе скора канец свету. Будзе анёл боскі па небе лётаць, трубіць у трубу, выклікаць на страшны суд усіх жывых і нябожчыкаў. Паадкрываюцца магілы, усе жывыя і ўмерлыя стануць перад тым судом…

Нястрымная людская фантазія дадавала на месцах усялякія новыя падрабязнасці да гэтых апавяданняў, і так па драбочку вырысавалася вялікая, жудасная карціна, у якой прадугледжаны быў нават колер неба.

Хто меў у запасе якую сякую капейку, пачаў прапіваць яе.

- Навошта тыя грошы, канец свету…

Хто павінен быў узараць якую лагчынку, спасылаўся таксама на канец свету. Адным словам - разлад быў немалы.

Здарылася так, што - тады самалётаў яшчэ не было, - з Ковенскай крэпасці вайсковыя ўлады пусцілі паветраны шар, аэрастат. Пад гэтым шарам быў падчэплены вялікі кош, а ў ім сядзела трое вайскоўцаў. Была ў іх труба, каб даваць сігнал у выпадку патрэбы, быў канат, каб людзі з зямлі маглі прыцягнуць шар да зямлі, калі з каша выкінуць канец. Паколькі і газет у нас ніхто не выпісваў, пра такую падзею нашы вяскоўцы нічога не ведалі і не чулі.

Паветраная плынь панесла гэны шар на поўдзень ад Коўна. Несла, гнала яго і падагнала да нашых мясцін. Тым часам у тым шары нешта сапсавалася, і з яго памалу пачаў выходзіць газ, якім ён трымаўся на вышыні. Заўважыўшы гэта, аэранаўты вырашылі, што ім трэба ў прыдатным месцы апусціцца на зямлю, каб ратаваць жыццё. Нашы Агароднікі ім зверху, з неба, спадабаліся. Вайскоўцы выкінулі з каша канец каната і пачалі трубіць у трубу, каб звярнуць увагу людзей на канат, каб людзі прыцягнулі іхні шар да зямлі.

Але людзі страшэнна напалохаліся. Пачуўшы трубныя гукі, згадаўшы апавяданні розных бадзяг-вандроўнікаў, яны падумалі, што сапраўды пачаўся канец свету, што гэта «анёл боскі» лётае над імі і заклікае на страшны суд.

Ніхто да таго каната блізка не падышоў, усе кінуліся ў хаты, пабралі абразы, павыносілі на панадворак, укленчылі і, як хто ўмеў, пачалі маліцца. Жуда была страшэнная. Мне здавалася, што аж зямля пада мной калышацца, вагаецца. Каровы рыкалі, сабакі гаўкалі, куры ўзляталі на платы і стрэхі з гучным кудахтаннем. Здавалася, што і сонца свеціць слабей і зусім не грэе…

Адзін наш жыхар, Мацей Юц, замест абраза схапіў качаргу. З ёй і стаяў, укленчыўшы, на панадворку.

Тым часам паветраны шар адагнала ад нашай вёскі ў канец поля, пад Манькавічы. А было ж там урочышча, якое звалі Гарэлым балотам. Чаму Гарэлым? Бо калісьці хлопцы, пасвячы коні, упалілі торф на тым балотцы. Гарэла яно гады, пэўна, два, зімой і летам. Калі торф выгараў, увесь верх, разам з лесам, абрушыўся ў тую выгарыну. Толькі верхавіны дрэў засталіся на ўзроўні зямлі. Таму і пайшла ў нас назва - Гарэлае балота.

Пакруціўшыся над гэтым урочышчам, канец каната зачапіўся за нейкую верхавіну, пасля чаго шар павольна апусціўся на дол.

Павылазіўшы са свайго каша, аэранаўты забралі свае прылады, трубу і прыйшлі пехатой у нашу вёску, каб адпачыць і падсілкавацца. Прыйшоўшы ў вёску, яны і пабачылі, якое там адбываецца багамолле. Тут адзін «анёл боскі» і пачаў лаяцца, ды так, як да таго ў нас ніхто ніколі не лаяўся. Пры тым ён усё пытаўся:

- Чаму вы за канат не цягнулі?

Тады толькі ўсе зразумелі, што гэта ніякія не анёлы, калі так добра ўмеюць сварыцца. Сталі ўсе па адным уставаць, заносіць у хаты абразы. Так пачаўся, так і скончыўся «страшны суд» у нашай вёсцы. Але не канчаўся ён доўга для таго дзядзькі Мацея, які жыў у канцы вёскі. Вясковыя дуронікі, пабачыўшы здаля дзядзьку Мацея, кленчылі на зямлю, узяўшы ў рукі якія кійкі. Гэта нагадвала тое, як Мацей калісьці стаяў, укленчыўшы, з качаргой у руках.

Бацькі ды наогул старэйшыя людзі-суседзі за такія камедыі не хвалілі дуронікаў, а давалі або пугай пад лыткі, або жыгучкай у штаны. Сапраўды, чаго ж там выскаляцца са старога: не адзін ён тады настрашыўся. Уся грамада страху мела больш, чымсьці трэба...

## Незапрошаныя візіцёры

Сучасныя юныя чытачы і, праўду кажучы, многія дарослыя людзі, не ведаюць, не ўяўляюць сабе, як цяжка было ў перадрэвалюцыйным часе знайсці якую добрую кніжку для чытання. Вясковыя дзеці бачылі фактычна толькі адны школьныя падручнікі, ды і тых было небагата: кніга для чытання, задачнік і «закон боскі». Бібліятэк для рабочых і сялян, асабліва ў сельскай мясцовасці, не было нідзе ніводнай. Паны мелі ўласныя вялікія і багатыя бібліятэкі ў сваіх палацах, але туды простых людзей ніхто не дапускаў. Ды і большая частка кніг у панскіх бібліятэках была на замежных, не зразумелых нашаму народу мовах. Адзіныя даступныя кніжкі, якія прадаваліся па капейцы за штуку на ўсіх

кірмашах і фэстах, гэта казкі пра Баву Каралевіча, Еруслана Лазаравіча і падобныя да іх. Толькі напярэдадні рэвалюцыі пачалі з'яўляцца іншыя танныя выданні, галоўным чынам, маленькія апавяданні Льва Талстога.

Нас, дзяцей, цікавілі кнігі ўсялякія. Нам дужа хацелася даведацца, якія краіны ёсць на свеце, якія там людзі і як жывуць. Аб тым, што ў тых краінах жывуць не так, як у нас, мы добра ведалі ад сваіх землякоў, якія ездзілі на заработкі ў Амерыку і ў іншыя краіны. А потым мы сяды-тады бывалі ў князеўскай аранжарэі - велізарнай і багатай пабудове, дзе бачылі, напрыклад, пальмы, метраў па пяць-шэсць вышынёй, бачылі пярцовае дрэва, бачылі незлічоную колькасць розных кветак трапічных краін, з дзівоснымі формамі, колерамі і пахам. А садоўнік, чалавек вельмі культурны і добры, расказваў нам пакрысе пра кожную з тых краін...

І вось даведаліся мы аднойчы ад княгінінага кухара Караля, што ў палацы ёсць вялікі пакой-кабінет нябожчыка-князя, а ў ім усе сцены застаўлены вялізнымі шафамі, а ў тых шафах - кнігі, кнігі, кнігі... Папера ў тых кнігах, як скура, вырабленая. Аздоблены яны і золатам, і срэбрам, і ўсімі колерамі, якія толькі ёсць на зямлі і на небе... Сама княгіня іх, бадай, не чытае. А больш нікому не дазволена браць кнігі ў рукі. Толькі адна глухая пакаёўка, пані Марцэля, якая і пры князю там усё даглядала, зрэдку заходзіць у той пакой і выцірае пыл са сталоў і з паліц. А яшчэ стаяць там зробленыя з каменя, з мармуру, статуі тых людзей, якія пісалі кнігі для князеўскай бібліятэкі. Яны і вартуюць цяпер гэтыя кнігі, праганяюць усіх, хто не ўмее з імі абыходзіцца... І гэта не ўсё. Пасярэдзіне таго пакоя - высокае крэсла на кольцах, у якім князя вазілі да стала, па пакоях, бо ў апошнія гады свайго жыцця хадзіць ён не мог... Людзі ціхенька казалі, што гэта лёс князя пакараў за тое, што, быўшы царскім міністрам унутраных спраў, ён вельмі многа нявінных душ загубіў, пазаганяў на катаргу або і на шыбеніцу паслаў...

Паслухаўшы такія апавяданні старога Караля, - вясёлага дзеда з доўгімі сівымі бакенбардамі, мы не маглі ні спаць, ні есці, так нам захацелася пабываць у той цудоўнай бібліятэцы і самім паглядзець на дзівосныя кнігі. Адно нас толькі бянтэжыла і непакоіла - наяўнасць каменных вартаўнікоў. Як іх улітаваць і схіліць на свой бок?

Але хто ж гэта «мы»? Мы, невялічкая кампанія дзяцей, якія жылі ў маленькім сяле Манькавічах: два фельчаравы сыны, два мае браты і тры сыны мясцовага крамніка Моўшы.

Пакрысе склалі мы поўны аператыўны план свайго паходу. Самае галоўнае - каб трапіць у палац у часе адпачынку, калі сама

княгіня адпачывала на канапе і нікому з чалядзінцаў не дазволена было хадзіць праз пакоі.

Падабраўшыся да самага палаца, мы пазалазілі на высокі балкон-тэрасу, фактычна - на другі паверх. Спрыяла гэтаму тое, што ўвесь балкон быў апавіты дзікім вінаградам. З гэтай тэрасы мы трапілі адразу ў вялізную залу, у хараство, не бачанае намі. На столі, на сценах былі выраблены з белага каменя кветкі, лісце, постаці людзей, і малых і дарослых, і мужчын і жанчын, але, бадай, зусім распранутых. Толькі на некаторых былі нібы лёгкія нажутачкі, а то і проста як бы хусціначкі. Гэта нас дужа здзівіла. Мы паспрабавалі нават растлумачыць такую акалічнасць: мабыць, горача ў іх, вось яны і параспраналіся. Уразіла нас яшчэ падлога. Чулі мы даўно, што паркет у палацы націраюць пчаліным воскам. Але ж адно слухаць, а другое бачыць: мы проста падалі на гэтай падлозе, як зімой на возеры, да таго яна была слізкая. Апрача ўсяго, мы, як у люстэрку, адлюстроўваліся тут... Але ж далей, далей! Мы прыйшлі не на княгінінай падлозе коўзацца, а кнігі чытаць.

З гэтай залы было некалькі дзвярэй. На наша шчасце, мы адчынілі дзверы не насупраць балкона, - бо якраз трапілі б у той пакой, дзе адпачывала княгіня, - а на правую руку і выйшлі ў доўгі калідор. У гэтым калідоры было, пэўна, дзесяцера дзвярэй у розныя пакоі. Мы, ідучы калідорам, адчынялі па чарзе дзверы ў кожны пакой, але не заходзілі ў іх, бо для нас там не было нічога цікавага: сталы, ложкі, карціны... І вось, нарэшце, прачынілі мы дзверы ў які шосты або сёмы пакой.

Божухна! Праўду, шчырую праўду казаў нам сівы Кароль! Шафы, шафы, шафы і ўсе са шклянымі дзверцамі, ды ад падлогі да самай столі... Нават паміж вокан знадворнай сцяны шафы, шафы... І ва ўсіх жа шафах - кнігі, кнігі, кнігі... Мала таго, на некаторай адлегласці ад шафаў вялікія стосы кніг проста на падлозе. Гэта, мабыць, тыя, для якіх не знайшлося месца ў шафах. А на высокіх упрыгожаных слупках-тумбачках каменныя вартаўнікі - сталыя людзі, з мудрымі, высокімі лбамі... Пакланіліся мы ім - маўчаць. Падышлі да шафаў, азірнуліся на іх - не чапаюць нас, не кратаюцца.

- Чаго ж нам баяцца іх! - рассудзіў старэйшы брат. - Яны пісалі свае кнігі для людзей. Мы іх не псуём. Чаго ж ім гневацца на нас?

І мы ўсе кінуліся да кніг. Бралі адну, гарталі, разглядвалі малюнкі, на якіх былі ніколі не бачаныя намі краявіды, людзі, убранні, бралі другую, трэцюю...

Мы проста сп'янелі ад гэтых кніг, ад усяго багацця, ад усяго хараства, пра якое, зразумела, раней не маглі і ў сне сасніць...

Некаторыя старонкі былі незразумелыя для нас, некаторыя - зразумелыя нават без тлумачэнняў. Мы захапіліся гэтымі кнігамі і зусім забыліся на тое, што ў палацы, што мы прыйшлі сюды недазволеным шляхам, што нас за гэта могуць пакараць вельмі жорстка. Хто стаяў, хто сядзеў на падлозе, выцягнуўшы ногі і паклаўшы на іх кнігу. А я ўзяў такую тоўстую і цяжкую кнігу, што не мог яе трымаць ніяк. Доўга не думаючы, паклаў яе на стол, сам падагнаў князеўскае крэсла, сеў у яго і пачаў лёгка і свабодна гартаць старонку за старонкай. Сустрэўшы вялікую рэпрадукцыю, я разгарнуў яе перад сабою на ўсю шырыню.

У гэты момант глухая пакаёўка, пані Марцэля, ішла нечага калідорам. Яна пабачыла непарадак: няшчыльна прычыненыя дзверы ў князеўскі кабінет. Падышла да іх і бачыць, - так яна апавядала пасля:

- Сядзіць у крэсле сваім нябожчык-князь і гартае старонкі ў кнізе, чытае яе.

Пакаёўка крыкнула немым голасам і самлела. У палацы, у дальніх пакоях, пачаўся стукат-грукат. Гэта - ішла дапамога. Нам не было чаго чакаць далей. Мы выскачылі ў калідор, аж чуем - у зале ўжо ходзяць людзі, набліжаюцца да нас.

Дзе ж нам ратавацца? Замітусіўшыся ў калідоры, мы пабачылі ў самым канцы яго жалезную вінтавую лесвіцу, якая вяла на гарышча палаца. Узбеглі мы па гэтай лесвіцы так хутка, што проста дзіва. Там зачынілі за сабою жалезныя дзверцы і пачалі думу думаць: што рабіць? Унізе - грукат, стукат і беганіна не спыняліся доўга. Чулі мы і словы:

- Доктара! Паклічце доктара!

Глянем у акенца - высока, ні саскочыць, ні злезці нельга, немагчыма. Так і сядзелі мы да самага цямна. Тады толькі павылазілі са свайго схованішча, на пальчыках прайшлі зноў калідорам, праз залу і, урэшце, дыхнулі свежым паветрам: саскочылі з балкона на зямлю...

Трэба сказаць, што доктар, - бацька двух нашых сяброў, - пакліканы на дапамогу да хворай, вельмі хутка зразумеў, якія тут здані вандравалі. Зазірнуўшы ў князеў кабінет, ён пабачыў на пыльнай падлозе сляды дзіцячых ног.

Дома наша мама таксама ўстрывожана пыталася:

- Дзе ж вы былі так доўга?

Мы адказвалі:

- У рыбу хадзілі...

- А дзе вашая рыба?

- Ды кепска бралася...

Здагадаўся яшчэ аб усім стары кухар Кароль. Бываючы ў нас, ён некалькі разоў паўтараў:

- Цяпер старую цяцеру Марцэлю кіем не загоніш ў той калідор. Прыходзь хто хочаш і чытай супакойна кнігі.

Гэта ён нібыта заахвочваў нас паўтарыць свой візіт. Але мы больш не хадзілі ў палац. Самі мы напалохаліся не горш за Марцэлю...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Цяпер, бачачы, як людзі з кватэр выкідаюць у смецце або аддаюць у макулатуру добрыя кнігі, часопісы, бо яны сапраўды замінаюць, я аж сумаваць пачынаю. Мне ўспамінаецца адразу маё першае знаёмства з кнігай, павага да якой засталася на ўсё жыццё.

## Пажар

Два з паловай палі нашай вёскі апаясвала рака. Паплавы на абодвух берагах гэтае ракі належалі нам. За паплавамі на левым баку ракі - панскі лес. Для нашай вёскі была вялікая выгода, а пану гэта дужа не падабалася, бо і сенажаці на левым баку добрыя і праз тыя сенажаці нашым людзям было латвей гаспадарыць у лесе.

Вось аднойчы панскі адміністратар знайшоў нейкія старадаўнія паперы, якімі пачаў даводзіць, што ўвесь поплаў на левым беразе ракі з'яўляецца ўласнасцю князя, а нам належыць багністае балота Залатуха, якое знаходзіцца на адлегласці трох вёрст ад нашай вясковай зямлі, у сярэдзіне панскага лесу.

Пра гэта ўсё абвясцілі нашай грамадзе вясной 1905 года і папярэдзілі, каб мы нават не думалі касіць паплавы.

Нашы вясковыя гаспадары страшэнна абурыліся, сабралі грошай і паслалі сваіх прадстаўнікоў у Вільню да адваката.

Адвакат азнаёміўся ўважна з усёй справай і сказаў ім так:

- Браточкі! Праўда - ваша. Тым не менш, я даю вам раду скарыцца, узяць тую гнілую Залатуху, якую вам даюць, і адступіцца ад паплавоў...

Прадстаўнікі абурыліся:

- Як так? Мы будзем судзіцца! Закон вышэй князя!

- Браточкі, - зноў кажа адвакат, - увесь царскі закон стане за князя. Хто такі ваш князь? У нядаўнім - царскі міністр унутраных спраў. Калі вам прысудзіць адзін суд, нават два, - князь падасць скаргу ў сенат, а там вырашаць справу абавязкова на князеву карысць. У гэтым я перакананы. Што ж будзе ў вас? Прасудзіце грошы і змушаны будзеце ўзяць тое ж самае балота. Што да

мяне - дык я ўзяўся б весці вашую справу без ніякай платы, без грошай, каб была хоць маленькая надзея на поспех...

Вярнуўшыся ў вёску, пасланцы так слова ў слова і сказалі. А тым часам надышла пара і сена касіць. Адкляпалі косы ды і выйшлі ўсе нашыя людзі на левы бок ракі. А паны панаймалі ў суседніх вёсках касцоў, далі ім на грыўню больш, чым звычайна, і таксама паслалі на той жа поплаў.

Нашы косяць, а тыя, нанятыя, стаяць і глядзяць. Панскія прыганятыя конна гайсаюць, галасуюць:

- Што вы стаіцё? Жанеце іх адсюль! Мы вас навошта наймалі?

Адзін з нанятых і адказаў:

- Вы нас наймалі свае лугі касіць, а прывялі нас на сялянскія. Дык мы і паможам сваім братам касіць, каб час не марнаваўся...

Пасталі побач з нашымі людзьмі ды, як той казаў, адным махам увесь вялізны поплаў і скасілі. А надвор'е было добрае! Сена сохла хутка. На другі дзень па абедзе і стажкі склалі. На трэці дзень пазапрагалі коні і выехалі вазіць сена ў свае пуні.

Калі глянулі, аж цэлы эскадрон царскіх карнікаў прыкаціў. Акружылі нашых вяскоўцаў, сагналі іх у адзін круг ды бізунамі, ды бізунамі. А ў бізуны дрот паўвіваны, а на канцах - свінец зашыты. Так секлі, так лупцавалі, што крывавыя пырскі ляцелі. Енк, гвалт такі ўзняўся, што не тое каб левы бок ракі, але і правы гатовы былі аддаць князю.

Нацешыўшыся да сыці, далі загад класці сена на вазы і везці яго ў панскія пуні.

Да самага цямна вазілі. Усё сена адвезлі. Панскі адміністратар аб'ехаў увесь поплаў, прымусіў падгрэбсці, дзе былі пазаставаліся маленькія кідкі якія. Тады толькі адпусцілі нашых вяскоўцаў дадому. Так і выйшла, што дарма скасілі, дарма пасушылі і таксама дарма адвезлі пану ў пуню...

Эскадрон карнікаў паехаў з вясёлай песняй у маёнтак. Там такім «ваякам» выкацілі бочкі гарэлкі, - бровар у князя свой! - а на закуску і кілбасы, і вяндліна... Адным словам, баль такі закацілі, што некаторыя ўпіліся страшэнна. Песні, гойканне да паўночы былі чутны.

І вось апаўночы ўзняўся ў маёнтку пажар. Вялізны пажар. Занялося адразу ў дваццаці месцах. Гарэлі аборы, стайні, вазоўні, гумны, свірны, пуні. За вярсту ветрам адносіла дошкі з агнём.

Ад вялікага маёнтка, можна сказаць - гарадка, застаўся быў адзін палац ды некалькі камяніц. А ўсе драўляныя будынкі пагарэлі. Паабпякаліся многія карнікі, у некаторых пагарэла вопратка. Ад'язджалі яны з маёнтка накшталт напалеонаўскага войска з Масквы: хто ў цывільнай вопратцы, хто з падвязанымі

скіўцамі...

Пасля наехалі жандары, следчыя, рабілі допыты, шукалі падпальшчыкаў. Але людзі ў адзін голас адказвалі: карнікі напіліся, параскладвалі ўсюды агні, пяклі на ражэньчыках сала, самі яны і падпалілі... Так скончыўся баль. Прыйшлося ўсе будынкі будаваць нанова. А нам, сялянам, дасталася ўсё ж Залатуха замест нашых векавечных паплавоў...

## Янук Біюцкі

Вёску, адкуль ён быў родам, звалі Біюці. Ягонае імя - Янук. Усе звалі яго - Янук Біюцкі. Ніводзін чалавек у вочы не назваў чалавека дрэнна. А за вочы казалі:

- Гэта ж тады Янук Дурны быў у нас.

Той Янук, як я пачаў яго памятаць, - сярэдняга росту, не старога веку, так гадоў пад сорак. Апрануты быў у тую вопратку, якую людзі давалі, у кожным разе - у чыстую кашулю, чыстыя белыя нагавіцы. З твару ён, я сказаў бы, нават прыгожы, але нейкі тузганы. Увесь час ягоны твар быў у руху, кожная зморшчынка нібы краталася, тузгалася. Але асабліва цікавыя ў яго былі рукі. Усе людзі звярталі ўвагу на гэтыя рукі. Гэта былі не сялянскія, а нейкія панскія рукі. Іншыя нават сцвярджалі, што ён бачыць гэтымі рукамі.

- Вы звярніце ўвагу, - казалі яны, як ён аглядае дрэва. Возьме два паленцы. Памацае адно, памацае другое. Адно адразу адкіне прэч. Другое пушчае ў работу: бярэ ножык, пачынае выразаць.

І сапраўды праходзіць невялікі час - на стол стаўляе каня або кароўку, або якога звярка, або птушку. Залежна ад таго, што ён вымацаў пальцамі пры аглядзе. Просяць дзеці зрабіць птушачку, а ён, памацаўшы дрэва, - робіць коніка. Чаму? А таму, што ён угледзеў сваімі пальцамі менавіта коніка і вызваліў яго з таго палону.

Для многіх-многіх дзяцей у нашай мясцовасці гэны Янук быў найлепшы друг. Усе мы мелі цацкі з ягоных рук, ды якія мастацкія...

Згадваючы сёння таго Янука Біюцкага, я скажу:

- Не, не дурань ён быў. Быў ён выдатны майстар-мастак, толькі ўзяў на сябе непасільны цяжар: вызваліць хараство з-пад грубай абалонкі. І надарваўся ад такога непасільнага цяжару.

Вялікі мастак так і сышоў са свету, не сказаўшы таго, што мог сказаць сваімі творамі...

## Знакаміты пакупнік

Быў у нас поп, айцец Міхаіл Міркавіч. Ды не звычайны: за свае заслугі перад «верай, царом і айчынай» атрымаў ён узнагароду - архірэйскую мітру, галаўны ўбор, які надзяваецца ў часе царкоўнай службы. Узнагарода была залатая і аздоблена каштоўнымі каменьчыкамі-самацветамі. Ад яе ішло такое зіхаценне, такі бляск, што аж дзіўна было глядзець. Гэтая мітра давала гонару ўсёй нашай царкве, усёй парафіі, гэта значыць раёну. Што там абразы святых! Усе яны неяк прымерклі, стускнелі. Глядзець на мітру прыходзілі людзі з суседніх прыходаў. А манькаўцы казалі ім:

- Што ваш поп! Лысы пень нейкі! А наш - мітрай накрыты!

Больш дасціпныя меркавалі, праўда, цішэй, што мітра айцу Міхаілу дасталася не за так, не за прыгожыя вочы. Казалі, што нібыта тады, калі пераварачвалі вуніятаў на праваслаўных, забаранялі ў царквах маліцца па-беларуску, дык айцец Міхаіл самы першы пайшоў на паклон да царскага архірэя ды яшчэ іншых памагаў паварочваць на чарнасотніцкі шлях. А ці не самае галоўнае, дапамог многім упартым папам-вуніятам пераехаць у Сібір…

На якой бы мове ні маліўся айцец Міхаіл, але стрыг ён сваіх боскіх авечак плённа. Па смерці ён, даўні ўдавец, пакінуў сваім замужнім дочкам па пятнаццаць тысяч золатам у банку. А яшчэ ж засталася маёмасць. Адной рагатай жывёлы - трыццаць галоў, ды шафы, сталы, ды розная гаспадарчая драбяза… Усю ягоную маёмасць прадавалі з аўкцыёна. Таксама набралі грошай багата. Ды яшчэ я, добра не разабраўшыся, восем капеек уторкнуў на тым аўкцыёне для абагачэння паповых спадчыннікаў. Трэба сказаць, што гэтыя грошы я выпрасіў у сваёй мамы, пад свае будучыя (!) заработкі, - было мне тады восем гадоў. А паткнуўся я на той аўкцыён не выпадкова, не бяздумна. Дачуўся быў я, што будуць прадаваць там і ўсе кнігі з паповай бібліятэкі. Мне думалася, што яна ў яго была не горшая, чымсьці ў самога князя, якую мы нядаўна аглядалі.

Пачаўся аўкцыён. Паколькі пра яго было абвешчана з царкоўных амбонаў ва ўсіх бліжніх царквах, народу сабралася немаведама колькі. Бралі, куплялі нават такія прадметы папоўскага ўжытку, якія ніколі не былі і не будуць патрэбны селяніну. Дайшла справа і да кніг. Царкоўныя кнігі, псалтыры ўсялякія, «жыція святых» былі ўсе цаною не менш, чым паўрубля. Да іх я не патыкаўся. Але вось абвясцілі:

- Каталог кніг Віленскай публічнай бібліятэкі. Цана-сорак капеек. Пераплёт - скураны…

Зірнуў я. Кніга тоўстая, вялізная. А ніхто не дае ніякай цаны. Аўкцыяніст пытаецца зноў:

- Цана - сорак капеек. Хто больш?

Я, набраўшыся духу, выйшаў наперад і заявіў:

- Пяць капеек!

Пабачыўшы такога купца і пачуўшы такую цану, усе дружна засмяяліся.

Аўкцыяніст спачатку крыху збянтэжыўся, але, маючы багатую практыку, адразу знайшоўся і падтрымаў камерцыю:

- ...Каталог кніг... Цана - пяць капеек... Хто больш? Няма нікога? Хлопчык! Давай грошы, забірай гэтую каштоўную кнігу. Калі ты прачытаеш палову тых кніг, пра якія ў ёй напісана, будзеш паважаны чалавек. Калі ты прачытаеш усе - ты загінеш. Адзін розум добра, з двума - трапіш туды, адкуль назад не вяртаюцца...

Я тады не разумеў усіх ягоных прыказак, забраў кнігу і заплаціў пяць капеек. Але аўкцыяніст пабачыў, што ў мяне ёсць яшчэ тры капейкі. Гэта памагло яму ў далейшым насмяшыць увесь народ.

Падымаючы так па адной розныя рэчы, да вечару распрадаў ён бадай усё. Двое рабочых і былая ахмістрыня нябожчыка - Марыля - ледзьве паспявалі падцягваць, падносіць рэчы або падводзіць жывёлу да прылаўка. Але вось раптам на стол-прылавак паставілі нейкую зялёную скрынку, больш падобную на шпакоўніцу. Толькі што пры боку не было дзіркі для птушак ды вечка пад'ёмнае, на навесках. Прысутныя са здзіўленнем пазіралі на гэтую прыладу. Аўкцыяніст таксама, відаць, крыху збянтэжыўся і нагнуўся да ахмістрыні, пэўна што, пытаўся:

- Навошта такая скрынка была айцу Міхаілу?

Калі тая адказала, ён адразу павесялеў і пачаў гульню.

- А вось зусім незаменны ў кожнай гаспадарцы прадмет, які павінен займаць самае пачэснае месца...

Усе здзіўлена натаропіліся.

- Зроблены з самага найлепшага дрэва найлепшымі майстрамі, адпалітураваны, пафарбаваны на самым найлепшым пакосце пад натуральнае сасновае дрэва...

Усе зарагаталі.

- Скрынка для таго, каб насіць на рыбалку земляных чарвей, а ў выпадку патрэбы - маёвых хрушчоў...

Рогат узнімаўся вышэй.

- Цана! - Ён адшукаў вачыма мяне і крыкнуў:- Цана - тры капейкі. Хто больш?

Праз агульны смех даносіліся галасы:

- Аддай гэтаму хлопчыку дарма!

- Не маю права! Хлопчык! Давай тры капейкі...

Я, не кажучы ні слова, аддаў свае апошнія тры капейкі, забраў гэтую скрынку і кнігу і падаўся дахаты. Больш у мяне капіталаў не было, купляць не было на што.

Кніга стаяла ў нас да самай вайны. Я яе чытаў некалькі разоў. У памяці засталося багата назваў старадаўніх кніг і рукапісаў. Калі я паступіў у Нова-Вілейскую настаўніцкую семінарыю, мы ўсім класам былі на экскурсіі ў Вільні. Наведаліся і ў Публічную бібліятэку. Нам паказвалі некаторыя старыя выданні. Кіраўнік музея страшэнна здзівіўся, калі я пачаў пытацца:

- Ці можна паглядзець такія і такія рукапісы? А ці ёсць яшчэ ў вас такія і такія кнігі?

- Як ты, хлопча, дачуўся пра іх?

- Дужа проста: я чытаў каталог вашай бібліятэкі…

У далейшым жыцці я цікавіўся заўсёды старадаўнімі кнігамі і рукапісамі. Так мой выпадковы набытак прынёс мне пэўную карысць…

## Як старадаўнія рымскія пісьменнікі гасцявалі ў нашых Агародніках

Старадаўнія рымскія пісьменнікі Гарацый, Вергілій, Авідзій і Апулей прыехалі аднойчы ў нашы Агароднікі, асяліліся ў хаце майго прадзеда і жылі там аж да першай імперыялістычнай вайны. У часе вайны яны пакінулі нашу сядзібу і больш у ёй не бывалі. А як гэта ўсё адбылося, мы зараз даведаемся дакладна.

Пачалося ўсё даўно, у першай палове дзевятнаццатага стагоддзя. Гэта значыць, больш чым за сто гадоў да нашага часу.

Аднойчы жнівеньскім адвячоркам мой прадзед Якуб, тады яшчэ зусім не стары чалавек, сядзеў на лавачцы перад сваёй хатаю. Была субота. Усе тэрміновыя работы зроблены. Прадзед чакаў, калі ягоны сын Тодар прапаліць лазню. Жанчыны падрыхтавалі бялізну і ўсё, што патрабуецца для гэтага абраду. Раптам на вуліцы з'явіўся незнаёмы чалавек. Не падобны ён быў да селяніна, не падобны і да якога местачкоўца - ні з постаці, ні з вопраткі. Прыгледзеўшыся добра, - падарожны падышоў бліжэй, - Якуб прызнаў яго: гэта быў вяльможны пан Юстын Палівода, адзін з самых багатых абшарнікаў нашае акругі. Ён ніколі, хіба ў дзяцінстве, не ездзіў на парцы коней. Самае меншае - чацвярык стаеннікаў запрагалі ў ягоную карэту. Фарэйтары, гайдукі… Адным словам, урачыстая працэсія, вясельны поезд нейкі, а не тое, каб выезд які. Зусім зразумела, што ніколі такі поезд не наведваўся на вясковыя дарогі. Толькі трактам або бойным гасцінцам праносіўся гэты пан са сваімі паязджанамі.

А цяпер - абшморганы, збянтэжаны, ідзе ён пехатой праз такую несамавітую вёсачку, як Агароднікі. Якуб здзівіўся. Ды як жа загаварыць з ім? Панам назваць - можа, ён цяпер і не пан, суседам - каб не прыняў за кпіну якую. Урэшце дадумаўся Якуб.

- Чалавеча добры! Адпачні крыху, пасядзі.

- Дзякую. Трэба ісці.

- Вечарэе. Куды так далёка ісці трэба?

Пан Палівода падышоў з ніякаватым выглядам, сеў побач Якуба.

Пасядзелі. Пагаварылі пра надвор'е, дажджы, пра збожжа. А тут і сын Тодар прыйшоў клікаць бацьку ў лазню. Павітаўся з падарожным. Здзівіўся, бо таксама нібыта пазнаў яго. Запрасілі ў лазню і падарожнага.

- Як я пайду! У мяне і пераменкі няма.

- От вялікі клопат! Зараз нашы кабеты падрыхтуюць. Ідзі, Тодар, скажы ім! - звярнуўся да сына Якуб.

Сабраліся. Пайшлі. Памыліся. Было ўсё - і пара і бярозавыя венікі. Сам Якуб вязаў для сябе ядлаўцовыя венікі. «Лепш пара да цела прыстае, ні адзін драбочак не прападае». А распараныя ў кіпетні, - яны зусім не колкія...

Па ўсім мыцці - свежая бялізна, ільняная, адмытая лугам, выбітая пранікам у пральні, выкачаная бярозавай качалкай ды перасушаная з сухім чаборам. Ад яго, як ад найлепшых духоў, водар прыемны ледзь не тыдзень трымаецца.

Прыйшоўшы ў хату, павячэралі, як мае быць. Падарожнаму паслалі на лаве, на покуце.

На другі дзень госць, устаўшы і памыўшыся, пачаў адразу збірацца ісці.

Гаспадар яму кажа:

- Хіба так можна? Сёння нядзеля. Жанкі бліны ўчынялі. Паснедаем, а там пабачым.

Паснедалі.

- Цяпер трэба крыху адпачыць. Ды і абед неўзабаве будзе. А там - вячэра, а там трэба спаць класціся...

Так жыў пан Юстын у сялянскай хаце дзень, два, тры.

На чацвёртым дні ён зусім занепакоіўся.

- Я буду ваш хлеб дарма есці? Каб я хоць што-небудзь умеў рабіць па гаспадарцы... Нічога не ўмею! Вось жа ў гэтым увесь мой смутак.

Якуб кажа:

- А божухна мілы! Хату папільнуеш, пакуль мы ў полі будзем - вось і работа твая. А калі адвячоркам пагаворым пра тое-сёе, дык і зусім добра, нам весялей...

Нібыта супакоіўся пан Юстын. Прайшлі аж тры тыдні. На

чацвёртым зноў узняўся:

- Пайду ды пайду!

А за гэты час Якуб бадай дакладна даведаўся пра лёс пана Юстына. У кожным разе, гаспадар добра ведаў, што ісці таму няма куды. Вось жа ён і ўгаворваў госця пажыць яшчэ колькі часу.

І тут госць не вытрымаў. Ён успёрся на край стала ды... заплакаў. Заплакаў самым сапраўдным чынам. Слёзы, як той казаў, што тыя журавіны, каціліся па ягоным аблíччы.

Якуб занепакоіўся.

- Можа, хто цябе ў нас абразіў? Можа, хто чым скрыўдзіў?

- Ды не, - кажа пан Юстын. - У мяне іншыя абразы, іншыя крыўды... Вы ж, пэўна, ведаеце, быў я вялікі магнат, меў я незлічонае багацце. Не адзін маёнтак меў я, не адзін палац. І былі ў мяне накрыты сталы для гасцей, што ўдзень, што ўночы. Хто толькі з паноў меў жаданне - мог прыехаць да мяне, дняваць і начаваць, піць ды есці, што ягоная душа прымае... А яшчэ - у карты гуляць. Калі я прайграваў - сыпаў адразу золата. Калі мне прайгравалі - я не спаганяў доўгу. І так мае госці дарагія дапамаглі мне прапіць, праесці ды ў карты прагуляць палову ўсяго майго багацця. Тады мая жонка падала скаргу ў шляхецкі суд. Гэты суд прысудзіў - тую палову багацця, якая засталася, аддаць жонцы і на дзяцей, а мяне пазбавіць жаднага права на маёмасць. Я пакрыўдзіўся і сышоў ад сваёй сям'і, бо якое б жыццё мне было цяпер пры ёй - нібы нейкаму кутніку! Але - дарма! - падумаў я. - У мяне ж было столькі надзейных сяброў, я ж іх паіў, карміў, я ім з поўнай жмені золата сыпаў. Яны цяпер мяне да самай смерці пратрымаюць, як свайго найлепшага дабрадзея. Цяпер ужо не чацверыком, а пехатою прыйшоў я да першага дружбака. Толькі ўзышоў на ганак, а ён лёкаю загадвае:

- Адвядзі гэтага чалавека на кухню і скажы, каб там яго пакармілі...

Угневаўся я, пайшоў да другога дружбака. А той загадаў псоў з ланцугоў адвязаць ды выцкаваць мяне з панадворка...

Заходзіў я яшчэ да двух - і там не лепш. І пайшоў я, куды мае вочы глядзяць, на зламанне шыі... І тут сустрэўся з табой, селянінам... Вы мяне прынялі як роднага, а я вас, сялян, за ўсё сваё жыццё за людзей ніколі не лічыў, я ж для вас на сіні пазногаць нічога добрага не зрабіў. Я нават слова добрага вам, сялянам, ніколі не сказаў... Дык колькі слёз трэба мне выліць, каб змыць тую ўсю ганьбу маю...

Паслухаўшы ўважна гэтую споведзь пана Юстына, Якуб сказаў яму:

- Дык чаго ж табе, чалавеча, так непакоіцца і гараваць? Калі цябе зракласся сям'я і твае дружбакі, жыві ў нас. У нас, як сам

бачыш, багацця вялікага няма, абыходзімся і без прысмакаў, але, тым часам, здаравейшы будзеш.

- Я гарую па тым, што не магу аддзякаваць вам. Хіба што адным: я дужа добра ведаю лацінскую мову. Я навучу твайго сына Тодара гэтай мове.

- Вучы! Што чалавек ні навучыцца - за плячыма не трэба насіць, а карысць нейкая будзе...

І вось папрасіў пан Юстын са свайго колішняга маёнтка кнігі. Аддалі. Пачаў Якубаў сын Тодар, у далейшым - мой дзед, вывучаць у вольныя хвіліны латынь. Вывучыў яе так, што ў арыгінале зусім свабодна чытаў творы Авідзія, Гарацыя, Вергілія, Апулея. Вось тады і пасяліліся гэтыя выдатныя рымскія пісьменнікі ў нашых Агародніках.

Сваім аднавяскоўцам час ад часу мой дзед Тодар пераклумачваў цэлыя раздзелы з прачытаных твораў. Асабліва падабаліся нашым землякам Вергіліевы «Георгікі». Пакуль быў жывы пан Юстын, ён удзельнічаў у тых чытаннях, а калі памёр - пахавалі яго на каталіцкіх могілках. На крыж, апрача Езуса, прыбілі дзве дошчачкі, маляваныя пад выгляд кніг. На адной напісалі «Vergilius», а на другой «Ovidius». Так са сваімі самымі надзейнымі дружбакамі пайшоў стары Палівода ў апошняе падарожжа...

## Смерць майго прадзеда Якуба

Пражыўшы сто тры гады на свеце, прадзед мой Якуб раптоўна аслеп. Дактароў у нас тады не было, даць добрага зелля або зрабіць аперацыю - не было каму. Паклікалі з суседняй вёскі нейкую бабульку-знахарку. Яна паглядзела, памацала ягоныя вейкі сваімі заскарузлымі ад працы старымі пальцамі і запыталася:

- Дык ты нічога не бачыш, Якубе?

- Нічога.

- І мяне не бачыш?

- І цябе не бачу.

- І сонейка яснага не бачыш?

- Адчуваю, як яно свеціць, як грэе, а бачыць- нічагутанькі не бачу...

- Ты ж не стукнуў нічым у вочы, яны ў цябе не выбалелі, ніякай хваробы звонку на іх няма. Значыцца, у іх набралася цёмная вада. Квіта. Ніякай зёлкай, ніякай замовай памагчы нельга.

- Дзякую і на тым, на тваёй спагадзе і добрым слове.

Пасля таго прадзед папрасіў свайго сына Тодара, каб ён

прапаліў лазню. Хоць яе палілі два дні таму назад, але сын, ні слова не сказаўшы бацьку, зрабіў усё паводле ягонага загаду. Папрасіў прадзед сына:

- Звадзі ты мяне, сыночак мой адзіны, у лазню і памый ты мяне ў апошні раз...

Сын ледзь не самлеў.

- Татачка родны, што ты такое кажаш? Аж слухаць страшна...

- А ты не страшся, сынок. Я памру праз малы час. Жыць дармажэрцам я не буду, а працаваць больш - не магу...

Сын зноў яму:

- Тата, мілы! Зямлі ў нас валока. Я ў цябе адзін. Усё, што ў нас ёсць - запрацавана тваімі рукамі, усё - тваё. Нават каб ты яшчэ такое жыццё пражыў не працуючы, табе ўсяго хопіць. Апрача таго, ты ж можаш, - калі табе схочацца, выйсці памаленьку з хаты і кійком па плоце пастукаць, курэй папужаць, дык і то будзе работа не малая. Ды ці мала чаго ты здолееш рабіць. А самае галоўнае - што ты будзеш мне добрыя парады даваць, а гэта - даражэй усякай работы...

Заладзіў прадзед адно:

- Гэта ўсё не тое, гэта ўсё не для мяне, не хачу дармажэрцам на свеце жыць...

Памыўся ў лазні, апрануў чыстую кужэльную кашулю, нагавіцы, лёг на свой ложак і не стаў ні піць, ні есці. Як яго прасілі, як яго малілі - кленчылі перад ім, не ўзяў ні кроплі вады, ні крошачкі хлеба. На шостыя суткі стары Якуб аддаў богу сваю душу. Але, як растлумачыў манькаўскі поп: «Бог душу старога Якуба не прыняў ні ў рай, ні ў пекла не накіраваў, бо, паводле царкоўнага закону, ён - самагубца». А з гэтае прычыны поп не дазволіў хаваць нашага прадзеда на манькаўскіх могілках, пры царкве. Быў ён пахаваны ў канцы вёскі Агароднікі, пры выездзе з вёскі завулкам на так званае Пралле, куды бабы насілі і вазілі праць бялізну. Над ягонай магілкай стаяў высокі дубовы крыж. На тым месцы былі калісьці Агародніцкія старыя могілкі. Людзі казалі, што стары Якуб не мае сабе прытулку на тым свеце і ходзіць па зямлі, але, зразумела, нікому ніякай крыўды не робіць па смерці, як не рабіў яе нікому і пры жыцці. Казалі яшчэ мне, што быў ён дужа мудры, ведаў назву кожнай зоркі на небе і мог вызначаць час, у які трэба сеяць тое ці іншае збожжа...

## Як маленькі сабачка вялікую справу зрабіў

Мая маці нарадзілася ў маленькай вёсачцы Язы, паміж Варанцом і Шабанамі. У вёсачцы было ўсяго пяць-шэсць хатак, стаялі яны, як засценачкі, - наводдаль адна ад адной. Зямлі ва ўсіх гаспадароў было таксама мала. Але затое ўсе малазямельныя сяляне мелі па надзелу возера Доўжа. Гэта значыцца, толькі яны мелі права лавіць на той дзялянцы возера рыбу сеткамі. У дзеда, Янкі Гайдуковіча, пры доме быў яшчэ сад, былі пчолы. Адно да аднаго, а тут яшчэ лес панскі блізка зусім - вось і жылі не кепска. А сям'я не малая - пяць дачок ды сын. Толькі сын, вывучаны на ўсе апошнія сродкі сям'і, памёр у Пецярбурзе, захварэўшы на сухоты. Старэйшая дачка была замужам. Астатнія дзяўчаты - на выданні. Усе яны былі дужа працавітыя: і ткаць, і сеткі вязаць, і ў полі, і ў агародзе... І вось, як гэта вялося з пракон веку, напралі-наткалі дзяўчаты кожная сабе, у свой кубел, рознай ільняной тканіны на пасаг. Кублы стаялі ў невялічкім свірне, у садочку, зусім блізенька ад хаты, але як бы праз вулачку, якой пад'язджалі да гумна, да хлява. Самае каштоўнае сямейнае дабро таксама трымалі ў свірне.

У той жа час быў у іх маленькі сабачка. Узялі яго шчанючком у нейкім панскім двары. Пакаёвага тыпу сабачка. Ні брэху з яго гучнага не было, ні ўкусіць, каб і трэба, нікога не здолеў бы, але дужа разумны. Навучыўся ён, ці сам, ці дзяўчаты прывучылі, у выпадку якой небяспекі не гаўкаць, а станавіцца на прызбу і лапкамі ў абалонку барабаніць. Падыходзіць хто чужы - сабачка адразу і пачынае барабаніць лапкамі. У хаце ўжо ведаюць, што нехта чужы да брамы падышоў. Праўда, і есці захацеўшы, таксама барабаніў. Аднойчы, увосень, калі ночы зімныя, цёмныя, неяк перад раніцай пачаў сабачка ў акно барабаніць. Бабуля прачнулася ды і кажа дзеду:

- Янка, устань, нешта сабачка ў акно барабаніць.

А той, угрэўшыся, не хоча ўставаць.

- Ат, кажа, глупства. Замёрз, у хату просіцца.

Праз пару хвілін будзіць зноў дзеда бабуля:

- Янка, устань! Ніколі так не было. Ну проста безупынна барабаніць па абалонцы.

З неахвотай, але дзед устаў, падышоў да акна і ледзьве не самлеў: «Людцы добрыя!» Стаяць у яго на панадворку дзве фурманкі, свіран адчынены, а нейкія два чалавекі кублы са свірна выносяць ды на фурманкі грузяць.

А дзед з маладосці - ляснік. У яго была добрая стрэльба. Вісела гэтая стрэльба над ложкам і набоі пры ёй гатовыя. Хапіў дзед стрэльбу ды праз фортку, не прыкладваючыся, і стрэліў. А на гары, пад раніцу, дык нібыта з гарматы выбух атрымаўся. Тыя

зладзеі добра такі напалохаліся і - наўцёкі, пакінуўшы свае фурманкі. Ад такога грукату і ўся сям'я прачнулася ды ўголас, ды на панадворак. Коні тыя адразу адпрэглі, завялі ў хлеў, кублы пазаносілі ў сені, і ніхто заснуць не можа. Як развіднела, пайшлі коні глядзець. Аднаго каня дакладна пазналі, чый, з якой вёскі. Другі, - відаць, дальні нейкі. І вось, калі добра дзень раскрыўся, з'яўляецца ў хату гаспадар пазнанага каня.

- Даруй, кажа, Янка! Я невінаваты, нячыстая сіла мяне змусіла...

Падумаў, падумаў дзед - заяві, падай у суд, дык яшчэ больш звыдаткуеш, чым яны меліся ўкрасці. А калі іх засудзяць - дык хто з іхніх сяброў прыйдзе ды падпаліць... Заціснуўшы сваю крыўду, пасварыўся, пасварыўся ды аддаў і коні, і фурманкі.

Вось вам і маленькі сабачка...

## Здарэнне з язоўскім дзядулем

Ідучы з сякерай лесам, дзядуля заўважыў, што нешта каляровае каля дупла мільганула. Падышоўшы бліжэй, ён, не перакладаючы сякеры з правай рукі ў левую, засунуў у дупло менавіта левую руку.

Чуе, што нехта або нешта нібыта абцугамі сціснула яму сярэдні палец і пачало грызці. Напалохаўшыся, ён борзда пацягнуў руку к сабе, з дупла. За рукой пацягнулася і вялікая птушка, у якой, толькі крыху пачакаўшы, ён распазнаў жаўну. А спярша яна здалася яму нейкім пачварным, пякельным стварэннем. Дзядуля пачаў трэсці рукой, каб птушка выпусціла ягоны палец. А яна - ніяк. Мабыць, са страху і сама не можа разявіць дзюбу. Не падумаўшы, што ён робіць, дзед падбег да пня ды сякерай і даў па птушынай дзюбе. Адсек палову дзюбіка, а разам з ім і канец свайго сярэдняга пальца.

Пра гэта ён нам ніколі не расказваў. Але аднойчы ішлі мы разам з ім лесам і адзін з нас палез рукой у дупло, каб праверыць, што там ёсць. Тады дзядуля і паказаў нам левую руку:

- Бачыце? Быў такі цікаўны, як вы цяпер. Вось і палец пакалечыў. Не раіў бы і вам без дай прычыны лезці са сваёй рукой туды, куды вас не просяць...

Зразумела, розныя бываюць дуплы, і не ў кожным абавязкова сядзіць жаўна. Здараецца, што і на змяю натрапіш...

## З бацькам

Бацька мой, калі б я ў яго пра што ні пытаўся, ніколі не адмаўляўся даць адказ. Магчыма, таму, што пытанні мае былі простыя, нескладаныя.

Асабліва багата пытанняў я даваў яму, калі мы з ім бывалі ў лесе ці на балоце. Пытаўся я тут пра ўсё: пра жыццё звяркоў і птушак, пра паасобныя расліны, пра тое, якую яны людзям прыносяць карысць. Сам ён, не чакаючы маіх пытанняў, паказваў шкодныя расліны, папярэджваў не чапаць іх рукамі, не есці ніколі. Нягледзячы на тое, што я параўнаўча быў малы, бацькавы тлумачэнні засталіся ў маёй памяці да сённяшняга дня. Чытаючы ў пазнейшыя гады навуковыя, спецыяльныя творы, я знаходзіў, зразумела, непараўнана больш грунтоўныя тлумачэнні, але самы асноўны сэнс мне быў вядомы. Вось некалькі прыкладаў.

Ідзём мы і бачым штабель сасновых бярвенняў. Па бярвенні ходзяць местачковыя козы і абдзіраюць падкоркавы слой, кашульку белага колеру, ды са смакам ядуць яе. Я пытаюся, няўжо яны галодныя, што ядуць дрэва. Бацька мне тлумачыць, што ў галодныя гады людзі адмыслова нарыхтоўвалі гэты падкоркавы слой сасны, сушылі, таўклі або малолі і выпякалі з яго хлеб. І хлеб не такі ўжо кепскі і водар дужа прыемны. Пазней я прачытаў, што з гэтага матэрыялу ў заводскім маштабе пачалі здабываць... ванілін. Вось адкуль той водар!

Ідзём мы праз балота. Бачым - стрэлкаліст. Не паленаваўся бацька, дастаў пару раслін, паказаў мне корань, а на ім - як невялічкія бульбінкі, велічынёй з лясны арэх.

- Пакаштуй, - кажа бацька. - Гэтыя бульбінкі можна есці нават сырыя...

Чытаю шмат пасля, што па-за межамі нашай краіны некаторыя народы да сённяшняга дня выкарыстоўваюць гэты караняплод у сваім меню, сушаць яго, нарыхтоўваюць рознымі спосабамі для зімы... І багата, багата каштоўных раслін, дзікарослых, паказваў мне мой бацька... Яго тлумачэнні не былі вынікам якой-небудзь ягонай асабістай мудрасці. Яны былі вынікам вопыту папярэдніх пакаленняў нашага народа, шматгадовых назіранняў, вынікам дасягненняў, да якіх наш народ прыходзіў вобмацкам у цяжкія перыяды свайго жыцця.

## Ай, чорт!

Бацька са сваім суседам хадзіў час ад часу ў рыбу. Лавілі брэднем, так званым трайнікам. Трэцім яны бралі мяне. Хоць гадоў мне не так многа, але ростам я быў роўны з суседам. Апрача таго, умеў добра плаваць. Калі брэдзень заводзілі на глыбіню, я, стоячы за дзяда, мог лёгка праплысці за сваім колікам і не ўпусціць рыбу. У рыбу мы хадзілі выключна звечара і да дванаццатай гадзіны ночы. Сусед быў перакананы, што а дванаццатай гадзіне ночы выходзіць з розных сховішчаў уся нячыстая сіла: вадзянікі, русалкі, ведзьмы, - і лепш з імі не сустракацца.

Пайшлі мы аднойчы ў князеўскую раку, што цячэ ад нашых Стажкоў цераз лугі, якія называюцца Сутокі.

Заходзілі мы са сваёй прыладай ціха, лішне не боўталіся, каб не палохаць рыбу. Лавілася добра. Пудовыя торбы, якія віселі цераз плячо ў кожнага, былі напалову запоўненыя лінямі, язямі, акунямі. А час набліжаўся да поўначы. Сусед ужо разы са два нагадваў пра гэта. Бацька, жартуючы, адказваў, што сёння нячыстая сіла выйдзе на гадзіну пазней, бо так у іх гадзіннік паставіў п'яны загармістар, местачковы гадзіннікавы майстар. Бацька прапанаваў абавязкова зайсці ў затончык, увесь бераг над якім быў закрыты алешнікам.

Ціхенька-ціхенька абышлі мы затончык, развёўшы крылы брэдня, і пачалі іх сціскаць, падводзіць адно да аднаго. У гэты момант паміж крыламі ўзняўся такі лопат, такі гармідар, затрубілі нейкія трубы, можна было напалохацца і вельмі смеламу чалавеку, які ні ў якую нячыстую сілу не верыць. Сусед жа напалохаўся страшэнна, што я і адчуў па крылу, якое пачало віхляцца ва ўсе бакі. У гэты момант мне ў карму нешта стукнула. Я, не пускаючы свайго дзяда, мацнуў рукою і трапіў на нейкія кіпцюры. Не думаючы доўга, выгукнуў:

- Ай, чорт!

Сусед адразу кінуў сваё крыло, якое ледзь паспеў перахапіць тата, выскачыў з вады на бераг і адтуль падаў голас:

- Няхай яна затоне такая рыба! Даўно трэба было канчаць!

Тым часам я абмацваў рукою пад вадой сваю здабычу. Урэшце спавясціў:

- Не, гэта не чорт, а качка.

Сусед тады бултых з берага ў ваду ды пытаецца:

- Адна? А як жа мы будзем дзяліць?

Я засмяяўся:

- Ніяк! Вы ж адмовіліся ад яе.

Так і выйшла: рыбу мы падзялілі на тры часткі, а качку я аднёс дадому.

Была гэта не старая качка, а качанятка. Мама падрэзала яму крыльцы. Пасядзела качанятка колькі дзён у хаце. Пачало адразу свойшчыцца, звыкаць да людзей. Маці стала выпускаць яго на панадворак да курэй, да гусей. Так яно і жыло ў нас да самай восені. Сусед, праўда, некалькі разоў пытаўся, калі будзем дзяліць качку, але я адмаўляўся. А тут пачалі ляцець птушкі ў вырай: журавы, гусі, качкі... Калі паляцелі качкі, закрычалі з неба, наша Шэрачка, - так мы яе звалі, - спачатку пачала бегаць па дварышчы, тыкаючыся ў плот, у сцены, а пасля ўзнялася на крылле, бо яно адрасло за які месяц, і падалася да чарады. Мы ўсе стаялі і глядзелі, як Шэрачка знайшла сваіх сябровак у бясконцым небе. Мама наша сказала:

- Свеце мілы! Як свой да свайго горнецца, як воля вабіць усіх... Здаецца, чаго ёй у нас не хапала, не крыўдзіў ніхто, але ж не - там лепей...

Вясною, калі з выраю птушкі ляцелі, адна качка разы са два над нашай хатай пракружылася. Можа, хворая якая, а можа, і наша Шэрачка прызасталася прывітаць нас. Хто ж цяпер скажа...

## Што расце на жабінай скуры?

У ліку дзвюх найлепшых школ дарэвалюцыйнай Віленшчыны была Мядзельская. Дзякуючы шчасліваму збегу сямейных акалічнасцей, давялося і мне два гады вучыцца ў гэтай школе. Усе прадметы ў чацвёртым і пятым класах вывучаліся паводле гімназічных падручнікаў. Асабліва матэматыка і прыродазнаўчыя навукі. Усе вучні імкнуліся вучыцца як мага лепш, не заставацца ззаду ад сваіх сяброў. Кожны марыў аб тым, каб пасля гэтае школы пайсці вучыцца далей. Ва ўсякім разе ўсім было добра вядома, што век непісьменных скончыўся. Усюды, куды не паткнешся, перавагу аддавалі пісьменным людзям. Адзін іраз на год, звычайна вясной, прыязджаў у школу з Вілейкі, з нашага павятовага горада, інспектар. Такімі інспектарамі былі збольшага настаўнікі гарадскога чатырохкласнага вучылішча. Былі яны людзі добра адукаваныя, паканчалі настаўніцкія інстытуты або ўніверсітэты. Насілі настаўніцкую форму: сінія сурдуты з пятліцамі і залатымі гузікамі. Для нас, вясковых дзяцей, якія не бывалі далей свайго мястэчка, не бачылі ні чыгункі, ні, тым больш, аўтамашын, а начальства бачылі толькі на пошце - прыезды інспектара былі вялікай падзеяй. Усе хваляваліся: у такія прыезды строга правяраліся і нашы веды.

Вясной 1914 года стала вядома ў нашай школе, што да нас едзе інспектар і будзе дакладна праз два дні. Перад гэтым была

праведзена вялікая падрыхтоўка, а больш правільна сказаць - праверка. Наш настаўнік бегла сам экзаменаваў усіх вучняў і па ўсіх прадметах. Здавалася, што ведаем мы ўсю праграму на «выдатна». Настаўнік нас папярэдзіў, каб мы не палохаліся, бо ў выпадку чаго сорамна будзе яму, настаўніку. Школу прыбралі, аздобілі зелянінай. Урэшце інспектар прыехаў. Быў гэта вельмі вясёлы, жвавы, малады яшчэ чалавек. Правяраў ён нас нават з меншай прыдзірлівасцю, чымсьці наш настаўнік. Спачатку мы крыху хваляваліся, а пасля другога ўрока асвойталіся і адказвалі дужа добра і спакойна. Інспектар не ўтрымаўся, каб не сказаць пра ўсё добрае ў нашай прысутнасці. Такое бывае рэдка.

- Дам я вам яшчэ адно-аднюсенькае пытанне, - звярнуўся інспектар да нашага выпускнога класа. - Што расце на жабінай скуры - воўна або пух?!

Калі на кожнае папярэдняе пытанне ўзнімалася дваццаць - трыццаць рук, дык на гэтае не ўзнялося ні аднае. Мы ўсе задумаліся: нібыта на жабе, апрача слізкае скуры, нічога няма, ні воўны, ні пуху, але ж такі паважны чалавек пытаецца...

- Дык што ж вы, гэткія выдатнікі, не ведаеце такой простай рэчы? - запытаўся ён зноў.

І тады падняў руку адзін наш хлопец, Амброжы, заікасты.

- Скажы!

- П-п-п-пух! - выціснуў ён пры абсалютнай цішыні ў класе.

Засмяяліся ўсе без выключэння. Бедны Амброжы пачырванеў, збянтэжыўся.

- Сядай, хлопча. А цяпер хто дасць правільны адказ: чым пакрыта жаба?

Усе паднялі рукі. Адказ задаволіў інспектара. А для нас, як пасля тлумачыў настаўнік, гэта быў урок на ўсё жыццё: трэба добра вывучаць усе навукі, каб змагчы самастойна адрозніць праўду ад няпраўды.

## Не спакушай двойчы свой лёс

Калі хто-небудзь з нашай сям'і хадзіў з мястэчка Мядзела ў старое Мядзела, дзе была пошта, мядзельскія крамнікі прасілі ўзяць і за адным заходам аддаць на пошту іхнія грошы, якія яны пасылалі пад тавары. Грошы былі па тым часе вельмі немалыя: па дзве-тры сотні рублёў. Мы не адмаўляліся, бо цяжкага ў гэтым нічога не было. Але вось здарылася такое.

Мой самы старэйшы брат Ваня, які з Вільні прыехаў на зімовыя вакацыі, падвязаўшы канькі, накіраваўся на пошту. Па дарозе яго папрасіў адзін крамнік, каб ён узяў заадно і адправіў

семсот рублёў. Брат узяў і - гайда праз возера. Грошы з торбачкай паклаў за пазуху. Прыкаціў на пошту, не адвязваючы канькоў, заходзіць, кладзе на бар'ер бланк пераводу. Палез па грошы - грошай няма. А грошы, на тыя цэны, - паўсотні кароў дойных купіць можна. Ні слова не кажучы, выйшаў ён з пошты ды на каньках тым жа следам праз возера. А ехаў ён не па наезджанай дарозе, а па чыстым лёдзе. Праязджае палову дарогі - ляжыць торбачка, грошы ўсе цэлыя. Падняў ён яе ды, не кладучы нікуды, у руках трымаючы, - на пошту і аддаў у належным парадку, пад квітанцыю. Прывёз ён квітанцыю старому Моўшу.

- Дзякуй табе, Ваня, дзякуй!

- Дзякаваць не варта, дзядзька Моўша, але больш ніколі чужых грошай браць не буду.

Ды і расказаў яму пра ўсё здарэнне.

Толькі ад аднаго расказа мама плакала наўзрыд. А ўсёй сям'ёй мы вырашылі так: «Дзякаваць лёсу, што ён пазбавіў нас ад такога гора. Але не трэба спакушаць свой лёс двойчы».

## Лыжка дзёгцю

Паміраў мой найлепшы сябар Антось Слабковіч. Той самы Антось, з якім я сядзеў на адной парце ў школе, з якім плаваў па ўсёй Мястры і нават па Нарачы, з якім я пералічыў усе палі былога патаемнага моста паміж мястэчкам і востравам, з якім абышоў усе баравіковыя палянкі ў прымядзельскіх барах і пушчах, з якім нават хадзіў на таямнічае, дзівосна-прыгожае, але і страшнае Рудакоўскае возера, з якім, а больш правільна сказаць - у якога я прачытаў цэлы вялікі чамадан антыўрадавых, рэвалюцыйных выданняў і пракламацый.

Гэты мой задушэўны сябар Антось ляжаў у вялікім пакоі свайго дома, на высокім тапчане. Тапчан быў засланы коўдрамі змрочных, цьмяных колераў. Толькі пад галавой, адцяняючы ўсю гэтую жалобу - снежна-белая падушка.

У галовах у яго стаялі вялізныя падсвечнікі, прынесеныя з касцёла, а ў гэтых падсвечніках гарэлі васковыя свечы-грамніцы. Ягоная маці, удава Эмілія Іванаўна, ляжала крыжам на падлозе перад абразом Вастрабрамскай маткі боскай і, толькі паводзячы, як пры сутарзе, рукамі і нагамі, давала знак, што яна яшчэ пакуль жывая сама, што ў яе схуднелым целе яшчэ трымаецца дух.

Суседкі, паапранаўшыся як манашкі - дзве хусткі: чорная зверху, белая пад ёй, - стаялі і сядзелі каля сцен і ўпаўголаса, трымаючы перад сабой кантычкі, спявалі «Здровась, Марыя». Усё

было зроблена для таго, каб выгнаць невядомую хваробу з гэтага наогул моцнага хлопца. А яна не выходзіла ніяк. Не памаглі тут і дактары, якія нешта таямніча сказалі адзін аднаму, маўляў, «інкогніта», і пайшлі разам з хаты.

Я, сціпла стоячы збоку, выціраў кулаком слёзы. Такое гора! Такая жудасная карціна! Антосеў твар стаў белы, як крэйда найлепшых гатункаў. Толькі пад вачамі ў яго стаіліся чорна-сінія паўкружжы. Рукамі ён ірваў на сабе кашулю, ляскаў зубамі, падкідваў ногі аж да галавы, нібыта збіраючыся перакуліцца праз галаву, як гэта мы рабілі не раз. Пасля зноў, бы зваліўшыся з высокай званіцы, выпростваўся і ціха стагнаў. А людзі прыходзілі і выходзілі. Прыходзілі выказаць сваё спачуванне матцы, хоць якім добрым словам памагчы беднаму хлопцу.

І вось адчыніліся дзверы для чарговай візітацыі. Прыйшла старая бабулька з сям'і, у якой было прозвішча - Звяругі, але дзе былі ледзьве не самыя лепшыя людзі ва ўсім мястэчку. Пастаяўшы пару хвілін каля Антося, яна раптам парушыла ўвесь урачысты ход развітання з ім і голасна сказала:

- Ды замоўкніце вы са сваімі літаннямі. Яны тут зусім не патрэбны. У яго рабакі. Дайце яму бярозавага дзёгцю. Ад сэрца і адыдзе.

Збянтэжаныя кабеты паспрабавалі не згадзіцца са старой.

- Усе дактары сказалі, што ў яго страшная хвароба - «інкогніта», а ты са сваім дзёгцем лезеш.

- Кажу вам, што ў яго рабакі. Яны пад сэрца і пруць...

Далі Антосю дзёгцю пад нос, не пашкадавалі і ў рот наліць. Паляжаўшы пару хвілін - як скочыў наш хворы, ды ў кухню...

Смерць некуды збегла, ніхто яе і не бачыў. Павыносілі падсвечнікі, пагасіўшы і сабраўшы грамніцы. Адсунулі да сцяны тапчан. А па абедзе мы з Антосем плылі праз Мястру ад Старога да Новага Мядзела...

Кажуць, што адна лыжка дзёгцю псуе бочку мёду. Не ведаю, не каштаваў такога мёду. Але што адна лыжка дзёгцю падняла хворага з ложка - бачыў на ўласныя вочы. І жыў ён хто ведае колькі...

## Падпольная літаратура

У Мядзеле ў 1913 годзе мне давялося ўпершыню пазнаёміцца з вялікай колькасцю падпольнай, рэвалюцыйнай літаратуры, якая збольшага была надрукавана ў 1905-1906 гадах, у часе першай расейскай рэвалюцыі. Гэта часопісы, лістоўкі-пракламацыі, адозвы, плакаты. Яны прыцягвалі ўвагу не толькі зместам сваім,

але і вонкавым выглядам. Многія з іх былі надрукаваны чырвонай фарбай, многія - сіняй.

Як жа яны трапілі ў Мядзела? Родны дзядзька Антося Слабковіча жыў у Пецярбурзе і працаваў там нейкім дробным службоўцам у акруговым судзе, дзе разглядаліся справы заарыштаваных рэвалюцыянераў. Пасля судоў рэчавыя доказы - крамольная літаратура - складваліся ў архіў. Маючы доступ да архіва, гэты дзядзька паступова напакаваў палітычнай літаратурай цэлы чамадан і прывёз яе ў Мядзела. Што яна была ўзята менавіта з архіва - сведчылі пячаткі. Яны стаялі на кожным выданні.

Якімі меркаваннямі кіраваўся дзядзька пры гэтым, я не магу ўявіць сабе і сёння. Пакінуў ён літаратуру на гарышчы дома. Антось узяў яе пад сваю руку. Мы з сябрам перабіраліся на чаўне на востраў на возеры Мястра, супраць Новага Мядзела, на Замак, як яго называлі тады. Там, лежачы ў зацішку, разглядвалі і чыталі тыя выданні. Самае вялікае ўражанне на нас зрабіла карыкатура на цара Мікалая II, які ў вельмі смешным выглядзе сядзеў на троне. А на другім выданні была намалявана піраміда, на ёй - царская ўлада: жандармерыя, паліцыя, папы, манахі, розныя падпанкі і, нарэшце, на самым версе царскі трон і сам цар. Ды ці мала было такіх карыкатур!

На многіх лістоўках надрукавалі тэксты рэвалюцыйных вершаў і песень. Некаторыя з іх мы пазавучвалі на памяць. У адным вершы пра двухгаловага арла быў рэфрэн:

Я нашел, друзья, нашел,
Кто виновник бестолковый
Наших бедствий, наших зол:
Виноват во всем гербовый,
Двуязычный, двухголовый,
Всероссийский наш орел…

Пазней, у студэнцкія гады, я даведаўся, што гэты верш склаў вядомы паэт В.С.Курачкін, славуты перакладчык твораў Беранжэ на расейскую мову…

Антось быў старэйшы ад мяне гады на два і даваў мне свае тлумачэнні да многіх малюнкаў і тэксту, - напэўна яны не мелі кніжнага бляску, але змест іх быў дужа жыццёвы…

У далейшым Антось паказваў некаторыя часопісы рыбакам з вёскі Качэргі, у якой быў ягоны родзіч. І вось, відаць, там знайшоўся нейкі даносчык, які паінфармаваў аднаго прадстаўніка мясцовай улады. Той папярэдзіў нашых бацькоў:

- Пільнуйцеся! Вашыя дзеці «красныя» часопісы цягаюць!

Дазнаецца прыстаў - будзе кепска!

Пасля гэтага мы свой набытак - рэвалюцыйную літаратуру больш нікому не паказвалі.

## Крамольная газета

У апошняга расейскага цара Мікалая II спыталіся неяк аднойчы, як ён ставіцца да розных нацыянальнасцяў.

Цар адказаў так:

- Падазрона да палякаў, грэбліва да беларусаў і з поўнай пагардаю да жыдоў.

Такая ж была і царская «нацыянальная палітыка». Пагарджаным двойчы і тройчы беларусам не дазвалялі друкаваць кнігі і газеты на беларускай мове, не адчынялі для беларускага народа школ, у якіх дзеці маглі б вучыцца на сваёй роднай мове і, ужо канчаткова, ні ў якім разе не дазвалялі чытаць на беларускай мове лекцыі ў вышэйшай школе. Тыя цары згінулі, а мы, дзякуючы Кастрычніцкай рэвалюцыі, маем цяпер усё: і кнігі, і газеты, і школы, а беларуская мова прызнана роўнай з іншымі мовамі свету.

Дык цяпер апавяданне пра тое, як было цяжка знайсці або выпісаць беларускую газету за старым часам, - такое апавяданне можа здацца нейкай даўно забытай казкай.

Перш за ўсё беларускую газету было забаронена выпісваць усім людзям, якія знаходзіліся на дзяржаўнай службе. Выпісаная і аплочаная газета даходзіла да падпісчыкаў нерэгулярна, паасобныя нумары гублялі на пошце.

Хоць першая наша беларуская газета друкавалася ў маім губернскім горадзе, у Вільні, але я пра яе існаванне даведаўся праз Пецярбург. Прыязджаючы ў госці, нашы землякі прывозілі і давалі чытаць нам паасобныя нумары гэтае газеты.

Газета ўсхвалявала мяне і расчуліла немаведама як. Толькі падумаць! На той мове, на якой размаўлялі дзяды, бабулі, бацькі, усе суседзі, надрукаваны артыкулы, апавяданні, вершы. Як чароўную музыку ўспрымаў я гукі роднай мовы, як вялікае свята быў для мяне той дзень, калі я ўпершыню пачытаў беларускую газету.

Папрасіўшы ў таты грошы, я падпісаўся адразу на тры месяцы. Газета пачала прыходзіць у Мядзела акуратна. Тады начальнікам пошты працаваў стары бальшавік Грыдзюшка, які пасля рэвалюцыі быў народным камісарам пошты і тэлеграфа ў Беларускай ССР. У яго ж, дарэчы, навучаўся тэлеграфнай справе і мой старэйшы брат. На гэтай пошце газета не прападала. Але

небяспека з'явілася з другога боку. Да майго бацькі прыйшоў аднойчы ўраднік.

- На твой адрас прыходзіць крамольная газета. Трэба такую справу спыніць.

Бацька адразу нават не зразумеў, пра што ідзе гаворка.

- Якая крамольная?!

- Ды «Наша Ніва» з Вільні.

- Якая ж яна крамольная, калі яе пошта возіць?

- Я табе даю добрую параду: спыні гэтую справу…

Але мы знайшлі спосаб даставаць рэгулярна газету. Наш сусед Бэрка ездзіў у Вільню па тавары для мядзельскіх крамаў. Вось ён і прывозіў нам газету, і мы чыталі яе да самае вайны…

## Хто пытае, той не блудзіць

Пайшлі мы аднойчы з Антосем Слабковічам у грыбы за возера Баторын, у пушчу. Год быў грыбны, грыбоў хапала ўсюды, але там былі баравікі надзвычайна прыгожыя, верасавікі. Гэта значыць, што раслі яны ў пушчы каля верасовых дываноў, а то і на іх непасрэдна. Былі яны заўсёды мажныя, корань - бочачкай, галоўкі на іх не то што чорныя, а ледзь-ледзь цёмна-вішнёвага колеру. З паляны на паляну, з другой - на трэцюю і прайшлі мы немалы край. Набралі паўнюткія кошыкі, а кошыкі ў нас былі вялікія. Трэба ісці дадому. Усё роўна з пушчы баравікоў усіх не возьмеш ніяк. Выйшлі на дарогу, а ўваччу ў нас так баравікі і мільгацяць, так сваімі галоўкамі і вабяць. І верасы, здаецца, полымем гарацць, зіхацяць. Вось гэтае полымя нас, мабыць, крыху і асляпіла. Выйшаўшы на дарогу, пайшлі мы не ў той бок. Ішлі мы, ішлі, валаклі свае кошыкі. Ужо б і Баторын павінен сваімі хвалямі зашумець, а тут замест таго Баторына адкрылася зусім іншая карціна: на вялікай нібы паляне, а можа, пасецы, стаяць кладнічкі, штабялькі пнёў смаляных, якіх мы ніколі не бачылі. За гэтымі кладнічкамі нейкая пабудова, з якой праз комін дым ідзе. А водар - жывы шкіпінар, смала, дзёгаць…

Антось жа старэйшы ад мяне, той хоць ведае, што гэта такое:

- Смалакурня нейкая. Нават не скажу, дзе такая ёсць. Але калі дым ідзе, павінен і смаляр быць.

Аж вось ён, выходзіць з-за тых кладнічак Іцак Папыцак. Мы яму «дзень добры» даём, ён нам адказвае і пытаецца:

- Куды ж вы, хлопчыкі, ідзеце?

- У Мядзела, - кажам у адказ.

- У Мядзела?! - Тут жа ён павярнуўся да пабудовы і пачаў клікаць. - Сорка, Сорка, кум а гэр!

Выбягае жанчына, мабыць, жонка.

- Зірні на іх, яны ідуць у Мядзела, - і паказвае рукой, у які бок мы ідзём.

Жонка павяртаецца да пабудовы і пачынае крычаць:

- Рохка, Дворка, Додка, Арчык, - кум а гэр!

Неўзабаве з'яўляюцца ўсе названыя асобы, крыху замурзаныя, але даволі сімпатычныя, асабліва, на мой густ, Дворка. Калі яны ўсе сталі каля маткі, яна ім пачала тлумачыць:

- Зірніце на гэтых хлопцаў. Яны набралі па кошыку баравікоў. І яны ідуць дадому, у Мядзела. Ідуць яны вунь у той бок...

Усе малыя пачалі дружна смяяцца. Смяюцца дзеці, смяюцца бацькі. Нічога не засталося нам больш рабіць, пачалі смяяцца і мы. Насмяяўшыся ўволю, бацька кажа нам:

- Мядзела ў тым баку, адкуль вы да нас прыйшлі! Зразумелі ці не? Калі зразумелі, захацелі есці - можаце ў нас папалуднаваць. Да захаду сонца вы паспееце дадому лёгенька.

Так мы і зрабілі. Выпілі ў іх па кубачку малака, з'елі па лусце хлеба, падзякавалі і меліся ісці. Але Антось усё ж запытаўся:

- Дзядзька! А чаму вы нам адразу не сказалі, што мы заблудзіліся, а паклікалі сваю гаспадыню, яна ж - усіх дзяцей?..

- Эх ты! Ты гадзіны дзве пахадзіў па пушчы, і табе маркотна стала. А яны тут жывуць колькі часу, бачаць толькі, як вазы на Вілейку ідуць. Ці ж такія хлопцы ці дзяўчаты калі дарогі пытаюць? Для іх сустрэча з вамі маленькае свята і... навука, каб яны самі лепш дарогі пільнаваліся.

Спадабаліся нам і самі гаспадары, і дзяўчаткі асабліва. Разы са два мы зноў траплялі на тую смалакурню «памылкова». А зімой Рохка і Дворка прыехалі вучыцца ў нашу школу. Сустрэўшыся з імі ў школе, мы неаднойчы смяяліся, успаміналі нашу першую з імі сустрэчу...

## Лось на Кухтавай гары

Вайна 1914 года набліжалася да нас шпаркімі крокамі. Нядаўна мы чулі пра Варшаву, пасля пра Гродню, а тут зямля задрыжала і застагнала і ў нас на Манькаўшчыне. Народ збянтэжаны. Улады ніякай не засталося. Некуды зніклі і папы, і ўраднікі. Дзіва што! За Туяніхай баі. Гэта значыцца, за тры-чатыры кіламетры ад нашае вёскі. На фурманках з чырвонымі крыжыкамі вязуць параненых. Некаторыя ідуць-брыдуць пехатой. Адзін ідзе, а вінтовачны затвор прабіў яму шчаку і вісіць так на твары. Мала таго, гэты самы паранены, узяўшыся за штык, валачэ

за сабою вінтоўку без таго затвора.

- Дзядзечка! Табе ж цяжка! На ліха табе гэтая вінтоўка?

Праз скрываўлены рот чуецца хрып:

- Нельга... Вінтоўка - святая рэч... Трэба аддаць яе начальству...

Праз усю ноч у нашай вёсцы людзі не спалі, хіба толькі малыя дзеці. Вёска наша - на ўзгорку, і з гэтага ўзгорка добра відаць, як заходні небасхіл палымнее чырвонай, агнявой дугой. Хто на зямлі, хто на якой бэльцы, так і прадзяжурылі нашы аднавяскоўцы ўсю ноч.

Што будзе? Што можа выратаваць людзей?

Пачало днець. Стала неяк золка. Не нагрэлася паветра і ад першых пазлацістых промняў, якія пайшлі з усходняга неба на нашу засмучаную зямельку. Гэтыя промні асвятлілі і верх невялічкае гары, якая стаяла перад нашай вёскай зусім асобна і якую спрадвеку звалі ўсе Кухтавай гарой. А які такі Кухта даў сваё прозвішча гэтаму кавалку зямлі - ніхто з нашых людзей не чуў і не ведаў.

Але на Кухтавай гары, зусім побач вёскі, людзі пабачылі ў першым сонечным праменні вялікага, магутнага, прыгожага лася. Гэты лось выйшаў з занятай ворагам пушчы, прайшоў колькі міль праз палеткі, пералескі і шукаў сабе паратунку на нашай зямлі. А яго, таго паратунку, і тут не было: адзін наш аднавясковец вомільгам злётаў дадому, прынёс стрэльбу, нацэліўся на таго лася і меўся спусціць куркі, але дзядуля адзін схапіў ягоную стрэльбу за рулю ды вобземлю.

- Ты што, нягоднік, замысліў? Лось ідзе ад ворагаў да сваіх людзей ратавацца. А які ж ты для яго свой? Ты не лепшы ад таго ворага. Ты, можа, раней гэтага лася ў магілу ляжаш. Пайшоў прэч адсюль!

Забраў той стралец сваю стрэльбу і схаваўся за людзей. Тым часам сонца, як сімвал святой надзеі, узнялося вышэй. Яно заліло сваім святлом і нашу вёску і таго прыгожага магутнага лася. Стоячы на Кухтавай гары, ён паварочваў галаву на ўсе чатыры бакі свету. А людзі глядзелі і глядзелі на яго. Урэшце ён павярнуў галаву на Бубнава, памаленьку спусціўся з Кухтавай гары і пайшоў у лес.

Усе з палёгкай уздыхнулі ўслед.

- Не кажы, што звер! Глядзі, які правільны кірунак узяў. Цяпер пойдзе з лесу ў лес, а там - у вялікую пушчу. Ніякі вораг яго не здагоніць...

Найлепшымі пажаданнямі праводзілі мае аднавяскоўцы ляснога земляка ў ягонае выгнанне...

## Акоп за токам

Паснедаўшы, тата кажа маме:

- Ты тут упраўляйся, як здумаеш, а мы з Уладзікам пойдзем за токам акоп капаць. Нават лясны звер, лось, пайшоў ад вайны ратавацца. На зямлі няма ратунку, мабыць, і не будзе.

Пабралі мы рыдлёўкі. Бацька хутка вызначыў пляцоўку: метраў пяць ушыркі, метраў сем даўжынёй.

Капаем. Зямля за токам - суцэльны глей. Добра, што праходзіў дождж. Ды і к восені час. Грунт стаў нейкі вохкі. А тут вайна падганяе. Не, не, ды здрыганецца зямля ад гарматных выбухаў. Агню, праўда, не відно, бо сонца ж свеціць. Капаем мы, капаем удвух. Абодва цягучыя. І выкапалі мы ўжо метры два ў глыбіню..

Прыходзіць да нас сусед.

- Мікалайка, браток! Што ж ты гэта замысліў? Навошта ж ты хлопца малога мардуеш? Няўжо ты думаеш ад вайны схавацца? Каму што суджана, той сваё і атрымае: хоць у акопе, хоць на печы.

Бацьку надта абрыдла слухаць такое, ён і адказвае:

- Суседзе! Не хочаш капаць самастойна, не хочаш памагчы мне, не капай і не памагай. Толькі глядзі, сюды ратавацца не прыходзь, бо ў нас месца мала будзе і для сваёй сям'і... Ідзі, браток, дадому і там чытай свае пацеры...

А мы капаем і капаем. Нават у хату палуднаваць не хадзілі. Мама прынесла сюды, к яме.

Елі, запівалі раўгеняй, квасам такім, ды зноў капаць.

І вось яшчэ за гадзіну якую да захаду сонца мы скончылі капаць. А былі ў таты назапашаны дылі сухія. Нацягалі мы іх у два рады замест столі і страхі, саломай заслалі ды зверху - зямлёй... Зрабілі акуратна і ўваход. А тым часам снарады пачалі рвацца на нашым полі. Першая ахвяра: адбіла палову хаты, пабіла печ і забіла самога гаспадара ў нашай вёсцы. Хутчэй перанеслі мы коўдры, падушкі, такі-сякі посуд, хлеб, муку, вядры са два вады, а пасля і малых перавялі ў гэты акоп. Запалілі газоўку. Стала так, што і жыць неяк можна. Мама пачала маліцца перад іконай, якую прынесла з хаты.

Раптам чуем стукат-грукат каля нашага сховішча і нібыта знаёмы голас:

- А Мікалайка, а браток! Няўжо ты пакінеш мяне з малымі дзеткамі на пагібель, няўжо не прымеш у сховішча сваё?

- Хто гэта? - пытаецца бацька. Нават не паверыў ён, што гэта той самы сусед Хведар, які некалькі гадзін таму назад з'едліва кпіў з нашае работы, не кінуў ні аднае рыдлёўкі зямлі на гэтым месцы...

Што ж цяпер будзеш рабіць?

- Залазьце!

І стала нас усіх у гэтым сховішчы трынаццаць душ. Тым часам сцямнела, і агні вакол сталі зыркія, выразныя. А выбухі тыя - раз за разам. І чуем зноў, што ў канцы нашага гарода, пад плотам нехта па-жыдоўску богу моліцца. Бацька высунуў галаву, паслухаў - Міхол, манькаўскі карчмар, са сваёй дачушкай Рахількай! Выявілася, снарад трапіў у карчму, зруйнаваў і запаліў яе. У агні загінула Міхолава жонка і ўсе дзецi. Застаўся нейкім дзівам ён з Рахількай. Прынялі і іх у сваё сховішча.

Стала нас усіх пятнаццаць душ. Так мы і жылі ў яме колькі дзён, пакуль на нашым полі ды за лесам грымоты стаялі. Гатаваць страву было нельга. Маці разводзіла ў вядры вады муку. Гэтую балтушку і пілі.

## Як мая маці мелася канчаць вайну

У нашу вёску прыехаў першы конны нямецкі дазор. Праехалі моўчкі, з доўгімі пікамі, у касках са штычкамі ды яшчэ з накладачкамі на канцах штычкоў праз усю нашу вёску. Не кажучы нашым людзям ні «дзень добры», ні «бывайце здаровы», яны спыніліся ля канцавой хаты. Пазлазілі з коней. Нерассядланых папрывязвалі да плота. Чатыры коннікі зайшлі ў хату і пачалі палуднаваць. Пяты, старэйшага веку, узлез на саламяную страху хаты, лёг на яе і пачаў праз бінокль азіраць вялікае паўкружжа: ад манькаўскай дарогі аж да калееўскага поля. Нашы людзі паглядзелі, паглядзелі на іх з-за вуглоў ды і паразыходзіліся ў розныя бакі: то ж восень, трэба канчаць прыбіраць усё з поля.

Ідучы вуліцай, затрымаўся міжвольна ля канцавой хаты і я. Мяне цікавілі і нямецкія коні, і нямецкія пікі і, зразумела, самі немцы.

Нямецкі салдат, які ляжаў на страсе, крыкнуў мне:

- Хадзі сюды!

Нямецкую мову я крыху вывучаў і прымітыўныя сказы і звароты ведаў. Я ўсё ж запытаўся:

- А што вам трэба?

- Хадзі сюды, не бойся, - паўтарыў ён.

Палез я на страху.

- Кладзіся побач! - скамандаваў ён мне і, не здымаючы са сваёй шыі раменьчыка, падсунуў мне бінокль.

Бінокль быў цудоўны. Трэба думаць, што яны прадавалі для расейскай арміі не такія біноклі, бо праз тыя я глядзеў раней і таго не бачыў. Праз гэты бінокль я пабачыў, здаецца, кожную лісцінку

на ўзлессі... «О-ё-ёй! - падумалася мне, - маючы такі бінокль, можна са сваёй печы бачыць, колькі ў лесе за ноч грыбоў нарасло...»

Тым часам немец адкруціў вечка сваёй паходнай пляшкі і пачаў наліваць у яго нейкі руды, цёмны напітак. А я ж чытаў у прыгодніцкіх раманах, што ўсе піраты, заваёўнікі насілі пры сабе пякельны ром, які абпальваў вантробы ў тых лайдакоў, калі яны пілі яго. Мне і падумалася, што ён хоча пачаставаць мяне тым пірацкім ромам.

Я адразу на ягонае запрашэнне выпіць адказаў:

- Дзякую! Я не хачу піць.

- Пі! Гэта - кава, добрая кава.

- Мы не спажываем каву, - пачаў я адмаўляцца зноў.

- Ну, я ж частую цябе, пі!

Тады мне прыйшлося ўзяць, выпіць і падзякаваць яму, хоць сапраўды ў нашай сям'і каву не пілі, уважаючы больш гарбату з чабору, ліповага цвету або яшчэ якіх іншых зёлак. Гутарка ў нас дужа не разгортвалася, бо ў мяне быў абмежаваны запас слоў, а яшчэ ж - я насцярожана трымаўся, не забываючыся, што побач са мною ляжыць прадстаўнік варожай арміі. Тут жа ён дастаў з кішэні свайго мундзіра кніжачку, а з яе - некалькі фота.

- Гэта я, - паказвае ён на цывільнага селяніна, гэта - мая жонка, гэта - мае сыны, гэта - дачушка... - І ў гэты момант у яго пакаціліся слёзы... - Я тут ляжу на гнілой саломе, а сям'я там. Што яны без мяне зробяць? Багатаму, пану, дадуць палонных, батракоў. У іх будзе ўсё спарадкавана. А хто спарадкуе, хто пазвозіць снапы маёй сям'і, з майго поля?.. - І ўздыхнуў цяжка-цяжка.

А быў у нашай вёсцы адзін селянін, па прозвішчу Казачок. Ягоная сядзіба стаяла насупраць нашай, толькі пасля пажару ён пабудаваў новую хату метраў за паўсотні ад вуліцы, заняўшы былое падхацішча агародам.

І вось калі я ляжаў на страсе побач таго дазорцы, прыйшоў нейкі сусед і пачаў з вуліцы клікаць Казачка, а той не чуе. Гойкаў, гойкаў сусед - «Казачок, Казачок», а пасля ўзяў ды з усёй сілы:

- Ка-а-а-зак, ты што, аглух? Хадзі сюды!

Пачуўшы слова «казак», немец кулём скаціўся са страхі, прачыніў дзверы ў хату, крыкнуў «казакен», а сам за піку, на каня ды ходу. Сябры ягоныя следам за ім. Між іншым, іхні нямецкі бог ім-такі дапамог: праз якую гадзіну ў нашы Агароднікі прыджгаў эскадрон данскіх казакоў. Яны займалі нашу вёску веерам, ад поля - усю адразу, пералятаючы праз платы, як птушкі якія. Так што той дазорца нямецкі, напэўна, не даехаў бы да сваіх дзетак, да свайго ўласнага поля...

Калі я ўвечары, пры вячэры, расказаў сваім пра гутарку з немцам, мая маці сказала:

- А ты думаеш, што іхнія салдаты не такія людзі, як нашыя? Яны ж і працуюць, і гаспадаркай займаюцца. А тыя правіцелі не падзеляць якое ліха, ды ваяваць. Латва ім ваяваць, чужыя галовы падстаўляць. А трэба так: пасварыліся цары-каралі? Калі ласка! Выходзьце на нашы Стажкі, станьце адзін супраць аднаго ды і ваюйце, колькі вам згодна. Запэўняю, што пасля першай бойкі яны страцілі б апетыт да вайны...

На жаль, мая нябожчыца маці не мела ўлады, каб ажыццявіць свой разумны план. Я таксама думаю, што пасля першай бойкі тыя правіцелі заключылі б вечны мір...

## На спаленым цягніку па навуку

Я калісьці напісаў вершаваную казку пад назваю «Дзівосныя прыгоды». У гэтай казцы, між іншым, расказваецца, што мой герой, якога гусі насілі на сваім крыллі над усёй Беларуссю, усё ж такі зноў апынуўся на зямлі і ўбачыў калёсы. Лёг на іх адпачыць, а каб яго зноў не ўхапілі і не аднеслі пад хмары гусі, прывязаў сам сябе лейцамі да таго воза. Тут нечакана з'явіўся мядзведзь, запрогся ў аглоблі і пачаў гайсаць па ўсім лесе, па пнях ды карэнні. Урэшце ўзлез з возам на дрэва, разбурыў там пчаліны борць. Казку далей я пераказваць не буду. Тут гутарка аб іншым. Калі гэтая казка была надрукавана з дужа добрымі малюнкамі мастака М. Карпенкі, многія юныя чытачы, сустракаючыся са мною, пыталіся:

- А як гэта чалавек сам сябе прывязвае? Адкуль вы такое ўзялі хоць бы і для казкі?

Я тады ім сказаў толькі адно:

- У казках бываюць і не такія дзівосныя рэчы.

А сам сабе падумаў: «Раскажу я вам, мае юныя сябры, з часам не казку, а самую чыстую быль, як я сам сябе прывязваў да жалеза і як крыважэрны мядзведзь вайны вёз мяне, прывязанага, ад Парафіянава да Полацка. Успомніўшы пра гэтую сваю паездку, я і скарыстаў быў часткова яе ў казцы «Дзівосныя прыгоды». Цалкам яе выкарыстаць тады не мог».

Дык вось як было і былося.

Першая сусветная вайна, пачаўшыся ў 1914 годзе, загрузла ў нашых беларускіх балотах, пушчах, ля нашых азёр і рэчак. Па адным баку стаялі немцы, па другім стаялі расейцы.

Увосень 1915 года дачуўся я, што наша настаўніцкая семінарыя пераехала з Новай Вілейкі, паблізу самой Вільні, у горад Невель, за Полацкам, і мне трэба туды з'явіцца. Бацька праз

людзей даведаўся, што ехаць нам цяпер можна толькі на станцыю Парафіянава, бо папярэднія нашы станцыі пазаймалі немцы.

Запрог бацька буланага коніка, паставіў мой кош з кнігамі і вопраткай. Пакланіўся нізенька я роднай матулі ды родным мясцінам, і мы паехалі.

Як ехалі праз разбураныя вёскі, спаленыя, пакрышаныя снарадамі лясы - не буду казаць, бо гэта ўсё вядома і старым і малым у Беларусі. Многія пазналі яшчэ большае гора і яшчэ большы жах у часе другой вайны. Як бы, кажу, ні ехалі, але прыехалі мы на станцыю Парафіянава.

Начальнік станцыі сядзеў у нейкім вагоне. Там была і чыгуначная апаратура. Паказалі мы яму свае паперы.

- Усё, кажа, дужа добра. Паперы таксама добрыя. Але бяда ў тым, што на паперах ехаць нельга, а ў нас цягнікі не ходзяць, таксама нельга ехаць.

Давай мы яго прасіць, давай маліць:

- Пасадзіце хоць на які паравік, на дровы.

А людзі добрыя ёсць на ўсім свеце, і нямала добрых людзей. Іх нават удвая, калі не ўтрая больш, чым дрэнных.

На наша шчасце, начальнік на станцыі Парафіянава быў чалавек добры. Ну, здавалася б, што для яго я, нейкі хлопец вясковы, калі тут трэба імперыю ратаваць і ніхто не можа ўратаваць. Тым не меш, ён паспагадаў мне і майму тату ды і кажа:

- Адзінае, што я зраблю, гэта вось што. Зараз ідзе да нас і пойдзе да Полацка спалены снарадамі цягнік. Павінен ён ісці, як царскі цягнік: нідзе не спыняючыся ні на адну хвіліну. Дык я яго затрымаю. Скажу, што перагон заняты. А вы тады адразу лаштуйцеся. Толькі памятайце, ніводнага кавалачка дрэва на ім няма: усё згарэла. Папярэджваю, вы рызыкуеце: час асенні, халепа, машыніст пагоніць так, што вецер толькі будзе свістаць. Можна і зваліцца, можна і застудзіцца.

Падзякавалі мы начальніку, пайшлі, падвалаклі пару доўгіх дошак, каб было што пакласці на жалеза, дроту, каб было чым прывязаць, і чакаем.

Прыходзіць цягнік. Доўгі, што вокам не скінеш. Мы адразу дошкі на адну раму паўскідалі, бацька дротам папрыкручваў, мой багаж вяроўкай да дошак прымацавалі. Застаюся адзін я.

- Звалішся, сынок, - кажа бацька. - На першай мілі пад калёсы трапіш. Хоць здымай назад багаж... - Пастаяў, пастаяў бацька. А думаць доўга няма часу. - Сядай, сынок.

Сеў я. Узяў тата сваёй рукою і прывязаў мяне вяроўкай да тых жа дошак і жалеза. Толькі паказаў, як у выпадку якога страху хутчэй адвязацца. Развітаўся са мной. А тут і цягнік пачаў адыходзіць.

Правільна сказаў нам начальнік станцыі: ішоў гэты цягнік сапраўды, як царскі, - бачыў я, як яны ідуць нават праз станцыю. Добра, што я башлык на галаву завязаў, а то і твар памарозіў бы зусім і вушы. Халепа страшная была, секла, ды яшчэ з ветрам.

Як бы ні было, даехаў я да Полацка. А там - другое гора: цягнік спыніўся ледзьве не за мілю ад станцыі.

Прыйшлося мне, пачапіўшы на плечы свой багаж і ўзяўшы ў рукі кій, ісці пехатой. Памаленьку дайшоў, а там і да свайго Невеля даехаў.

## Пан і мужык

Пажыўшы ў ямах летам, мы пераканаліся, што да зімы вайна не скончыцца. Забраўшы ўсю сям'ю, бацька выехаў у Маскву. Кватэру, адзін вялізны пакой, знайшоў хутка. Цяпер трэба было здабываць сродкі, каб жыць. Пакуль знойдзецца работа, бацька пайшоў у бежанскі камітэт. Там, дачуўся ён, даюць грашовую дапамогу ахвярам вайны, бедным выгнанцам. На ўсякі выпадак тата ўзяў з сабой і мяне, бо я прыехаў якраз на вакацыі з Невеля. Прыйшлі мы з ім у камітэт. Толькі чыноўнік запытаўся ў нас: хто, чаго - як у пакой зайшоў нейкі пан у капелюшы, з лясачкай.

Чыноўнік адразу спыніў гутарку з намі, устаў, запрасіў новага наведвальніка сесці і пачаў пісаць. Пачулі мы, што гэта сапраўды пан, што ў яго за лініяй фронту застаўся невялічкі маёнтак, а ўсёй сям'і - ён і жонка.

Чыноўнік запісаў і сказаў:

- Вам прызначаецца штомесячная дапамога пяцьдзесят рублёў. Вось адпаведны дакумент.

Пан падзякаваў і выйшаў з пакоя. Бацька толькі паспеў мне шапнуць:

- На дзве душы паўсотні. Нам будзе, мабыць, уся сотня.

Чыноўнік пачаў запаўняць ліст на нашу сям'ю. Сесці ён майму тату не запрапанаваў. Пытаўся грубавата:

- Колькі дзяцей пры вас? Пяцёра? Ды яшчэ сам і жонка? Сем душ? Акалечана правая рука? Што яшчэ? Усё? - Вось дакумент. Будзеце атрымліваць дзесяць рублёў на месяц...

Бацька зусім збянтэжыўся.

- Ды як жа? Ці не памыліліся вы? Чаму ж так мала...

- Я ніколі не памыляюся. Што табе незразумела?

- Ды вось перада мной быў чалавек - вы яму на дзве душы запісалі пяцьдзесят рублёў, а мне на сем душ - дзесяць.

- Стары дурань! Зразумей добра: то - пан, а ты - мужык. Табе і дзесяць рублёў нявартa даваць. А цяпер - марш адгэтуль, а то і

гэты загад адбяру…

Так мы і прамаршыравалі па ўсходках, азіраючыся, ці не даганяе нас чыноўнік адбіраць дзесяцірублёвы загад…

Ідучы вуліцай, бацька пытаўся сам у сябе:

«Ці дачакаемся мы таго, каб не было падзелу на лепшых і горшых, на паноў і мужыкоў?»

Дачакаліся…

## Буланы конь

У нашай сям'і чамусьці думалі, што коні ў нас могуць весціся толькі вараной масці. Больш, казаў тата, ніякая масць у нас не вядзецца: то хварэць пачынае, то так якое няшчасце здарыцца. Колькі я сябе помню, у нас былі толькі вараныя коні. Апошні перад самай вайной быў наш уласны гадаванец, узяты яшчэ жарабяткам. Рос ён, можна сказаць, разам з намі, ведаў нас усіх, асцерагаўся, каб не ступіць сваім капытом на каторага малога, цярпліва ставіўся да ўсіх нашых гарэзных жартаў: заплятання яму хваста ў косы або яшчэ чаго падобнага. Быў ён дужы, цярплівы. Вазіў вазы вялікія, асабліва тады, калі пайшлі ў нас панарады-калёсы на жалезных восях.

Былі мы ім усе задаволены і толькі імкнуліся, каб і ён быў задаволены. Наносілі мы поўныя вышкі асенняга лісця, якое дадавалася на подсціл яму і каровам, здабывалі кантрабандай канюшыны ўлетку, нажынаючы яе сярпом. Адным словам, як маглі - дзякавалі за шчырую працу. Улетку вадзілі час ад часу на рэчку, дзе купалі, мылі, зімой чысцілі шчоткамі.

І вось прыйшла вайна. Падкаціліся яе мутныя хвалі да нашых зацішных куточкаў. З'явілася на тых хвалях розная шума несусветная, усялякія фуражыры-драпежнікі, якія бралі ў сялян і пошар, і коні пад шарлатанскія распіскі, фількавы граматы, карыстаючыся ўласцівым для вайны бязладдзем, безначаллем. Забралі і ў нас каня, з ходу:

- Часова, баця, на пару дзён. Мы прывядзём яго назад. Вось табе наша гарантыя - распіска.

А на гэтай гарантыі ні пячаткі, ні назвы воінскай часці… Бывалі выпадкі, што праз якую мілю прадавалі такіх коней у суседніх вёсках… Ідзі, свішчы, жалься…

Адным словам, засталіся мы без каня. А тут трэба бульбу з поля вазіць, збожжа не ўсё ў свірне. Ды што казаць - на ўсякую справу патрэбен свой конь. За нашым лесам Сухавершу, па ўсёй Туянісе быў вялікі бой. Пакрышыла-паламала там дрэў - немаведама колькі. Як толькі прыціхлі гарматы, пачалі з

кулямётаў ды з вінтовак страляць. А мне - не сядзіцца. Пайду, гляну, можа дзе наш вараны конь ходзіць, яго ж у той бок пагналі. Іду, кулі свішчуць, але слабенька, нібыта якія кіламетры два праляцеўшы, ды і садзяцца, садзяцца, як пчолкі на адпачынак. Добрыя пчолкі! Як джгне, дык не захочаш ніякага мёду. А я іду сцежачкай блізу самага ўзвышша. Бачу, дарогай у даліне крочыць на перадавую лінію рота салдат, вядзе яе капітан, а наперадзе - салдат з гармонікам праз плячо і, каб падняць дух, на гармоніку іграе і спявае ва ўсю:

Выйшла Дуня за вароты, а за ёю салдат рота.

Салдаты, гэта рота, ідуць моўчкі, ссутуліўшыся, і, нават збоку відаць добра, што напляваць ім на тую Дуню і на тыя вароты... Але згледзеў мяне капітан.

- Хлопчык, хадзі сюды!

Падыходжу. У мяне між іншым аброць у руках.

- Чаго ты тут швэндаешся па лесе? Бачыш, чуеш - кулі свішчуць? Табе што, жыццё абрыдла?

- Жыццё мне зусім не абрыдла, але нашага каня забралі, я шукаю, можа, выпраглі ды пусцілі, ён жа ваеннай справе не вучыўся...

- Ды вунь, - паказвае рукой, - конь траву шчыпле. Бяры ды хутчэй уцякай адсюль...

Пайшоў я - праўда, за якіх метраў дваццаць пасецца конь, але не наш - буланай масці, на баку таўро. Ды, відаць, напалохаўся вайной - пабачыўшы мяне, адскочыў ды ўцякаць. А ён жа не спутаны. Я за ім, кепачку зняў - нібыта гэта торбачка з аўсом, - ды да яго:

- Кося, кося, на аброку!

А яго, мабыць, так накармілі аброкам, дык ні слухаць, ні глядзець не хоча...

Хадзіў я, хадзіў, пэўна, з гадзіну, калі не болей. А кулі тыя свішчуць. Думаў ужо ісці з лесу. Дужа небяспечна. Урэшце спыніўся конь буланы, падпусціў мяне да сябе. Я яму аброць на галаву, зашпіліў і пачаў гладзіць ды размаўляць з ім ласкава. Адначасна аглядаю з усіх бакоў. Конь малады, дужы, па ўсім відаць, зусім не худы, але ў яго збіты моцна карак, нават гнаіцца пачынае. Я яго пamаленьку ў павадку і павёў. Выйшлі мы з небяспечнай зоны, а там ужо і казаць няма чаго - без жаднага страху давёў я буланага да нашай сядзібы. Тут бацькі, малыя далі яму скібачку хлеба з соллю, пагладзіў бацька, голас свой падаў. Пасля ўзяў зелля адмысловага, - а ў каго свая жывёла была, усялякія зёлкі на першы выпадак збіраліся, - прамыў яму раны, памазаў маззю, спуталі мы яго - ды на лужок. Толькі пaглядаем, каб куды далёка не пайшоў. А яму, відаць, ад мазі адразу лягчэй

стала, ды і мухі перасталі раны абсядаць. Нікуды ён не адыходзіцца далёка, пасецца. Так дзень па дні - абгаіўся ў яго карак. Падладзіў бацька для буланага хамут, паклаў больш мяккага лямца, і пачалі мы памаленечку лёгкія вазы вазіць. Выявілася - залаты конь. На ім бацька мяне і ў Парафіянава адвозіў і толькі дзівіўся:

- Паверыш у нейкую дурную прымху, што толькі вараныя коні ў цябе будуць весціся. Вось зусім не вараны, а буланы трапіў на шчасце, а які залаты конь!

Так, пакуль сям'я ў Маскву не выехала, і жыў буланы ў таты, нахваліцца на яго не маглі, нават у Маскве колькі разоў згадвалі…

## Каму гульня, а мне - навука…

Я ўжо казаў, што ў часе першай імперыялістычнай вайны нашую настаўніцкую семінарыю эвакуіравалі ў горад Невель, за Полацк. Там жа сабралася яшчэ некалькі сярэдніх школ - з Вільні, з іншых заходніх гарадоў. Стаялі вайсковыя часці - артылерысты, сапёры. Невялічкі гарадок быў перапоўнены. Мы, вучні, размяшчаліся на прыватных кватэрах, уперамежку з вайскоўцамі. Хоць дырэктар і класныя настаўнікі хадзілі даволі часта па кватэрах, але некаторыя хлопцы заняліся рознай непатрэбшчынай, асабліва - карцёжнымі справамі. Гулялі на грошы, галоўным чынам, на гарышчах сваіх дамоў. Я да такіх кампаній не далучаўся. Падрыхтаваўшы свае ўрокі на заўтрашні дзень, звычайна садзіўся чытаць якую-небудзь белетрыстычную кніжку. Мяне, уласна кажучы, не цягнула зусім да карцёжнай гульні. Нават брыдка было глядзець на гэтыя замусоленыя сотнямі рук, брудныя кавалкі каляровага кардону.

Аднойчы здарылася так, што нам выдалі стыпендыю ды мой старэйшы брат прыслаў мне дапамогу - рублёў дваццаць пяць. Разам у мяне сабраўся цэлы капітал. Заплаціў я нават гаспадыні наперад за месяц, ліквідаваў якія дробныя даўгі і падрахоўваў, што мне можна купіць з адзежы ці з абутку. У той самы час нашы карцёжнікі рабілі другі падрахунак: як абдурыць мяне і забраць ад мяне ўсе мае грошы.

І вось, калі я сядзеў у сваім пакоі над кнігамі, да мяне з'явіўся дэлегат ад гарышча і пачаў угаворваць прыняць удзел у карцёжнай гульні.

- Эх, Уладзік, Уладзік! Усё ты з кнігамі… Так і закіснуць можна, гарбатым якім зрабіцца… Пойдзем да хлопцаў. Там такая гульня, такія грошы… Па дваццаць рублёў у банку бывае… А ты нічога і не ведаеш тут… Пойдзем!

Адчувалася, што не адчэпішся ні крыжом, ні таўкачом. Я згадзіўся.

- Ну што ж! Дзякую за запрашэнне. Пойдзем.

Мой сябар, не чуючы ног пад сабой, - на панадворак, пасля па драбіне - на гарышча. Я следам за ім. А там сапраўды гульня ў поўным разгары. Банкамёт, наш хлопец, адразу мне карту ў рукі. Глянуў я з-пад далоні - туз! Сусед шэпча:

- У банку дзесяць рублёў. Ты на ўсе, ці я на палову прыстану?

- Не, - адказваю я, - не трэба, я адзін пайду.

Банкамёт задаволена ўсміхаецца.

- Дык на колькі ты ідзеш, - пытаецца.

Пачакаўшы хвіліну, нібыта радзячыся сам з сабою, я адказаў:

- Дайце мне на пятачок...

- А як гэта разумець, - удакладняе банкамёт, - на пяць рублёў, значыцца?

- Ды не, - адказваю я, - на пяць капеек.

Тады, нават не заўважыў я, хто, - вырвалі ў мяне туза з рук, зграблі мяне ў ахапак ды як турнулі з гарышча па драбіне далоў, ледзьве я галаву не скруціў.

Так пачалася, так і скончылася мая гульня ў карты. Больш мяне ў такія гульні ні разу не запрашалі, а я тым больш не прасіўся...

## Стары пазалотнік, гітара і шашкі

Знайшлі мы сабе добрую кватэру. Мы - чацвёра навучэнцаў настаўніцкай семінарыі. Салдат на гэтай кватэры не было, гаспадаровы дзеці жылі ў вялікім горадзе. Было толькі двое саміх старых. Гаспадыня займалася хатнімі справамі і з усёй ахвотай згадзілася гатаваць нам абед і вячэру. Гаспадар быў выдатны майстар-пазалотнік. Апрача таго, ён, нягледзячы на стары век, надзвычай добра іграў на гітары. Але не меншую славу ён меў і як ігрок у шашкі. У гэтым ён лічыўся чэмпіёнам горада Невеля.

Жылі мы вельмі добра, спакойна. Спалі ўсе на падлозе ў гасцінай, а займаліся на кухні. Тут стаяў вялізны стол, было светла і цёпла ад добра складзенай печы: у яе шчыток быў наўкол, так што залазіць на печ можна было толькі ў адным месцы і на печы чалавек пачуваўся нібы ў нейкай маленькай утульнай хатцы.

Стары гаспадар займаўся сваёй пазалотніцкай працай днём, калі нас не было. Мы яму ні ў чым не перашкаджалі, хлопцы нашы былі добрыя, далікатныя, і гаспадары былі намі дужа задаволены.

Калі ў нас здаралася вольная хвіліна, мы прасілі гаспадара паіграць нам на гітары. Згаджаўся ён ахвотна. Мы былі

задаволены яго канцэртамі, ад усяго сэрца дзякавалі яму, а ён быў задаволены, відаць, тым, што ўсё ж больш-менш культурныя хлопцы разумеюць, паважаюць і з сапраўднай пашанаю ставяцца да ягонага выканання.

Але вось стары гаспадар заўважыў, што я хутчэй за сваіх сяброў спраўляюся з падрыхтоўкай да чарговых заняткаў і пачынаю чытаць кнігі.

А яму, як ні кажы, маркотна. Мы маўчым, гаспадыня, каб не перашкаджаць нам, маўчыць. Вось ён і пачаў мяне запрашаць:

- Давай згуляем у шашкі.

Я катэгарычна адмаўляюся:

- Што вы, што вы! Я буду з вамі гуляць у шашкі?! З чэмпіёнам?

А ён - згуляем ды згуляем.

І спакусіў ён так мяне пачаць з ім гуляць у шашкі. Гулялі мы моўчкі, толькі шашка стукне па дошчачцы калі, а гульня ніяк не перашкаджала маім сябрам у іхніх занятках.

Трэба было зірнуць, пацікавіцца, як ён са мной гуляў!

Праводзіў мяне ў дамкі, пасля - закрываў. Закрываў па дзве, па тры, па чатыры шашкі. Карацей і прасцей кажучы, ён гуляў са мной рыхтык так, як гуляе кот з мышкай, не даючы ёй ніякай магчымасці пазбавіцца ягоных кіпцюроў.

Гуляем мы з ім тыдзень, два, гуляем мы з ім месяц, два. На трэцім месяцы пачалі нашы партыі канчацца разыгранкамі - не перамагаў ён, не перамагаю я.

І вось блізка каляд селі мы з ім гуляць. Згулялі партыю, і я ўзяў ды закрыў ягоную шашку. Выбегла на гэтае відовішча гаспадыня, спынілі свае заняткі мае сябры, ды ў голас:

- Гаспадар! Што гэта вы? Як гэта вы?!

Мой стары партнёр, самае сапраўднае прозвішча якога было Бабаха, як бабахнуў кулаком па шашках, дык яны і пакаціліся па ўсёй падлозе. Тут жа спавяшчае:

- Машэнства - і больш нічога! Давай новую партыю.

Пачалі мы новую. Мае сябры і гаспадыня не адыходзяць. Кантроль! Скончылі мы нарэшце і гэтую партыю. Закрыў я зноў шашку. Вінаваты, відаць, ва ўсім далейшым мае сябры. Яны зноў, у адзін голас:

- Га-га-га! Ды што ж гэта за такое?!

А гаспадар, - так яго самалюбства за старое сэрца ўзяло, - схапіў нож, якім золата рэзаў для пазалоты сваёй, ды з гэтым нажом на мяне.

Я ад нечаканкі і спалохаўся і разгубіўся. Замест таго каб выскачыць з кухні на панадворак, ускочыў на печ. А печ жа іхняя, як я ўжо казаў, нібы пастка якая. Жонка, хлопцы чалавека за ногі

трымаюць. А ён толькі адно паўтарае:

- Зарэжу!

Ледзь-ледзь угаварылі яго і адвялі ў спальню. Я ўсю ноч не спаў, баяўся. Днём, пасля заняткаў, знайшоў сабе новую кватэру, прыйшоў на старую толькі разрахавацца ды забраць свае сціплыя рэчы. Гаспадыня, ды і сам гаспадар прасілі мяне застацца. Я расчуліўся, пашкадаваў старога і сказаў:

- Я не гневаюся на вас, гэта няпраўда, што я з-за шашак якіх ад вас адыходжу. Я знайшоў кватэру побач самой семінарыі, бо ў мяне дужа кепскі абутак, а вуліцы гразкія.

Прыходзіў пасля разы са два ў госці да іх, да хлопцаў. Але з таго дня больш ніколі і ні з кім за ўсё сваё жыццё не гуляў ні ў шашкі, ні ў шахматы.

## Бабуліна фісгармонія

Наш настаўнік даў тэму для сачынення - «Мае самыя дарагія ўспаміны».

Зусім нядаўна мы, трыццаць шэсць юнакоў, вытрымалі сапраўдны бой - уступныя экзамены ў настаўніцкую семінарыю. Бой быў цяжкі: на кожнае месца чатыры кандыдаты. Цяпер гордыя сваёй перамогай, мы павінны пацвердзіць зноў, што настаўнікі не памыліліся, прыняўшы менавіта нас, што мы можам складна і прыгожа выказваць свае думкі, самыя задушэўныя.

Трыццаць шэсць хлопцаў, трыццаць шэсць розных беларускіх куточкаў, розных вёсак, краявідаў! Ды такая тэма! Тут не можа быць, каб хто і хацеў, ніякага падабенства.

Так яно і сталася. Напісалі ўсе па-рознаму. Хто - пра бацькоў, хто - пра першае знаёмства з горадам, пра любімую кнігу, пра шчырых сяброў. Адзін наш хлопец, Міхась, родам з Навагрудчыны, напісаў пра музыку, якую слухаў у бабулінай хаце.

Расказаў ён пра бабуліну сядзібу, цудоўны сад, бэзавыя альтанкі, салаўіныя спевы, сардэчнасць старэнькай бабулі. А больш за ўсё і прыгажэй за ўсё пра тое, як стройна, дзівосна іграла яна на фісгармоніі розныя песні і розныя музычныя творы выдатных кампазітараў. У свае дзявочыя гады была тая бабуля пакаёўкай у багатай пані і навучылася іграць тады, калі вучылі паненку. Паненка не мела ніякай здольнасці да музыкі, а ў пакаёўкі такая здольнасць была ды яшчэ - выдатны музычны слых. Настаўнік перадаў ёй за кароткі час тое, чаго ніяк не мог перадаць паненцы...

Калі пакаёўка выходзіла замуж, старая пані, расчуліўшыся з такой падзеі, запыталася:

- Які ж бы ты хацела атрымаць ад мяне падарунак на вяселле?

Яна думала, што маладая папросіць грошай або карову, але пачула нечаканае:

- Панечка! Фісгармонію!

Дужа здзівілася пані: якраз тады пачалі з'яўляцца піяніна і раялі, а фісгармоніі выходзілі з моды. Так і паехала фісгармонія ў сялянскую хату. Так і дажыла да бабуліных старых гадоў. Навучылася, праўда, іграць на ёй і Міхасёва матка, але бабуля трымала інструмент пакуль што ў сябе. Дзіва што: дочкі замуж павылятлі, дык хоць музыка ў хаце засталася, дапаможа смутак калі развеяць… Вось і іграла бабуля сваім унучкам і ўнукам, калі тыя прыходзілі ў госці, жывучы ў блізкіх вёсках.

Напісаў Міхась сваё сачыненне так складна, так прыгожа, што настаўнік сам прачытаў яго перад усім класам. Гэта была большая ўзнагарода, чымсьці пастаўленая чырвоным атрамантам пяцёрка.

У Міхася на твары была сціплая радасць. Здавалася, што ён сваімі думкамі лунае там, на Навагрудчыне, у бэзавым садзе, слухае пявучыя акорды. Ды і многія з нас у сваім уяўленні бачылі так добра і выразна намаляваны Міхасём утульны куточак!

І вось на перапынку падаў свой голас наш аднакласнік Цыпрук, якому паставілі тройку.

- Гэй ты, бабуліна фісгармонія! А я паставіў бы табе тройку, а не пяцёрку. Падумаеш! Музыкай бабуля займаецца! Мая бабуля дапамагае бацьку кілбасы рабіць на продаж, машыну круціць. Гэта больш каштоўная музыка!..

Міхась ад такой нечаканкі зніякавеў. У яго задрыжалі вусны. Здавалася, што з ягоных вачэй зараз пырснуць слёзы. Мы таксама збянтэжыліся. І стварылася ўражанне, што нібыта нехта заскочыў у садок, паламаў, патаптаў бэзавыя кусты, кветкі, распудзіў салаўёў, а пасля кіем ударыў па струнах, і яны пачалі не спяваць, а рыдаць, надрыўна галасіць.

Ад таго часу Цыпрук і некаторыя іншыя хлопцы ніколі не называлі Міхася інакш, як толькі «бабуліна фісгармонія». А хлопец быў такі сціплы, што нават адгукаўся на мянушку…

Нядаўна сустрэў я таго Цыпрука зноў. Пражыўшы жыццё, ён нікольк не змяніўся. Узяўшы мяне за гузік, пачаў:

- Ты разумееш: паэт у сваім вершы кажа, што яго расчуліў пах свежага, толькі што спечанага духмянага хлеба. Ці варта псаваць паперу такой гастранамічнай пісанінай?!

- Слухай, Цыпрук! - адказаў я, далікатна вызваліўшы свой гузік. - Прызнайся шчыра: табе малому мядзведзь вуха адтаптаў? У маладыя гады ты быў супраць музыкі, цяпер ты супраць паэзіі. Ды

які ж ты тонкі крытык, проста дзіва!

## Першае заляцанне

Рыхтуючы з нас вясковых настаўнікаў, якія павінны ствараць у сваіх вёсках асяродкі культуры, нашы педагогі імкнуліся прышчапіць нам усе добрыя якасці, уласцівыя сапраўднаму культурнаму чалавеку. Кожны настаўнік звяртаў нашу ўвагу на ўсе станоўчыя і адмоўныя рысы літаратурных ці гістарычных асоб, якія маглі б быць карысныя і каштоўныя пры фармаванні нашых уласных характараў.

Дырэктар, чалавек надзвычайна высокай адукацыі, аўтар вялікіх прац па гісторыі расейскага старадаўняга мастацтва, Н.Н.Ушакоў выказваў неаднойчы жаль з прычыны таго, што мы, прыехаўшы ў параўнаўча чужы горад, не маючы ўласнага памяшкання, не можам наладжваць літаратурна-мастацкіх вечарын, на якія б маглі запрасіць хлопцаў і дзяўчат з іншых школ. Шкадаваў і аб тым, што мы не можам праз гэту ж прычыну навучыцца правільна і прыгожа танцаваць класічныя танцы. Некалькі разоў на сваіх лекцыях па гісторыі педагогікі ён казаў нам, што мы не павінны трымацца дзікунамі ў адносінах да дзяўчат-гімназістак, рэкамендаваў нам знаёміцца з імі, праводзіць іх у школу, на канцэрты.

І вось аднойчы, хоць і ў чужым памяшканні, нашай настаўніцкай семінарыяй быў арганізаваны вечар. Праграма была бадай што звычайная: дэкламацыя вершаў, спевы, гульні ў розныя фанты, танцы. Нам дырэктар загадзя наказаў, каб мы даглядалі гасцей, стваралі сваім удзелам добры настрой і, самае галоўнае, каб пасля вечарын абавязкова праводзілі дзяўчат да іхніх кватэр.

На гэтым вечары я і пазнаёміўся з адной гімназісткай - Ленай Багдановіч, бацькі якой жылі ў Невелі і мелі ўласную хатку блізу Віцебскага вакзала. Было ёй гадоў чатырнаццаць-пятнаццаць, бадай мая равесніца. Была яна даволі прыгожая, з карымі вачамі, з доўгімі русявымі косамі, якія ў тыя гады былі модныя. Твар у яе быў тыпова беларускі: з тонкім носікам, злёгку хударлявы, з натуральным румянцам. Адным словам - звычайная сімпатычная дзяўчына. Калі канчаўся вечар, я папрасіў у сваёй спадабанкі дазволу праводзіць яе дадому. Яна дазволіла, крыху падумаўшы:

- А ці зручна будзе табе? Табе ж трэба зусім у адваротны бок...

Памогшы ён апрануць паліто, я сам хутка апрануў свой шынель, павязаў на шыю башлык, без яго мы не мелі права нідзе з'яўляцца ў зімовы перыяд, усклаў на галаву сваю шапку, і мы

памаленьку пайшлі. Калі крочыць не спяшаючыся, да дома маёй спадабанкі было не больш васьмі хвілін хады. Мы неяк ухітрыліся ісці больш паўгадзіны. Я, зразумела, вёў яе пад руку. Размаўлялі мы пра ўсё на свеце: пра сваіх настаўнікаў, сяброў, пра навукі. Нават закранулі тэму кахання, але ў літаратурным плане. Калі падыходзілі да яе хаты, мы ўжо так зблізілі свае галовы, што засталося зусім, зусім недалёка да пацалунка. Я, стаўшы на іхнім ганку, наважыўся быў дакрануцца сваімі вуснамі да яе такіх слаўных, прыгожых вусначкаў. І ў гэты самы момант нейкая цёмная хмара нечакана закрыла ад мяне і маю спадабанку, і ясны месяц, і зорнае неба: на маю галаву апусцілася «чудзішча обла, стазеўна і лаяй», абдало мяне попелам, укалола мільёнам іголак і аглушыла, як громам, словамі:

- Ах вы, саплівікі, абнімацца? Цалавацца? Заляцацца? Вось табе раз! - па мне… - Вось табе два! - па маёй спадабанцы… - Вось табе раз! - зноў па мне… - Вось табе…

Кожнае слова сваёй энергічнай прамовы гэтая хмара падмацоўвала не менш энергічным ударам памяла, звязанага, відаць, для нейкай хлебапякарскай печы.

Каб пазбавіць сваю мілую Леначку ад новых удараў, бо карніца ўсё адлічвала: «Вось табе два», - я адскочыў ад ганка. Матка Лены, гэта была менавіта яна, дадала тады:

- Я скажу твайму дырэктару, што замест таго каб урокі вучыць, ты да дзяўчат цягаешся…

Стоячы на даволі пачцівай адлегласці ад яе і страсаючы з сябе, наколькі магчыма, попел ад памяла, я сціпла адказаў:

- Дырэктар нам і загадаў, каб мы ўночы не адпусцілі дзяўчат адных, абавязкова праводзілі да самага дому. Я ж у ваш дом не ўваходзіў…

На гэта яна, махнуўшы памялом так, што яно зноў закрыла ад мяне ясны месяц, сказала:

- Не будзе мала і вашаму дырэктару, калі так…

Усё ж з Ленай мы пасля гэтага сустракаліся, праўда, выпадкова. Яна пад вялікім сакрэтам мне сказала:

- А ведаеш, ты маёй маме спадабаўся. Мне думаецца, што можаш смела прыйсці да нас у госці.

Гэта для мяне было вельмі нечакана, але рызыкаваць у другі раз я не адважыўся.

Так мы і разышліся з ёй у розныя бакі…

## Даехалі ў добрым гуморы...

Давялося мне летам 1931 года плысці на невялічкім параходзіку па рацэ Вятцы ад горада Кацельнічы да горада Кукаркі. Дакладней кажучы - васемнаццатага чэрвеня, можна сказаць - самым летам. А лета было зімнае, а параходзік - прымітыўны. Кают на ім - ніякіх. На палубе, адкрытай з усіх бакоў, стаялі, як у гарадскім садзе, драўляныя лаўкі. Толькі мы крануліся, як пачаў дзьмуць з усіх бакоў сіберны вецер, аж пасінелі рукі мае. Бачу, што так і замерзнуць можна лёгка. Доўга не думаючы, развязаў я свой багаж, дастаў кажушок, валёнкі, зімовую шапку і рукавіцы. Пачынаю ўсё нацягваць на сябе. Мой таварыш адзін, зямляк, з якім я ехаў, штурхае мяне пад бок.

- Што? - пытаюся ў яго.

- Што ты робіш! - пачынае ён сароміць мяне. - Зірні, людзі смяяцца пачынаюць з цябе.

А было ўсіх пасажыраў, мясцовых людзей, чалавек дваццаць.

- Няхай смяюцца, - адказваю. Апрануўся, каўнер паставіў, ад ветру закрыўся і сяджу сабе ў поўнай выгодзе. А мой зямляк аж дрыжаць пачаў, аж пасінеў увесь. Урэшце ўстаў, распакаваў свой пак, дастаў раманаўскі кажух, зімовую шапку - ды на сябе. Я яму, як ён мне крыху раней:

- Што ты робіш? Людзі смяяцца будуць.

А ён:

- Маўчы, братка, маўчы! Зуб на зуб не трапляе, які там смех...

Пачакаўшы крыху - усе пасажыры, гледзячы на нас, пачалі ратавацца ад холаду, падаставаўшы ўсё, што ў каго прыдатнага было. Адна кабета толькі засталася ў блюзачцы, а ў самой аж слёзы на вочы набеглі. У яе нічога з сабой цёплага не было.

Не кажучы лішняга слова, я дастаў сваю суконную коўдру, падаю ёй і кажу:

- Ахініся, даражэнькая!

Як яна дзякавала, як яна ўсцешылася, ахінуўшыся тою коўдрай!

## Тры бульбінкі - дзве стравы

Трапны жарт, бадзёрасць духу можа памагчы тады, калі часовая нядоля ахіне чалавека...

У маім асабістым жыцці бывалі моманты вельмі добрыя, прыгожыя, бывалі і дужа цяжкія, горкія. Я неяк прызвычаіўся быў ніколі не танцаваць ад радасці, а прыглядацца да яе, можа, гэта не сапраўдная радасць, а якое-небудзь ашуканства або падробка.

Калі ж з'яўлялася да нас гора, я прыглядаўся таксама, ці няма ў ім добрага хоць крыху. Быць не можа, так думалася мне, каб гора цалкам было саткана з аднае змрочнасці ды гаркаты. Хоць адна-дзве светлыя ніточкі павінны быць у гэтай тканіне.

І знаходзіліся. Быў адзін такі момант. Прыходжу дадому, а жонка мне ціхенька кажа:

- Засталіся ў нас тры бульбінкі. Больш - анічагуткі.

Сын, маленькі хлопчык, пачуў гэта і дадае:

- Адна цыбулінка ёсць яшчэ ў нас!

Я адразу адказваю:

- Гэта ж цуд! Беларусы кажуць, што гора тады, калі ні цыбулькі, ні крышыць у што. А ў нас зараз будуць з усяго гэтага не адна, а дзве стравы!

І пачаў сам гатаваць абед. Адцадзіў адвар ад бульбы, пакрышыў цыбулінку - першая страва. З'елі па бульбіне - другая страва.

Тады мой сын, узяўшы вясёлы тон, дадаў:

- Яшчэ ёсць трэцяя страва - рот прапаласкаць...

Так мы паабедалі. На другі дзень з харчаваннем справа наладзілася, з'явіліся нават і трэція стравы. Так што рот паласкаць перайшло на чацвёртую...

## Добрая кніга дапамагла

Працаваў я ў райспажыўсаюзе, - канец ліпеня 1931 года. Са сваёй новай работай і абавязкамі азнаёміўся хутка. Сяджу аднойчы, працую. Ідзе аднекуль наш старшыня. Зірнуў я і аж спалохаўся: нельга пазнаць, з твару змяніўся, усхваляваны, відаць, бясконца. Не павітаўшыся, прайшоў да сябе, у кабінет. А ў мяне была тэрміновая справа да яго. Заходжу. Сядзіць, маўчыць, а выгляд усё такі самы - дужа неспакойны.

Я маўчу пра паперу, з якой прыйшоў, а пытаюся:

- Скажыце, калі ласка, якая ў вас непрыемнасць здарылася? Ці не здолею я хоць чым-небудзь памагчы вам?

- А вы не чулі, што ўчора адбылося?

- Не, кажу, нічога не чуў.

І вось што выявілася. Наш гарадок быў ад чыгуначнай станцыі Кацельнічы ў ста сарака кіламетрах. Сувязь падтрымлівалася коньмі. Напрыклад, занаражалася трыста або чатырыста сялянскіх фурманак. Нагружалі іх лёнам, каноплевым валакном, збожжам, адным словам - усялякай сельскагаспадарчай прадукцыяй, і накіроўвалі на станцыю Кацельнічы. Там усё гэта згружалася, а замест сельскагаспадарчай грузілася на фурманкі

прадукцыя прамысловая: жалеза, шкло, мануфактура. Улегцы фурманкі не хадзілі, прывозілі крамныя тавары. Але, як на тое ліха, прамысловасць перастала чамусьці рабіць каламазь. Каламазі не было анідзе. На такую вялікую адлегласць, - ледзь не трыста кіламетраў, - ды з грузам фурманкі хадзілі на нямазаных колах. А нездарма ж і прымаўка існавала ў нас: «Пішчыць, як нямазанае кола». А калі запішчаць адразу тысяча або паўтары тысячы нямазаных колаў, што тады? Пякельны канцэрт нейкі, суцэльная какафонія, не горш, чымсьці некаторыя сучасныя музычныя творы «попмузыкі». Спрабавалі людзі рабіць нейкую сваю мазь, - каторыя шукалі дзёгаць, каторыя нават маслам мазалі, - ні таго дзёгцю, ні масла на ўсе колы не хапала. І вось аднойчы накіравалі ў Кацельнічы аж чатыры сотні фурманак, а каб яны не параз'язджаліся па сваіх вёсках выпадкова, адзін нейкі мясцовы начальнік у арганізаваным парадку прагнаў фурманкі па цэнтральнай вуліцы горада на пагрузку. Ехаў такі абоз дужа доўга. І ўсе колы, кожнае на свой лад, пішчалі. Атрымалася такая страшная музыка, што чутно было нават на ўскраіне горада. Зразумела, усе кіраўнікі раёна абурыліся ў першую чаргу на гандлёвыя арганізацыі: «Што вы робіце, чаму не можаце забяспечыць сялян каламаззю?»

Майму старшыні вызначылі тэрмін, дужа кароткі, пасля якога, калі ён не дасць насельніцтву каламазь - павінен пашукаць сабе іншую работу.

Паслухаўшы пра гэту сумную і непрыемную гісторыю, я падаў прапанову: пасланць агентаў і закупіць дзе каламазь, запатрабаваць ад вышэйшых гандлёвых арганізацый. Старшыня мне адказаў:

- А вы думаеце, не пасылалі? Не пісалі? Не прасілі? Аж кленчылі перад тымі арганізацыямі - нічога не памагае, нідзе гэтай каламазі няма.

- Тады, кажу, іншая справа. Будзем рабіць яе самі!

- А вы ўмееце рабіць?

- Не толькі не ўмею, але нават не ведаю, з чаго яе робяць.

- Дык як жа?

- Для гэтага існуюць кнігі. Зараз дамо маланку, - гэта былі такія тэрміновыя тэлеграмы, - у Маскву, у «Кнігу - поштай» і папросім, каб яны прыслалі нам адпаведную літаратуру.

Простая справа? Зусім простая. Але вось уявіце сабе, што дужа часта многія не даацэньваюць ролю кнігі, пачынаюць адкрываць адкрытыя Амерыкі, замест таго каб праверыць у адпаведным падручніку: што зроблена папярэднікамі раней. А тут яшчэ, як на грэх, бывае, што і «Кніга - поштай» не заўсёды акуратна адгукаецца на запытанні. З уласнай практыкі апошніх

гадоў маю факты, калі толькі праз пяць-шэсць месяцаў выконваліся мае ўласныя заказы адной правінцыяльнай «Кніга - поштай» і то, калі да іх зайшоў жыхар таго горада і настойліва папрасіў выканаць заказанае... Але ж там - правінцыяльная арганізацыя. А я даў тэлеграму ў маскоўскую. Можаце ўявіць сабе, што праз двое сутак на трэція прыйшла пасылка з кнігамі! Каб я ведаў прозвішча таго добрасумленнага працаўніка, яго трэба было б адзначыць для ўсеагульнага ведама! Той працаўнік літаральна выратаваў і нашага старшыню, і нашу арганізацыю, і наш конны транспарт. У пасылцы было шэсць кніг. Усе яны - капітальныя, фундаментальныя падручнікі і тлумачаць, як арганізаваць вялікую каламазную вытворчасць, цэлыя заводы. Але адна з іх была самая маленькая, з назвай, надрукаванай на сіняй вокладцы белымі літарамі: «Как самому простейшим способом изготовить колесную мазь». Каштавала яна ўсяго трыццаць пяць капеек. І гэтая танюсенькая кніжачка прынесла такую карысць!

Атрымаўшы з пошты пакунак з кнігамі, на скорую руку пераглядзеўшы яго, я адразу пайшоў у кабінет да старшыні.

- Іван Якаўлевіч! Прыйшлі кнігі, пачынаем рабіць каламазь.

Мой начальнік усхваляваўся, ускочыў, хапіў усе кнігі, пачаў іх гартаць. Я паказаў яму тую, танюсенькую.

- Якія матэрыялы патрабуюцца для мазі?

- Вада - па-першае.

- Вады маем цэлую раку Яранку.

- Па-другое - вапна.

- Вапны, ронгінскай, - было там такое паселішча Ронгіна, ад якога і пайшла назва вапны, - повен склад.

- А яшчэ - паўгудрон.

- Гэтага дабра пазычым на першы раз у МТС. А больш нічога? Ні масла, ні мёду, ні яек?.. - пачаў жартаваць старшыня.

- Больш нічога. Для першага разу - бочка, драўляная мяшалка.

Выйшлі ўсёй кампаніяй на дварышча. Прынеслі вядро паўгудрону, вапны. Эмульсавалі мяшалкай ваду з паўгудронам і пачалі, памешваючы, насыпаць у тую эмульсію вапну. Літаральна праз пятнаццаць-дваццаць марудных хвілін першы замес быў гатовы.

Сам наш старшыня, не давяраючы нікому, намазаў восі і колы ў дрожках, запрог каня і пакаціў па горадзе. Вярнуўшыся праз колькі хвілін, вясёлы, радасны, ён здалёку закрычаў:

- Браточкі, не пішчыць!

Што казаць далей? Рабочы, які прысутнічаў пры першым замесе, быў тут жа, на панадворку, прызначаны кіраўніком новага

прадпрыемства, яму дадзена пад гарантыю - «адказваеш галавой!» кніжачка і двое памагатых.

Праз тыдзень увесь раён быў забяспечаны каламаззю і Яранск пачаў прадаваць яе ў суседнія раёны, але, што праўда, то праўда, свайго сакрэту нікому не адкрываў…

Колькі добрых слоў паслана было па адрасу і аўтара той кніжачкі і людзей, якія так тэрмінова і акуратна выканалі заказ на кнігі!

## Сустрэча з ліхімі людзьмі

Увосень 1934 года тэрмінова ехаў я з Яранска да Іашкар-Алы. Ехаў я з адным земляком. Было ў нас дзве фурманкі, па адной на кожнага. Пры кожнай фурманцы - павознік. Але дарога такая цяжкая, што магутныя коні ледзьве цягнулі бадай парожнія калёсы, на якіх былі ўвязаны невялічкія куфэркі. Мы ішлі абочынай дарогі, пехатой. Уся наша дарога працягласцю была восемдзесят чатыры кіламетры. А ехалі мы двое сутак. На сярэдзіне дарогі - начавалі.

На другі дзень, калі добра сцямнела, пачалі мы набліжацца да Іашкар-Алы. Засталося самае гіблае балота, на якім не так даўно насыпалі высокую дамбу - грэблю, а перад ёй, над балацянай рэчкай, - доўгі драўляны мост паставілі. І вось каля гэтага моста і заселі ліхія людзі, каб сабраць свой крывавы плён. На наша шчасце, з горада ехаў нейкі чалавек конна. Тыя ліхія людзі меліся ссадзіць яго, але ён паспеў уцячы. Параўняўшыся з намі за які кіламетр ад моста, гэты чалавек хуценька папярэдзіў нас:

- Браткі! Асцярожна! На мосце ліхія людзі!

Мы адразу спыніліся. Павознік мой, чалавек магутнага фізічнага складу, выявіў сябе такім жа магутным баязліўцам. Адразу ж адшпіліў рэмень і сказаў, што яму трэба нечага затрымацца ў кустах.

Мой таварыш быў ненамнога смялей майго павозніка. Але затое павознік майго таварыша - ну, проста герой. Ён толькі запытаўся ў мяне:

- Ты не баішся?

Я адказаў шчыра:

- Нікога і нічога!

- Тады пойдзем так. Я, - кажа той павознік, - пайду першы, ты за мной, а наш друг, - кіўнуў ён на майго таварыша, - пойдзе за намі. - Тут жа ён адвязаў дарожныя сякеркі - ад свайго і ад майго воза.

Узялі мы з ім па сякерцы і памаленьку крануліся. Коні ідуць,

брыдуць фактычна самі, мы толькі іх панукаем. У той жа час як мага ўглядаемся, што там наперадзе. І вось разгледзелі -чатыры цені. Стаяць з правага рогу, пры самым пачатку моста. А мы нібыта нічога не бачым, ідзём ды на коні:

- Но, косю, но! Хутка адпачываць будзеце... Но!

І вось, калі заставалася метры са два да тых зданяў-ценяў, мой папярэдні кідаецца ў атаку, не чакаючы нападу. Я за ім. З усяго маху ён б'е аднаго ў бок, скідвае з грэблі. Я такім жа чынам збіў другога, і ён пакаціўся з дзесяціметровай вышыні. Трэці, мабыць, ад нечаканкі паслізнуўся сам, пакаціўся за імі. А чацвёрты толькі гойкнуў:

- Іх тут многа, праклятых! - выскачыў на мост і пабег па мосце, толькі насціл гудзе. Тым часам коні нашы, не спыняючыся, узышлі на мост самі, колы загрымелі па дрэве. Тут жа з'явіўся мой павознік. Замацаваўшы свой рэмень на поясе, ён адразу пачаў пытацца:

- Ну, дзе яны? Дайце мне іх у рукі!

Мімаволі мы ўсе, у такім страху, пачалі рагатаць. У начной цішы гэты рогат, пэўна, быў таксама, як зброя. Уцякаючы, злачынцы чулі, безумоўна, яго і, не ведаючы нашых магчымасцяў, ды яшчэ пачуўшы громападобны кліч: «Дайце мне іх у рукі!» - напэўна, паддалі пэнду.

А ў нас - новая задача: што рабіць далей? Мой павознік і мой таварыш прапануюць тут спыніцца і чакаць світання. Павознік майго таварыша і я прапануем неадкладна ехаць далей. Гэты сапраўдны герой тлумачыць:

- Мы іх, тых людзей, раздражнілі, паскідалі ў балота. Яны пойдуць, прывядуць падмогу і падавяць нас у гэтай глушы...

Паслухаўшы ўсю такую размову, я падаў прапазіцыю: свае рэчы перакладваю на другі воз, а яны няхай застаюцца тут да раніцы ці да палудня - як хочуць. «Смельчакі» не згадзіліся, і мы неадкладна паехалі далей. Прыехалі памаленьку ў марыйскую сталіцу. Вельмі ўсцешыліся, калі з-за павароту зазіхацелі яе агні і нашы коні пайшлі па брукаваных вуліцах...

## Сінявокая лекарка

Колькі на свеце ёсць сардэчных, добрых людзей, якія спагадаюць людскому гору, вялікае яно ці малое, ды імкнуцца дапамагчы, не чакаючы, калі аб гэтым іх прасіць будуць...

Па тэрміновай, неадкладнай справе ішоў я аднойчы ад сяла Шэшургі да сяла Міхайлаўскага на Вятчыне. Тым шляхам цяпер аўтобусы ходзяць. Але ў той час - ніякага руху не было. Праедзе,

бывала, адна якая фурманка - ды ўсё. Прыблізна на сярэдзіне маёй дарогі была невялічкая вёска. Вёска лясная, вельмі акуратная, чыстая. Каля кожнага дома лаўка для адпачынку. Вокны ўсе фарбаваныя, з прыгожымі ліштвамі. Брамы - з разбярскімі аздобамі markdownрознымі. Адным словам, надта прыгожая вёска.

Калі я падыходзіў да гэтае вёскі, у мяне нечакана забалеў зуб. Ды такі жудасны боль з'явіўся, што я ледзьве на нагах трымаўся, аж уваччу цямнела. Вось-вось, здавалася мне, самлею. Што рабіць? Вяртацца назад - палова дарогі пройдзена, такі самы адрэзак засталося прайсці. Ды і справу трэба споўніць. А ісці ніяк не магу. Узышоўшы ў гэтую прамежную вёсачку, я сеў на лаўку каля аднае хаты, узяўся рукой за шчаку і толькі-толькі не пачаў лямантаваць.

У гэты момант, - чую я, - рассунуліся рамы над маёй галавой, - у большасці там рамкі не на навесках, а рассоўныя, - і прыемным дзявочым голасам нехта запытаўся:

- Ці не зубы ў цябе баляць, чалавеча?

Я не адказаў, а толькі прагудзеў:

- Му-гу...

- Пачакай! Я табе іх зараз вылечу!

А я крыху ведаў гэтыя вясковыя лекі. Бывае жартуючы ці вядро вады ліануць вось так, для здароўя, ці яшчэ які іншы фокус прыдумаюць. На ўсякі выпадак я адсунуўся на край лаўкі і пачаў насцярожана пазіраць на тое акно.

Аж зусім з другога боку, з панадворку, адчынілася брамка і да мяне падышла прыгожая, сінявокая дзяўчына. Яна трымала ў адной руцэ ножык, а ў другой - нейкі свежы, добра вымыты корань. Сеўшы побач са мной, яна акуратна адрэзала танюсенькі скрылёчак ад гэтага кораня, падала мне і сказала:

- Пакладзі на хворы зуб і сцісні сківіцы.

Я так і зрабіў. А яна тым часам пачала расказваць мне ўсялякія маленькія жарцікі пра свае падзеі. Гутарку я падтрымліваў толькі сваім гудзеннем, каб яна не падумала, што я нейкі нявэтлівы. Праз кароткі час зуб мой зусім супакоіўся, перастаў балець. Так, як, не раўнуючы, наляціць віхор, пакрышыць, пакруціць усе на сваім шляху і - няма яго, знік.

Я падзякаваў сваёй выратавальніцы і папрасіў, каб яна дала мне ў дарогу гэты корань:

- Калі зуб забаліць зноў, я адразу ўтаймую боль.

Але больш гэты зуб у мяне ніколі не балеў. А зелле тое - самы звычайны агародны хрэн. Калі хто надумае лячыць свае зубы гэтым зеллем і яно адразу не паможа, няхай пашукае такую сінявокую лекарку. Мне думаецца, што галоўная частка лячэння была ў тым, што яна сваёй мілай гаворкай «замовіла» мне зубы.

## **Гартаванне цярплівасці**

Наогул я чалавек цярплівы. Цярплівасць у мяне не з'явілася адразу, як нейкі матчын дар, пры нараджэнні. Яна прыходзіла паступова, у працэсе розных маленькіх і вялікіх работ, якія даводзілася выконваць у сваім жыцці. Я ніколі не стаўляў перад сабою такую мэту: будзь цярплівы. Цярплівасць - гэта не адназначна з пакорнасцю або пакорлівасцю. Цярплівасць - гэта маці вынаходлівасці, маці творчасці. Няпраўда, што выдатныя творы з'яўляюцца ў адзін міг. Яны выказацца могуць у адзін міг, але яны раслі, спелі ў сэрцы мастака, можа, не год, а дзесяцігоддзі. Дам уласны прыклад. Пяць радкоў прачытаў я ў свае маладыя гады ў адным са зборнікаў Чачота пра тое, як сялянскі сын у Беларусі знайшоў выпадкова кветку папараці і як паны адабралі ад яго тую кветку, бо ён не ведаў, што з'яўляецца гаспадаром такога цудоўнага скарбу, а яны якраз і ўразумелі тое. Толькі пад канец шасцідзесятых гадоў я напісаў сваю «кветку шчасця» на тыя пяць радкоў. Я напісаў гэтую казку за якую гадзіну часу. А выношваў яе сорак з лішнім гадоў, неаднойчы згадваючы пра яе, вяртаючыся да яе, але пакідаючы яе зноў нерухомай на доўгія гады. Рамэн Ралан, між іншым, казаў: «Цярпі, пакуль ты кавадла, бі, калі станеш молатам». Гэтыя словы не трэба, хоць і можна, разумець просталінейна. У іх закладзены дужа шырокі і глыбокі сэнс. Добра ён падмацоўвае і сказанае мною.

Але вернемся да цярплівасці і да таго, як яна з'явілася ў мяне, як яна стала адным з маіх рухавікоў, застаючыся, - які парадокс! - сама нерухомая.

Жыў я са сваёй маленькай сям'ёй у горадзе Яранску. Працавалі мы ў розных установах: жонка ў школе, я ў спажывецкай кааперацыі, фактычна - сакратаром-юрысконсультам, - вёў усе прэтэнзійна-арбітражныя справы. Арандавалі мы ў былой купчыхі гэтага горада паўдома: два пакойчыкі, кухню. Дамовіліся пры пачатку, што вясною гаспадыня нам дасць кавалачак агарода на сваёй сядзібе, каб нашаму маленькаму сыну было дзе і папрацаваць крыху разам са мной і паласавацца якой гароднінай, не заглядваючы ў чужыя гароды.

Прыходзіць вясна, канец сакавіка месяца. Сустракаю гаспадыню і прашу, каб яна паказала мне і назначыла кавалачак дакляраванага гарода.

- Навошта вам агарод? Вы абое працуеце. Што будзе вам трэба з гародніны - вы зможаце купіць у мяне...

- Дазвольце... Прычым тут «купіць» ці «прадаць»? Справа не ў тым. Я ж вам казаў, якое значэнне мае гэта для выхавання майго

сына. Я дамовіўся, вы згадзіліся. Якая можа быць цяпер размова?

- Я параюся са сваім гаспадаром…

Цераз пару дзён я нагадваю ёй зноў пра нашую размову і прашу паказаць мне месца на яе вялізнай сядзібе, - больш паловы гектара.

- Добра, - кажа, - пойдзем, пакажу…

Ступаем на гарод, і яна паказвае мне дзялянку, на якой яны самі ніколі нічога не садзілі, бо на гэтым месцы стаяў вялізны-вялізны свіран, у ім яны складвалі лён і каноплі, чым гандлявалі. Зусім нядаўна гаспадары гэты свіран разабралі, прадалі, а месца з-пад яго і вызвалілася. Бачу бітае шкло, іржавае жалеззе, розны друз.

- Дык гэта ж не гарод, а па-расейску кажучы - «пустырь», ды яшчэ закіданы хламам…

- Як хочаце! Крыўдуйце на мяне, але іншага нічога вам прапанаваць не магу…

Жонка мая, калі я ёй расказаў, рукамі замахала:

- Не трэба! Навошта такі гарод? Мне, - кажа, - дадуць разам з настаўніцкім калектывам…

Гэта добра, а вось пры доме…

І пачаў я выходзіць а пятай гадзіне раніцы штодня на гэты гарод. Пачаў збіраць усё смецце і выносіць яго, складваць штабяльком каля плота. Цэлую сцяну, як мур-мураваны, склаў ды яшчэ рознакаляровымі бітымі шкелкамі ператкаў. Калі сонейка пасвеціць добра, дык гэты мур зіхаціць, нібыта адмыслова, для хараства складзены. А гаспадыня тая і не бачыць, што на яе дарунку робіцца. Калі я ўсё гэта падчысціў, тады рыдлёўкай перакапаў адзін раз, - гарод тым часам падсыхаць стаў. Пачакаўшы, перакапаў другі раз. Пайшлі мы з жонкай, з сынам, разбілі лехі і, што можна паводле часу, - усё пасадзілі: буракі, моркву, часнок і падобныя трывалыя расліны.

А гаспадары нашы толькі яшчэ пачыналі думаць наконт свайго гарода. Прыбегла яна неяк у нядзелю да нас, задыхаўшыся:

- А божухна, а міленькі! Гляньце, што дзеецца на вашым гародзе! Ды што ж гэта, ды калі ж гэта…

І пачала літанію чытаць. Я ёй адказаў, што каменне, шкло, наогул смецце ўсялякае ветрам сагнала да плота. Сам сабой гарод ускапаўся і пасадзіўся…

Па немалым часе пасадзілі і гаспадары свой гарод. Але што здарылася далей: я іду паліваю - вады не шкадую, на які квадратны метр - палівачка. Яна палівае, не раўнуючы, як поп крапідлам - бярозавы венік у ваду памочыць і з веніка пырскае.

А лета было гарачае. У нас агуркоў як насыпана, а ў гаспадыні няма. А самае галоўнае - у нас таматы на лясе

чырванеюць, а ў яе толькі цвісці пачынаюць. Прыходзіць гаспадыня да нас ды і кажа:

- Даруйце, прыйшла да вас з просьбай. Дазвольце хоць пару гуркоў для халадніка ў вас узяць...

Мы ёй адказваем:

- Бярыце хоць па дзесятку штодня, але скажыце, якія ж вы гуркі меліся нам прадаваць, калі не хацелі нам гарода даваць?

...Дачакалі мы восені. Сабралі добры ўраджай. Насалілі, намарынавалі гародніны на ўсю зіму.

Прыходзіць другая вясна. Цяжка на здаровы розум веры даць, што так можа быць, - вось як гартавалася мая цярплівасць, - прыходзіць у канцы сакавіка наша гаспадыня да нас ды і кажа:

- Хочаце - гневайцеся на нас, хочаце не, але мы з мужам параіліся, падумалі і надумаліся, што гэтай пляцоўкі, якой вы летась карысталіся, мы ніяк не можам вам даць. Калі хочаце - можаце ўзяць іншую, дзе стаяў другі свіран.

Карацей кажучы, прапануе мне зноў такі самы хамут, з такім самым, калі не большым, запасам смецця, бітай цэглы, рознага жалеззя...

Аж зубы сціснуў я, так угневаўся. Але тут жа згадаў адзін сказ са Скарынінавых кніг: «Не бывай скорый к розгневанию, гнев убо в лоне безумного опочивает...»

Жонка мая нічога не кажа, толькі пазірае: хопіць у мяне цярплівасці, ці пазычаць трэба будзе куды ісці.

Падумаў я, падумаў. Пасля кажу:

- Не вельмі добры план вы склалі. Ну, але паколькі вам, як вы кажаце, араць замінае наша дзялянка, мы з жонкаю згаджаемся ўзяць новую пляцоўку...

Пачаў я спяваць зноў тую ж самую песню, што і летась. Устаю штодня а пятай гадзіне. Працую да снедання. Выбіраю, выношу, складваю друз пад другую сценку плота. Наклаў новы мур, роўны з плотам, толькі шкелкамі пераклаў іншых колераў: галоўным чынам, ад бітых рознакаляровых бутэлек. Зноў зіхаціць наша дзялянка, як для нейкага свята аздобленая адмыслова.

Забягаючы наперад, павінен сказаць, што свята мы і спраўлялі ўвосень, свята ўраджаю - выдатнага, прыгожага, плённага.

Прыходзілі нават да нас аграномы пытацца:

- Што вы робіце, чаму ў вас таматы на лясе чырванеюць?

Тады для Вятчыны гэта было дзіва. Цяпер, праз сорак гадоў, - там гэта звычайная рэч. Але скажам пра вясну. Мы ўсё пасадзілі ў добрым часе, усё ў нас расце, з лех вывальваецца, а ў гаспадыні, на адабраным у нас кавалку - поўная пустка. Да таго

пустка, што нават маленькі дзіцёнак, наш сын, заўважыў:

- Мабыць, яны, тата, не ўмеюць працаваць. Гэта ж у нас было поўна гуркоў, а ў іх няма ніводнага…

Можа, падумаецца каму, што я казкі расказваю, байкі баю, але прыходзіць зноў да нас гаспадыня і пачынае пакаянную прамову:

- Даруйце мне, грэх папутаў, сквапнасць прымусіла ўзяць адабраць ад вас леташні гарод… Бог мяне пакараў. Нічога ў мяне не вырасла… Дазвольце хоць пару гурочкаў у халаднік узяць у вас…

- Ды бярыце хоць дзесятак, на добрае здароўе ешце, хопіць нам, - адказвае мая жонка…

Гэта ж не канец. Увосень, не чакаючы вясны, зноў ідзе да нас гаспадыня і пачынае сваю размову…

- Раіліся мы з мужам, думалі і надумалі…

Але ў мяне цярплівасці тут не хапіла, і я адказаў, не даслухаўшы яе да канца:

- Не выказвайце сваіх думак, каб пасля вам не прыйшлося зноў прасіць прабачэння. Мы ў вас ніякім гародам карыстацца не будзем, бо паедзем на іншую кватэру.

Так і пераехалі…

## Як бывае на свеце

Пайшлі мы з жонкай у піянерскі парк у горадзе Ўфе, каб пасядзець у халадочку, бо дзень быў спякотны.

Побач з намі села сціплая, даволі прыгожая дзяўчына, з выгляду або маладая настаўніца, або студэнтка якой вышэйшай школы. Мы былі заняты сваімі думкамі кожны, усе маўчалі. У гэты час каля нас прайшла жанчына ў гадах, пасля вярнулася, спынілася і сказала:

- Даруйце, што я вас турбую. У мяне не хапае грошай на параходны білет. Можа, ваша ласка будзе памагчы мне?!

Жонка дастала крыху грошай і дала той жанчыне. Дзяўчына таксама дастала свой партманет і дала грошай столькі, колькі і мая жонка. Жанчына падзякавала і пайшла далей. Мая жонка, не звяртаючыся ні да кога, разважаючы нібыта сама з сабой, кажа:

- Хто яго ведае, каб на свеце не было ашуканцаў, можна было б распытаць жанчыну, колькі менавіта ёй не хапае грошай, і дапоўніць адразу ўсю суму. Але ж часта сабраныя такім або падобным спосабам грошы ідуць немаведама для чаго…

Дзяўчына адказала маёй жонцы так:

- Вы кажаце правільна. Але ў той жа час прыходзіцца і

верыць, проста інтуіцыяй распазнаваць, дзе праўда, дзе хлусня… Літаральна гэтымі днямі пазванілі да нас у кватэру. А ў нас сям'я немалая: бацькі, браты, сёстры. Адчыняем дзверы. Стаіць кабета сярэдняга ўзросту, на руках дзіцёнак. Другі - трымаецца за матчын падол.

Пытаемся, як звычайна:

- Што ж вам трэба?

- Пазычце мне тры рублі. Трэба даць тэлеграму матцы, каб яна прыслала мне дапамогу.

Мы запрасілі яе зайсці ў кватэру, пакармілі яе і дзетак, далі ёй ношанай, але добрай і прыстойнай вопраткі для яе самой і для дзяцей і вось пра што мы даведаліся, размаўляючы ў той жа час з ёю.

Яна нарадзілася і жыла ў вёсцы. Выйшла замуж. Муж яе адыходзіў на заробткі, пасля прыязджаў зноў дадому. І вось у апошні свой прыезд заявіў:

- Я завербаваўся на добрыя работы ў Сібір. Паедзем усе разам. Там будзе кватэра на ўсю нашу сям'ю.

- Я пачала збірацца з усёй сваёй маёмасцю. Маці радзіла: не кратайся з месца. Няхай едзе, усталюецца, напіша, з'ездзіш паглядзіш, а пасля таго - забірай дзяцей і ўсе рэчы. Я яе не паслухала, бо, так мне думалася, будуць лішнія выдаткі на дарогу. Адным словам, спакавала ўсё, да апошняй дзіцячай пялюшачкі, і прыехалі параходам да Ўфы. Тут нам, паводле ягоных слоў, трэба было пераязджаць на вакзал і далей ехаць чыгункай. Пасадзіўшы нас на прыстані чакаць, ён забраў усе рэчы: свае, мае і дзіцячыя, а затым пагрузіўся на цягнік і паехаў адзін. Пра гэта я даведалася дакладна…

Мы запыталіся, дзе яна жыве, як харчуецца. Жанчына адказала, што жыве ў дзіцячым пакоі на прыстані, што ў яе няма грошай толькі на тэлеграму. Мы далі ёй грошай крыху больш, чым яна прасіла.

Праз два дні чуем зноў званок, зноў яна са сваімі малымі. Атрымала ад маткі грошы і прыйшла аддаваць нам доўг. Зразумела, мы ад яе грошы не ўзялі. А цяпер скажыце: а каб ёй ні мы, ні іншыя людзі не паверылі? Каб ніхто не пазычыў грошай? Што ж ёй рабіць тады? У той жа час, калі б такі нягоднік, як яе муж, прыйшоў бы пазычаць грошы на які «няшчасны выпадак»? Цяжка распазнаць праўду, але прыходзіцца верыць людзям…

На тым мы і развіталіся…

## Як рыбу лавілі... ломам...

Мяне асабліва здзівіла, калі я трапіў на Далёкі Ўсход, што ва ўсіх вадаёмах, вялікіх і малых, была рыба. Ідзеш тайгою - каля сопкі нейкая калюжына, метраў дзесятак удоўжкі, метраў пяць-шэсць упоперак. Зірнеш - аж вада кіпіць ад рыбы. Можна рукамі лавіць, а якой посцілкай - колькі згодна. Мясцовыя людзі, тубыльцы, нам растлумачылі, што ікру па такіх калюжынах або азярынках разносяць, насяюць качкі. Плаваюць качкі па рацэ. Да іхняга пер'я прыстае ікра. Пералятаюць на якую лясную азярынку, пачынаюць плаваць там - ікрынкі адмываюцца вадой, насяюцца. Вось табе і рыба ў такіх вадаёмах, дзе няма ні вытокі, ні прытокі...

Неяк у 1939 годзе далі нам тэрміновае заданне: закласці ў Новым Бірабіджане штук дванаццаць фундаіментаў пад васьмікватэрныя дамы. Чаму тэрмінова - набліжалася зіма. Да маразоў трэба было забетанаваць усё. А на гатовым фундаменце дом можна ставіць і ў маразы.

Каля нашай пляцоўкі была якраз невялічкая азярынка. Мы да яе і блізка не падыходзілі: не было часу і патрэбы. Але вось адзін наш сталяр, вельмі цікаўны, прайшоў да азярынкі. І што ён там заўважыў - поўна рыбы! Прыбягае ён да нас і спавяшчае аб гэтым. Пайшлі, зірнулі - праўда! Але часу не было рыбу браць. Узяліся працаваць. А пра тую азярынку не забыліся. Калі зімой нам давялося канчаць новы дом, пастаўлены на нашым фундаменце, той самы зух, які першы згледзеў рыбу, узяў лом і выбіў з азярынкі вялікую крыгу лёду. Рахаваў ён так, што амаль уся вада зледзянее, а рыба застанецца на самым дне. Так і сталася. Пад вывapaчанай крыгай рыба ляжала проста радамі. З аднаго-двух квадратных метраў набралі паўнюткае вядро. Рыбу згатавалі ў вёдрах, са смакам з'елі і юшку. Так, адбіваючы штодня па метру-два лёду, за паўзімы наша брыгада з'ела рыбу з усяе азярынкі. А азярынку ўсё роўна трэба было засыпаць, каб падрыхтаваць добрую пляцоўку пры новых дамах...

## Дзівосная яліна

Вялі мы тэлеграфную лінію паўз раку Яўрын, прыток Бурэі. Займалі вялікі адрэзак, у адпаведныя пункты яго і хадзілі раніцой па трое-чацвёра, у залежнасці ад таго, якія менавіта слупы трэба было рыхтаваць і стаўляць: анкерныя, супрацьвятровыя, кутнія. У нашым звяне было якраз чацвёра: два цесляры, два спецыялісты-манцёры. Праўда, на самую пастаноўку збіралася па тры-чатыры звяны. Але справа не ў гэтым. Работа нам падабалася

тым, што, ідучы да свайго пункта, а ўвечары да жытла, мы былі сам-насам з прыродай, любаваліся цудоўнымі краявідамі, скаламі, сопкамі, нават асобнымі дрэвамі, такімі непадобнымі адно да аднаго. Ля нашае сцежкі стаяла, крыху наводшыбе ад самай тайгі, на невялічкай паляне, адна вялізарная яліна. Не менш чымсьці метраў паўсотні было ў ёй вышыні, а сукі яе ніжнія займалі круг, мабыць, блізу таго. Адным словам, не дрэва, а званіца. Неяк мы заспрачаліся: якой таўшчыні можа быць ствол у гэтага дрэва, бо мы яго не бачылі, ён быў закрыты ад нас абвіслымі сукамі, прычым канцы самага першага яруса засыпаны снегам зусім. Стваралася ўражанне, што гэта нейкі цудоўны снегавы шацёр.

- А чаго доўга думаць? - сказаў адзін з нашых таварышаў. - Зойдзем пад гэты шацёр і змерым таўшчыню. Такога дрэва мы, пэўна, у жыцці не пабачым...

З гэтымі словамі ён падышоў да магутнай яліны, узяўся дзвюма рукамі за сук і вырваў яго са снегу.

Мы спачатку не зразумелі, што тут сталася. Праз вялікую дзірку, якая ўтварылася ў гэтым снегавым доме, вырвалася, выбухнула нейкая шэрая хмара і прамчалася, нібыта маланка, у тайгу. А на гэтай хмары, закрычаўшы немым голасам, праляцеў і наш таварыш. Толькі метраў праз дваццаць ён зваліўся на снег. Пасля ўскочыў на ногі і выбег да нас, на палянку.

- Козы! Дзікія козы! А я трапіў якраз на казла. Ён і панёс мяне на сабе ладны кавалак. Мог зусім акалечыць.

Мы зайшлі ўсе ў той апусцелы казінец. Там быў сапраўдны хлеў. Толькі адна адтуліна мелася на супрацьлеглым баку, праз якую козы заходзілі нанач і выходзілі раніцой. Нават цёпла было, так яны нахукалі ўсім статкам. Відаць, не адзін год трымалі свой стан пад гэтай ялінай. Мы аж пашкадавалі, што праз нашу цікаўнасць бедныя козы змушаны начаваць немаведама дзе. Памералі і ствол. У ім было паўтара метра ў дыяметры. Выйшлі мы, зноў паставілі на месца вырваную галіну-лапку, нават прысыпалі снегам з парушанага боку. Але ці прыходзілі козы начаваць зноў - не ведаем, бо самі мы перасунуліся па трасе кіламетраў за трыццаць - сорак ад гэтага месца...

## Патэльня з юшкі

Паехалі мы неяк у камандзіроўку з Бірабіджана ў тайгу, на адным важным аб'екце вадаправод рамантаваць. Нас - чацвёра. Папрацавалі мы там, зрабілі ўсё, што трэба, а начавалі ў прачкарні. І надумаліся мы бліноў напячы. Пайшлі, купілі мукі, алею, адным словам - дасталі ўсё, што для гэтай справы і стравы

патрабуецца. Развялі бліны, распалілі пліту. Бяры налівай на патэльню ды і падпякай іх там... А патэльні і няма. Пра патэльню мы і не паклапаціліся за добрым часам. Не пойдзеш ноччу да каго: «Пазычце нам патэльню, мы надумалі бліны пячы...»

Сталі адзін супраць аднаго і маўчым. Пасля нехта адзін з'едліва так звяртаецца да мяне ды на «вы», з фасонам:

- А можа, вы, Уладзімір Мікалаевіч, зробіце нам патэльню з чаго-небудзь і як-небудзь?

- Зраблю, - пдказваю я. - Праз дзве хвіліны патэльня ў вас будзе.

А ўжо я перад тым вачыма памацаў усе прылады, якія былі ў прачкарні, думаючы, прыкідваючы, ці нельга якую з іх прыстасаваць да гэтае справы. Нічога больш прыдатнага, чым верхняя юшка, я не знайшоў.

Адразу ж падышоў, узяў гэтую юшку, абцёр на ёй сажу, абмазаў з сярэдзіны алеем, прасмажыў яе на агні, а затым сказаў:

- Калі ласка! Патэльня гатова.

І што ж - напяклі бліноў, наеліся да сыці, а таму зласліўцу прыйшлося нават падзякаваць мне за вынаходлівасць...

## Як Марк Твэн памог цокаль фарбаваць

Нашыя брыгады рамантавалі жылыя дамы ў Бірабіджане. Жыхары з аднаго дома, які займалі мы, пераходзілі часова ў суседні, сяліліся па дзве сям'і ў адну кватэру. Наша работа ішла хутка, надвор'е спрыяла. Я працаваў тады маляром. Работу выконваў акуратаіа і чыста. З гэтае прычыны майстар ставіў мяне, галоўным чынам, на афарбоўку вокан і дзвярэй.

Рамантавалі васьмікватэрны дом. Я са сваім заданнем справіўся за гадзіну да канца рабочага дня і адразу пайшоў адмываць пэндзлі, прыбірацца. Заўважыўшы гэта, да мяне падышоў майстар і папрасіў:

- Браток, не прыбірайся! Ёсць яшчэ адна маленькая работа, хвілін на пятнаццаць...

А мы ўсе ведалі, што такое пятнаццаць хвілін. Бывала, што і на тры дні іх хапала. Асцярожна пытаюся:

- Якая такая работа?

- Цокаль дома трэба прайсці хоць адзін раз. У нас ёсць у кадушцы і колер гатовы - умбра паленая... Пойдзем, глянем на гэты цокаль.

Пайшлі. Глядзі не глядзі, а самае малое паўсотні квадратных метраў...

- Эх, Іван Сямёнавіч, - кажу я майстру, - якія ж твае вочы!

Пятнаццаць хвілін... Ды тут на добры дзень работы, толькі ўправіцца...

- Слухай, браце! Заўтра прыйдзе камісія, а работа недакончана... Зрабі як-небудзь...

Сам адразу пайшоў, каб не слухаць майго аднеквання.

Што паробіш? Трэба пачынаць!.. Узяў я вядзерца фарбы, пэндзаль, выйшаў да цокаля, стаў і пазіраю на яго крывым вокам. Раптам чую за спіной нясмелы галасок:

- Дзядзечка! Вы што будзеце фарбаваць?

Я павярнуўся, аж каля мяне стаяць чалавек дванаццаць хлапчукоў-школьнікаў рознага ўзросту. Аж вочы ў іх гараць:

- Дзядзечка! Дайце хоць крышачку пафарбаваць...

І тут я раптоўна згадаў Марка Твэіна і ягонага Тома Сойера, як ён цётчын плот фарбаваў. Няхай мне даруе лёс мой учынак, але я адразу надумаў выкарыстаць энергію гэтых юных энтузіястаў на карысць агульнае справы. Пачаў я з адмоўнага адказу, каб больш заахвоціць іх.

- Дазволіць фарбаваць вам можна было б, але ж вы папсуеце работу...

- Ды не, дзядзечка! Мы зробім усё добра і акуратна.

- А ў якіх кватэрах вы жывяце?

Яны сказалі, дзе кватэра кожнага.

- Тады вось што. Кожны з вас будзе фарбаваць супраць сваёй кватары. Больш - нельга.

Але тут выявілася, што чацвёра - у гэтым доме не жылі, і юная брыгада ў адзін голас заявіла ім, што фарбаваць яны не будуць. Трэба было б самім зірнуць, які смутак агарнуў гэтых хлопчыкаў! Я прыйшоў ім на дапамогу.

- Пачакайце, пачакайце! - сказаў я. - Яны прыходзяць да вас у госці? Прыходзяць! Дык мы паставім іх фарбаваць ганкі. Яны ж праз ганкі ходзяць да вас!

На гэтым была дасягнута поўная згода. Я папрыносіў усім кацялкі з фарбай, раздаў пэндзлі, расказаў і паказаў, як трэба набіраць фарбу, як растушоўваць, і работа пайшла.

Мне прыйшлося толькі хадзіць каля іх, падпраўляць пропускі, пацёкі і мірыць, калі між імі ўзнімаліся тэрытарыяльныя спрэчкі. Праз якіх хвілін сорак уся работа была скончана, лепш і не зробіш. Я пазаносіў у кладоўку посуд, пэндзлі, памог хлопцам паадмываць працавітыя рукі ад фарбы шкіпінарам, падзякаваў і пайшоў прыбірацца сам.

Зноў прыходзіць майстар.

- Слухай, браток! Я ж цябе прасіў на прамілы бог фарбаваць цокаль, а ты не хочаш паслухаць...

- Ды колькі ў цябе тых цокаляў, Іван Сямёнавіч! Адзін я

пафарбаваў. Пойдзем, пакажу.

Выйшлі мы з памяшкання, абышлі вакол дом. Мой майстар літаральна аслупянеў.

- Нячысты дух табе які памагаў, ці што? Не магу зразумець, - вымавіў урэшце ён.

Я не мог больш ніяк устрымацца, засмяяўся і сказаў:

- Памаглі мне гэтыя слаўныя, працавітыя хлопчыкі. Вось ты ім і падзякуй за такую нечаканую, тэрміновую і выдатную дапамогу.

Так мой майстар і зрабіў. Пасля неаднойчы ён згадваў пра гэтую маленькую падзею і дужа доўга смяяўся, калі я расказаў яму пра Тома Сойера і самога Марка Твэна. Вось і скажы, што добрая кніга не памагае нам у жыцці!

## Цягніковая насценная газета

А было гэта ў жніўні месяцы 1947 года. Пражыўшы багата часу на Далёкім Усходзе, ехаў я ў Маскву. Крыху адвык ад вялікіх гарадоў, людскіх патокаў, нават ад цягніковага стукату і лязгання. Добра яшчэ, што ў маім вагоне ехала фактычна адна кампанія: брыгада з нейкага завода з горада Камсамольска. Ехалі яны прымаць для саўгаса пры сваім заводзе статак кароў у горадзе Ачынску. У іх былі больш-менш аднолькавыя інтарэсы, размовы вяліся таксама нейкія хатнія. Часам гулялі яны ў карты, у даміно, у шашкі. А галоўнымі ў іх былі два чалавекі: цэхавы парторг і цэхавы праформ. Гэтыя таксама час ад часу гулялі ў шахматы. І вось аднойчы, праехаўшы ўжо Аблучча, заходзіць у наш вагон начальнік цягніка. Прайшоў ён праз вагон адзін раз, уважна азіраючы ўсіх і ўсё. Пачакаўшы, ідзе праз вагон другі раз, так жа ўважна аглядаючы і людзей і рэчы. Пасля спыняецца каля праформа заводскай брыгады і просіць яго:

- Даруйце! Дужа прашу вас, каб вы зайшлі да мяне ў службовы, нумар дзевяць, вагон. Маю да вас просьбу.

Пасля таго падыходзіць да мяне і просіць літаральна аб тым жа. Праўду кажучы, мяне гэтая просьба здзівіла, бо ніякіх спраў з адміністрацыяй цягніка ў мяне не было і быць не магло. На ўсялякі выпадак я запытаўся ў праформа:

- А што яму трэба? Чаго ён нас выклікае? Можа, вы якія справы з ім мелі?

- Ніякіх спраў з ім не меў. Дагуляю партыю, сходзім і даведаемся...

Праз некалькі хвілін мы пайшлі ў той дзевяты вагон. Адшукалі таго начальніка. Ён замітусіўся крыху, выяўляючы ветлівасць і

гасціннасць. Запрасіў нас сесці.

Без далёкага адкладу пачынае размову з намі.

- Дарагія таварышы! Праз два дні Ўсесаюзнае свята, Дзень чыгуначніка. Нам трэба абавязкова выпусціць цягніковую насценную газету. А вы ведаеце, якія мы пісьменнікі, якія мы мастакі. Тое-сёе панапісвалі, дзе што нават намалявалі, але з нашай пісанінай у звычайны дзень можна выткнуцца, а ў такое свята і думаць няма чаго. Вось мы і просім вас, каб вы нам дапамаглі...

Я на ўсякі выпадак запытаўся:

- Ці добра ж так будзе? Газета цягніковая, а мы будзем удзельнічаць у яе стварэнні?

Але начальнік не разгубіўся:

- У гэты момант вы паўнамоцныя члены нашага калектыву. Вы такія ж самыя стваральнікі газеты, як і мы...

Я тады задаю яшчэ пытанне:

- А чаму вы звярнуліся менавіта да нас? У цягніку ж поўна людзей, пэўна, не менш тысячы?

- Блізу таго, - адказвае начальнік. - Я прайшоў увесь цягнік ад галавы да хваста, ды не аднойчы, а двойчы. Каторыя пасажыры ядуць, каторыя ў карты гуляюць, каторыя не цікавяцца падобнымі справамі ў сваёй арганізацыі, а не тое, каб на цягніку...

- Гэта так! - сказаў я і запытаўся ў праформа, што ён можа рабіць.

- Я добра малюю, - адказаў той.

- У такім разе я паспрабую што-небудзь напісаць, - кажу я.

Адным словам, забралі мы ў начальніка паперу, нататкі, фарбы і пайшлі ў свой вагон, каб пачаць ствараць газету.

Мой напарнік сапраўды маляваў цудоўна. Карыстаючыся вольным часам, чаго ён не мог бы ніколі мець дома, ён даў такія малюнкі, не кажучы пра загалоўкі, што іх бы не сорамна было даць у любы друкаваны часопіс.

Пастараўся і я. Аформіўшы і адрэдагаваўшы празаічны матэрыял, багата нататак я перадаў вершаванымі радкамі: па два, самае вялікае - па чатыры радкі.

Першыя чытачы і крытыкі былі рабочыя таго камсамольскага завода. Яны аднагалосна ўхвалілі нашу работу і павіншавалі нас з такім вынікам. Паклікалі начальніка. Ён, як кажуць у такіх выпадках, аслупянеў: некалькі хвілін моўчкі разглядаў газету, пасля чаго запытаўся:

- Гэта для нас? Няўжо такі праўда, што гэта для нас?

- Якія могуць быць жарты! Вось жа і партрэты вашых работнікаў!..

- Ну, усё! Гэта газета паедзе ў Маскву!

- Хіба для яе месца не хопіць у Іркуцку?

- Ды не ў тым справа... Яе возьмуць на Ўсесаюзную выстаўку насценных газет...

- Як сабе хочаце, мы сваю справу зрабілі.

На бліжэйшай станцыі начальнік цягніка вывесіў газету на знадворны бок свайго вагона і, пакуль мянялі лакаматыў, пасажыры і цягніковая абслуга чыталі і разглядалі яе, даючы добрыя водгукі. Гэта ўсё натхніла начальніка на такую прапазіцыю:

- Пераходзьце да мяне ў дзевяты вагон! Я вам даю на двух мяккае купэ.

Во ганарар зарабілі! Ледзьве-ледзьве мы ўтлумачылі, што для нас ганарар - добрыя водгукі, што знаходжанне ў сваім калектыве, - а тыя брыгаднікі пачалі лічыць і нас членамі свае брыгады, - і ёсць узнагарода.

Развіталіся мы з ім вельмі добра ў Іркуцку... Там у мяне была перасадка на новы цягнік.

## Галка з гадзіннікам

У 1947-1949 гадах жыў я ў Мінгрэліі, на Каўказе. У нашым паселішчы жыла адна сям'я. Бацька працаваў агратэхнікам на чайных плантацыях, маці - настаўніцай у сярэдняй школе. Было ў іх двое дзяцей, хлопчык і дзяўчынка. Вучыліся яны ў ў той жа школе, дзе працавала маці. Дзеці гэтыя былі добрыя, сардэчныя. Праўду кажучы, дрэнных дзяцей мы там і не сустракалі наогул. Але гэтыя - былі лепшыя з лепшых. Неяк аднойчы знайшлі яны маленькую галачку, якая вывалілася з гнязда. Пашкадавалі яны, каб гэтую галачку сабакі ці каты не з'елі. Узялі ды аднеслі ў сваю кватэру. Там брат і сястра даглядалі галачку, кармілі яе, размаўлялі з ёй штодня... Галачка падрасла, стала спраўнай птушачкай. Пачала лётаць. Адлятаючы на платаны да сваіх родзічаў, яна зноў вярталася да дзяцей. Калі дзеці ішлі ў школу, галачка «ехала» на плячы ў хлопчыка або ў дзяўчынкі. На вялікай перамене школьнікі прабавалі карміць яе, але яна брала ежу толькі ад сваіх гаспадароў. Калі сама яна наядалася, тады брала ежу ў дзюбку і адносіла другім галкам, якія сядзелі на бліжніх дрэвах і ўважна сачылі за ўсімі падзеямі на школьным дварышчы.

Разам са сваімі юнымі сябрамі галачка ад школы вярталася на кватэру.

У суседнім доме жыла сям'я рабочых чайнага саўгаса. Прыехалі яны на заробак з Варонежчыны. У гэтай сям'і было таксама двое дзяцей, але дарослых: хлопец і дзяўчына. Усе яіны працавалі на чайных плантацыях, толькі хлопец крыху гультаяваты быў. Сястра зарабляла добра і, між іншым, купіла сабе

залаты гадзіннік. Яна насіла яго на руцэ толькі ў святочныя дні. Вось і ў той дзень, у нядзелю, яна дастала з куфэрка свой каштоўны гадзіннік, паклала яго на тумбачку, а сама пайшла на панадворак мыцца. Памыўшыся, прыходзіць у пакой, зірнула - гадзінніка няма. Ніхто з вуліцы ў пакой не ўваходзіў. У пакоі быў адзін брат, які спаў на сваім ложку.

Сястра раскатурхала яго і запатрабавала, каб ён аддаў ёй гадзіннік. Той адказвае, што ён ніякага гадзінніка і ў сне не бачыў.

Прыйшлі ў хату бацькі, узяліся сароміць хлопца. Адным словам, пачаўся вялікі скандал.

Тым часам на вуліцы пад платанамі гулялі дзеці. Раптам яны заўважылі, што на адным платане сядзіць галачка і трымае ў дзюбіку гадзіннік. Гэта іх, зразумела, зацікавіла і яны пачалі выгукваць:

- Галка з гадзіннікам!

- Галка з гадзіннікам!

Пачулі пра тое ў хаце, дзе ішла вялікая сварка. Выбеглі ўсёй сям'ёй на вуліцу. Бачаць - сапраўды галка трымае дзяўчынін гадзіннік.

- Трэба хутчэй паклікаць галчыных гаспадароў!

Як толькі тыя прыйшлі, галачка адразу зляцела з дрэва на дзяўчынчына плячо, а дзяўчынка і забрала ад яе гадзіннік…

А як галачка ўзяла чужы гадзіннік? Вельмі проста: яна пабачыла адчыненую фортачку. Пырхнула ў хату - а там на тумбачцы нешта бліскучае, прыгожае. Яна - за браслецік ды на дрэва.

## Пра спадчыну далёкіх продкаў

Працуючы, робячы што-небудзь, мы, бывае, забываемся на самыя старадаўнія спосабы паляпшэння працы, вынайдзеныя яшчэ калі-калі нашымі продкамі. Асабліва гэта адчуваецца там, дзе няма магутнай тэхнікі, а работы - нечапанае мора. Але знаходзяцца людзі, памяць якіх трымае ў сваёй глыбіні такія спосабы і, у выпадку патрэбы, выклікае іх на сонечны дзень. Сустракаў я за сваё жыццё нямала гэткіх здольных, мудрых людзей. Работу, на якую большасць траціла багата энергіі, выяўлялася, можна зрабіць пры зусім малой затраце сіл. Калі хто пачынае рабіць гэтую самую работу больш лёгкім спосабам, думаеш: «Ой! Праўда! А як жа, чаму ж гэта мы самі не здагадаліся?» У такіх выпадках трэба ў першую чаргу запытацца ў сваёй памяці, у свайго розуму: «Як лягчэй, хутчэй і лепш зрабіць гэтую работу?» - і толькі пасля такога роздуму пачынаць яе.

Асабліва мне запомніўся, добрым словам не раз яго згадваў і

згадваю, адзін сталяр, уралец Сяргей Аляксандравіч Муратаў. Мне пашэнціла працаваць з ім не малы час, хоць я для яго быў напарнік несамавіты: ён - выдатны майстар-сталяр, а я - сталяр звычайны.

Вазьму пару самых простых прыкладаў з супольнай працы. Наша брыгада канчала новы дом. Хто насцілаў падлогу, хто столь, хто навешваў вокны і дзверы. Работа ішла добрым ладам, без жаднае затрымкі. У свой час прывезлі нам абед. Паабедалі. Прыходзіць прараб, звяртаецца да ўсіх.

- Браточкі! Маю вельмі тэрміновае, нечаканае заданне. Трэба перанесці лістоўнічнае бярвенне ад штабеля, дзе яно ляжыць, да вашага дома. Работа гэтая для возчыкаў з коньмі, але іх сёння няма і не будзе. Яны ўсе заняты далёка адсюль. За пераноску я заплачу ў падвойным размеры. Насіць іх можаце як хто здумае: хоць па два чалавекі, хоць па дзесяць адразу да аднаго бервяна ляпіцеся, абы толькі работа была зроблена.

Цесляры, сталяры, паабедаўшы, - адразу да штабеля, каб, скончыўшы гэтую нечарговую работу, перайсці да сваёй, асноўнай. Бярвенні такія, што адно бралі чатыры чалавекі. А то і шэсць, і восем. Пабачыўшы гэта, я кажу свайму сябру:

- Сяргей Аляксандравіч! Трэба нам далучыцца да якога звяна, бо мы ўдвух нічога не зробім. Бачыш, як носяць?

- Няхай носяць! Мы з табой самі справімся і не натомімся так, як яны.

Узяўшы вострую сякеру, мой сябар насек з розных дрыноў валікі-качалкі, сантыметраў па семдзесят - восемдзесят даўжынёй. Пасля і кажа:

- Вось на гэтых качалках бярвенне само і пойдзе. Ты толькі перанось іх, як будуць вызваляцца, з заду наперад.

Застраміўшы ў тарэц сякеру, ён крыху падняў ад зямлі бервяно, а я падкінуў валік. Пасля - другі, трэці... Мой напарнік, крыху прыгнуўшыся, застромленай сякерай вёў бервяно, даваў яму кірунак, а я падкладваў ды падкладваў валікі, памагаў сваёй сякерай, застраміўшы яе з камля... Мы ўдвух у сярэднім зрабілі ўдвая больш, чым нашы таварышы. Яны ўсе бачылі, як лёгка перавозім мы бярвенне, але нейкае самалюбства не дазволіла ім скарыстаць наш спосаб. Ды і нацягаліся ўжо даволі, натрудзілі плечы, рукі...

Багата ў нашай супольнай з ім працы было падобных выпадкаў, але не менш цікава і тое, як мы з ім пачыналі сваю штодзённую работу.

Першыя дні я крыху непакоіўся. Прыходзім мы на сваю рабочую пляцоўку. Усе да аднаго становяцца адразу працаваць, а мы... мы пачынаем вастрыць усе інструменты: жалезкі ад

фуганкаў, фальцовак, стамескі.

- Сяргей Аляксандравіч! Пакіньма! Бачыш, колькі сябры зрабілі?

- Няхай робяць, няхай! Яны рукі свае панабіваюць. Ды і якасць іхняе работы будзе несамавітая. А мы з табой іх здагонім і абгонім.

Так і было. Наш інструмент толькі спяваў, калі мы пускалі яго ў поўны ход. Да абеду мы сапраўды абганялі сваіх суседзяў... А яны гневаліся.

- Што з імі раўняцца?! У іх жалезкі лепшыя!

А жалезкі тыя - з аднае фабрыкі...

У сваёй далейшай працы часам падсвядома выкарыстоўваў я падобныя парады, назіранні і не толькі ў сталярнай справе, а і ў розных іншых, як, напрыклад, у мулярскай...

## Асінавыя дровы...

А яшчэ вось як народная дасціпнасць дапамагла нам пазбавіцца дужа непрыемнай аперацыі: у нядаўна адрамантаванай кватэры зімою здымаць жалезную трубу, якая злучала нашу галандачку з комінам у суседняй кватэры. Справа ў тым, што трубу запоўніла сажа, нават дым не праходзіў.

Суседка, Кацярына Пятроўна, пачуўшы тое, кажа:

- Не слухайце муляроў, не трэба нічога разбіраць ды ў кватэры бруд разводзіць. Вазьміце бярэмца сухіх асінавых дроў ды прапаліце імі ў печы.

Спачатку мы з жонкай падумалі, што наша суседка жартуе, бо яна была кабета вясёлая, жыццярадая. Я, на ўсякі выпадак, запытаўся ў яе:

- А ці не падобна ваша парада, Кацярына Пятроўна, да той, якую мне, маламу, давалі, калі я меўся зайцоў лавіць: вазьмі, маўляў, драбочак солі і ўскінь зайцу на хвост, заяц адразу і сядзе...

- Ды што вы, - кажа, - якія жарты! Пойдзем, я памагу вам і бервяно асінавае распілаваць.

Падрыхтавалі мы ўсё. Прынёс я бярэмца дроў. Распалілі. І што б вы думалі: як пачало гудзець, як пачало палаць, дык мы і не дазналіся, куды тая сажа знікла, так добра прачысціла трубу. У далейшым, дзе б мы ні жылі, рыхтуючы паліва для зімы, я заўсёды клаў асобна маленькую кладнічку сухіх асінавых дроў і прапальваў імі печ не менш аднаго разу на месяц, не чакаючы таго, пакуль сажа запоўніць увесь комін...

## Ветрык

Стаў я на тралёўку. Трэба было траляваць - вывозіць на конях - бярвенне з тайгі, з сопак і падвозіць яго да вялізнага тартака, дзе гэтае бярвенне паступова распілоўвалася на дошкі, цёс, брусы, на чыгуначныя шпалы.

Раніцой мне стары дзядуля, сібірак, загадчык коннага двара, кажа:

- Табе конь прызначаны. Зваць яго Ветрык. Толькі быў ён у дзікунскіх руках - дужа заняпаў.

Падышоў я да Ветрыка, зірнуў - конь цёмна-шэры, у яблыках, але, відаць, біты-перабіты, худы-худы. Па ўсёй скуры, на баках, - рубцы, пісягі, дакрануцца нельга. Ён, відаць, так спаняверыўся ва ўсіх людзях, што, як толькі да яго руку працягнеш - на сцяну лезе.

- Ой, дзядуля, дзядуля! - кажу я загадчыку. - Ну што ж мне рабіць з такім канём? Я ж нічога не зараблю на ім. Хоць бы яму катэгорыю на месяц-два зменшылі…

- Не згаджаецца ветэрынар. Кажа, што ўнутры ён зусім здаровы…

Ну і ўсё. Гутарка скончана. Падыходжу браць каня - з рук вырываецца, упіраецца, на калені становіцца, а ў вачах такая жуда, такі жах, што, здаецца, зараз гвалт закрычыць, пачне лямантаваць. Я яго пагладзіў, пацерабіў каля вушэй, кажу:

- Ветрык! Ветрык! Не бойся мяне, я цябе біць не буду. Пойдзем памаленьку.

Ледзь-ледзь выцягнуў са станні да саней. Запрагаю, накладаю збрую, а ён дрыжыць, як ад трасцы якой. Узяў я сена ахапак, паклаў на калодку. Думаю, пакуль буду грузіць, ён хоць сена з'есць. Паехаў.

Таварышы даўно ў тайзе, а я толькі еду.

Прыехаў на самую бліжнюю дзялянку. Ветрыку сена ахапачак на пень, а сам давай бярвенне да саней на сабе падцягваць. Увязаў ланцугом. Пагладзіў Ветрыка, пагаварыў з ім. Адно ўгінаецца ад мяне, дрыжыць. Паехалі. На разгрузцы зноў - яму сена пад самы нос. Пакуль запісалі, скацілі - ён сена ўсё і даеў.

Так мы з ім і пачалі працаваць, з Ветрыкам. Праходзяць два тыдні. Ён ужо зусім перастаў мяне баяцца. Нават іржаць пачаў, калі я да яго раніцай прыходзіў. Авёс свой пачаў з'ядаць увесь. Сена еў, колькі хацеў, бо я без сена ні разу ў тайгу з ім не е'здзіў. І пачаў мой Ветрык станавіцца сапраўдным Ветрам. Павазіў я на ім малыя вазы - стаў вазіць большыя. Заработкі мае павялічыліся. Раны-пісягі на ягоных баках зніклі. Хоць пры абозе былі адмысловыя людзі, якія павінны былі чысціць коней, але і сам я,

узяўшы шчотку, разоў колькі чысціў яго. Ён адно галаву з боку на бок паварочваў, на сцяну больш не скакаў. Дзіва што! За колькі часу я яго літаральна пальцам не пастрашыў. Едзем, бывае - спыніцца з возам, я пагладжу яго, пачакаю, дам перадыхнуць. Глядзіш - пайшоў далей, як лепш і не трэба.

І прайшлі так аж чатыры месяцы. Дваццаць чалавек хадзіла за мной следам:

- Дай мне, дай мне Ветрыка. Ты ўжо наездзіўся з ім...

Я толькі пасміхаўся ў адказ.

Бывала, едзем у тайгу, дык ён сам, без майго панукання, вылятае на абочыну, віхрам абганяе легцавыя сані ды зноў на дарогу і пайшоў...

А які ж ён ласкавы стаў! Падыду блізка - галаву паверне ды губамі мяне за вуха зловіць або пачне лёгенька іржаць. Вось як ён да мяне звык, як уразумеў, што я сябар яму, а не звер люты, не вораг які.

Парашылі вызваліць Ветрыка ад цяжкой работы, каб зноў ён цешыў людскія вочы, каб іншыя пабачылі, як можна аднавіць хараство ласкай, сардэчнасцю.

## Сустрэча з кабаргою

Прыехаў я неяк на сваім Ветрыку ў тайгу. Узняліся на сопку. Усе бярвенні ляжалі зручна, ні варочаць, іні падцягваць не трэба. Я падвярнуў іх на пакатках - яны і леглі на калодку саней. Пачаў я іх увязваць ланцугом. Гэта была вельмі адказная частка работы: трэба так сплытніць воз, так моцна звязаць яго, каб ён не рассыпаўся на самых крутых паваротах, на самых нечаканых перашкодах, нават перакуліўшыся на якой валежыне. Стаўшы на калена, я рукой даставаў канец ланцужка, аж чую, мой конь, Ветрык, нешта пахропвае, нібыта што незвычайнае пабачыў і хоча звярнуць на гэта незвычайнае маю ўвагу. Падымаю галаву з-за бярвення, гляджу: праўда, нязвыклае відовішча! На фоне абсыпаных снегам цёмна-зялёных дрэваў стаіць на пні вялізным кабарга, злёгку як бы прытанцоўвае на гэтым пні, як бы нас на гульню якую ці на танец запрашае. Ніколі я жывое кабаргі так блізка не бачыў. Затое тады ўдосталь налюбаваўся на яе, разгледзеў усё ўбранне, вочы, беленькі гальштук на шыі, больш дакладна кажучы - на падгруддзі. Я пачаў з ёй размаўляць:

- Ах ты, мая прыгожая, ах ты, мая харошая, ідзі бліжэй, - ды з працягненай рукой стаў да яе падыходзіць. Яна - гоц! І знікла. Ну, зразумела, нам з Ветрыкам няма часу бавіцца. Я зноў пад воз, зноў за ланцуг, замацаваў як мае быць. Устаю на ногі - стаіць зноў

красуня! Ды сонца пасвяціла ў наш куток, яе цёмна-карычневая поўсць зазіхацела, як нейкае старадаўняе золата... Так мы і пакінулі яе на пяньку. Памахаў я ёй рукой.

- Бывай, бывай, таежная красуня! Каб лёс сцярог цябе ад злых людзей!

Нідзе не бачыў я такую ненапалоханую кабаргу.

## Неспадзяваны феерверк

Прыехаў я ў тайгу па бярвенне. Нічога падрыхтаванага пры дарозе, зразумела, не было. Трэба спушчаць з сопкі бярвенне самому. Зірнуўшы ў вышыню, я пабачыў добрыя, кубатурныя саракоўкі, - бярвенне да сарака сантыметраў у дыяметры. Адагнаўшы каня далей, кінуўшы яму сена, я палез угору. А трэба сказаць, што лесавозная дарога каля сопкі ішла літарай «г». У самым кутку быў распалены агонь. Каля яго грэліся людзі. Узняўшыся па адхоне да бярвенняў, я накіраваў іхнія канцы на дарогу, а пасля падумаў: «А што, калі яны пойдуць адразу, без затрымкі? Яны ж могуць пабіць або пакалечыць людзей!»

Вось я і пачаў крычаць усім, хто быў унізе, каб адышліся ўбок.

Марудна, пацягваючыся, не хочучы ад цеплыні ісці ў холад, людзі ўсё ж крыху паадыходзілі. Адзін, ужо стоячы на нагах, усё нейкім вожыгам распальваў сваю цыгарку. А мне нельга марудзіць. Закрануў я рычагом адно бервяно, закрануў другое, і - толькі іх і бачыў. Над дарогаю ўзняўся феерверк агнёвы, у паветры іскры, галаўні з агнём, попел, вуголле, чугны страшэнныя выбухі, як ад снарадаў, гэта - бервяно аб бервяно так грукочуць... Адным словам - жуда. Сеў я адразу на пень, ногі мае падкасіліся.

«Забіў, - думаю, - дурня, які з ражном стаяў...»

Але ж што было: каля самага вуха ў чалавека прасвісталі бярвенні, а яго не закранулі, толькі попелам ды вуголлем абкідала. Нічога не пабілі і не паламалі. Дзякуюць мне навальшчыкі, што я іх ад агню паадганяў заўчасна. А я слухаю і думаю: «Як добра, што лёс злітаваўся і пазбавіў мяне такога няшчасця». Бо не было б мне спакою ўсё жыццё.

## Пільная варта

Дзве невялікія таежныя рэчкі - Тара і Чайгашэт, - не даходзячы да ракі Бірусы, злучаліся ў адзін паток і тады ўжо ўліваліся ў вялікую раку. Паміж імі, перад такою злукай, ляжала

вялікая паляна, нібы востраў. Калісьці тут была тайга, але пасля па суседству з паселішчам лес высеклі, пакінуўшы толькі хмызняк ды валежыны. Пнёў засталося вялікае мноства. І вось на гэтым месцы, на гэтай паляне або востраве, - называйце як хочаце, - аблюбаваў я са сваёй жонкай месца для пабудовы жытла. Паколькі праз Тару моста не было, усе будаўнічыя матэрыялы павінны былі падвезці зімой, па саннай дарозе. Летам - трэба было пераносіць на сабе.

Праз гады два мы раскарчавалі, расчысцілі пляцы і іна той захламленай, дзікай пляцоўцы стаў дзівосны аазіс. Колькі старых валежын папалілі, колькі пнёў выкапалі! На адной нашай сядзібе мы з жонкаю выкарчавалі больш сотні пнёў. Ідучы на пакосы каля нашых сядзіб, старыя сібіракі спыняліся і толькі глядзелі, як на якую выстаўку.

Пачалі новыя жыхары жыць ды радавацца. Усё расце добра, паветра чыстае, вада ў разводдзе не даходзіць, падпамосце не залівае. Дык чаго ж яшчэ трэба? Нават машкі і той бадай няма тут, бо ветрык з усіх бакоў наша ўзвышша прадувае, а яна, машкара ўсялякая, чыстага ветру і баіцца. Але адна бяда: на ўсіх гародах у нашых навасёлаў так жа, як і ў асноўным, старым паселішчы, вялікая, незлічоная колькасць розных агародных шкоднікаў. У некаторых столькі вусеняў, што выходзяць сем'ямі, збіраюць рукамі, пасыпаюць гексахларанам ды ўсякай іншай атрутай. Пытаюцца суседзі:

- А як у вас?

Мы адказваем, што ў нас няма ніякіх чарвякоў. Суседзі гавораць:

- Вы, мабыць, нешта робіце. Навучыце нас.

Мы гаворым, што рабіць нічога не робім, нічым не пасыпаем, апрача толькі як попелам чыстым, калі земляных блох заўважаем... Не вераць нам ды ўсё. А быў на нашай сядзібе адзін кавалачак недакарчаваны. Не паспеў я прайсці яго, бо хварэў. Балела рука, ледзь выратаваў яе. Расла на гэтым кавалачку трава нейкая, накшталт свінаркі. Дужа паскудная трава. Нават сякера яе не брала. Прыходзілася заварочваць з карэннем і здзіраць, як аўчыну. Так і казалі людзі пра сваю работу: «Кажухі драў».

Раслі ў тым куточку дзве-тры ялінкі, пара кусточкаў бружмелю. Адным словам - тое-сёе. І стаяў тут невялікі мурашнік. Цяпер кожны школьнік маленькі ведае пра тое, якую надзвычайна вялікую карысць прыносяць мурашкі. А тады - я меў пра іх агульнае ўяўленне, такіх цудоўных твораў, як кнігі І.А.Халіфмана, у вочы не бачыў, а каб чытаць - дык зусім не. Жывуць мурашкі, бегаюць скрозь па нашым агародзе. Адзін раз нават жонка крыху занепакоілася, паклікала мяне:

- Ідзі, глянь, нешта дужа па гурках разбегаліся мурашкі.

Падышоў я, пастаяў з паўгадзіны - бегаюць, нешта шукаюць, але гуркоў тых зусім не кранаюць. А побач - капуста наша. Пры мне сеў матылёк-капуснік і паклаў, напэўна, блізу паўсотні яечак, калі не ўсю сотню. Такія, як макавыя зярняткі, толькі жоўтага колеру. Глядзім мы з жонкаю на гэту лісціну ды разважаем:

- Дзе ж ты пераможаш тых чарвей! Праз некалькі дзён з яечак з'явіцца сотня вусеняў. А гэты матылёк, пэўна, яшчэ не адзін паклад зробіць.

Пакуль мы так з ёй разважалі, на лісціну ўзбягаюць мурашкі, ды чарадой. Ну нібыта ім нехта тэлеграму адбіў: «Гайда сюды, яечкі падрыхтаваны!» Праходзяць мурашкі адна за адной і яечкі забіраюць, забіраюць. Не прайшло і пяці хвілін - ніводнага не засталося.

- Век жыві, век вучыся, - кажа жонка. - Ну адкуль жа ў нас могуць быць на агародзе чэрві, калі самыя яечкі мурашкі адразу забіраюць!

Мы яшчэ падумалі тады, што для мурашкі матыльковае яечка куды большае, прапарцыянальна росту, чым для нас курынае.

Так мы і жылі без клопату колькі гадоў, да самага свайго ад'езду, не ведаючы ніякага гексахларану, маючы такіх выдатных памочнікаў і вартаўнікоў на сваім гародзе.

Сказалі мы суседзям пра свае нагляданні, парадзілі і ім завесці мурашнікі на гародах.

## Мядзведзь

Набліжалася восень, набліжалася і пара капаць бульбу. Трэба было адрамантаваць для гэтага кошыкі, сплесці новыя. Узяўшы лодку, я перабраўся на другі бок ракі Бірусы, нарэзаў добрай лазы, аднёс у лодку. Пасля надумаў: «Дай прайдуся борам, можа, дзе знайду сенажатку някошаную, для коз сена накасіць». Падняўся на ўзвышша. Іду. А напярэдадні, ды нават за гадзіны дзве быў дождж. Тайгу ўсю прамыла, падмаладзіла, а на ўсіх пясчаністых дарожках пазамывала старыя сляды. Ідучы каля адной вывараці, бачу на пяску адбітак следу, нібыта ад лапця. Я, спачатку не звярнуўшы асаблівай увагі, крочу далей. Можа, праз гоні бачу зноў сляды, зноў лапці на пяску надрукаваны. Спыніўся я, пастаяў над гэтымі слядамі. Колькі жыву ў паселішчы, не бачыў ніводнага чалавека, абутага ў лапці. Адкуль жа яны маглі ўзяцца ў тайзе? Калі прайшоў далей, бачу новы доказ таго, што лапатнік гэты - мядзведзь. Я, значыцца, іду якраз па гарачых слядах. Ад аднаго следу аж пара... Пастаяў я, падумаў. Нават звычайнай стрэльбы ў мяне няма з сабой, адзін кухонны ножык, якім лазу

рэзаў. Змагацца, дужацца з мядзведзем у мяне сілы не хопіць. «Не, пайду я лепш да сваёй лодкі ды дадому паеду. - Павярнуў я з бору ў кірунку да ракі і іду ўзлессем. Калі глянуў на бор, аж на ўзвышшы, на лясной прагаліне, стаіць мядзведзь ды, не раўнуючы, як фельдмаршал які, правую лапу ўгору падняў, нібы на мяне паказвае. Я спыніўся. Што рабіць? Уцякаць - самая апошняя справа. Звер адразу за табой кінецца. - Пайду на яго. Напалохаецца ды пачне ўцякаць сам». Іду. Мядзведзь ні з месца. Прайшоў далей - мядзведзь хоць бы скрануўся. Падыходжу яшчэ бліжэй.

Мядзведзь стаіць, як скамянеў. Я тады, - куды ж мне дзецца, - як гойкнуў:

- А ну давай яго!

Мядзведзь хоць бы што. Калі я прыгледзеўся лепш - гэта гарэлы пень, такі, як мядзведзь. Каб не тыя свежыя сляды, я на яго ўвагі не звярнуў бы.

Каму, можа, смешна, а мне страху хапіла.

## За дурной галавой і нагам неспакой

Аднойчы ў дзень адпачынку надумаліся мы невялічкай кампаніяй, - чалавек дзесяць, - схадзіць у тайгу пазбіраць суніц. Пабралі мы посуд сярэдняй ёмістасці і пайшлі. А год быў ягадны. Усялякіх ягад багата-багата, толькі не лянуйся - збірай. Прайшлі мы тайгой, можа, кіламетр які, трымаемся, каб не заблудзіцца, берага ракі. А паўз бераг, нібыта нейкае сухадольнае рэчышча, так і цягнецца паляна за палянай. Прыйшлі мы на першую паляну. І вялікая яна, і прыгожая. Трава на ёй - някошаная, там яе мала дзе косяць. Ягад на гэтай паляне поўна. Мы, як тая казачная каза: «Бегла праз масточак, хапіла кляновы лісточак», - па жменьцы-другой ягад сабралі ды давай на другую паляну, там, праз невялічкі ўзлесачак, бачым - ягад яшчэ больш. Тым часам адзін з нашай кампаніі сказаў:

- Я далей не пайду, нешта ў мяне ногі баляць. Пазбіраю тут і тут жа буду вас чакаць.

А мы - далей. Прыйшлі на трэцюю паляну - зноў па жмені ці па дзве набралі, аж праз невялічкі ўзлесачак - яшчэ паляна. Ягад на ёй, як насыпана... Мы - туды... Вось так ішлі з паляны на паляну, вось так нас вабіла чарговая... Колькі мы іх прайшлі - не злічыць нават. Урэшце сонца павярнула на захад. Трэба нам назад таксама паварочваць. Зноў праходзім цераз тыя прыгожыя паляны, зноў «хапаем кляновыя лісточкі» - па жменьцы суніц. Цяпер больш хуткім крокам выходзім на тую самую першую

паляну, ад яе зусім блізенька і нашае жытло. Шукаем свайго сябра, якога пакінулі на гэтай паляне, а ён, вочы галінкай бярозавай накрыўшы, спіць сабе. Побач стаіць посуд яго - пад самую дужку поўны суніц. Глянулі мы на свае судзінкі, якія ледзь запоўнілі да палавінкі, глянулі на свае ногі, з якіх аж дым ідзе ад пераўтомы і ціхенька заўздыхалі: «За дурной галавой і нагам неспакой...»

Чыстая праўда!

**Дзед Мароз, не чапай гуркі!**

Усюды восень прыгожая і багатая, а ў Сібіры - асабліва. У передчаканні снежнае зімы, маразоў прырода спяшаецца даць людзям як мага больш асалоды, хараства і пладамі, і барвамі-колерамі. Сотні адценняў пазлацістых і чырвоных можна пабачыць на адным узлессі. А ў самой тайзе - грыбы, ягады. Аднымі брусніцамі несканчоныя прасторы пазайманыя. А рабіны, а журавіны!.. Побач іх гарацъ-зіхацяць, аж свецяцца сваім нейкім казачным святлом незлічоныя кветкі скрыпеню, кіпрэю, самай цікавай, самай дружнай таежнай зёлкі. Расце скрыпень вялікімі купінамі, цэлыя паляны займае. Асабліва любіць ён гарэлыя мясціны. Колькі пчолы мёду з яго набіраюць-наносяць! Але цікавы ён яшчэ сваёй самаахвярнасцю. Калі прыходзіць першы мароз, усе крайнія зёлкі нахіляюцца галоўкамі к сярэдзіне купіны і закрываюць сабой сябровак. Памерзнуць, загінуць крайнія, а сярэднія, як толькі сонейка ўзнімецца, пачынаюць красаваць так, нібыта і марозу ніякага не было. І так штодня: гінуць крайнія, застаюцца сярэднія. Бывае, што тыдні два цягнецца такое змаганне з марозам. Толькі калі снегам усё засыпле, тады гіне апошні скрыпень...

У сібіракоў ёсць прыкмета, што дзевятнаццатага жніўня абавязкова бывае першы мароз. Пасля зноў цёплыя дні, але ў гэтую ноч - пільнуйся.

...Напярэдадні, гэта значыцца, васемнаццатага жніўня пайшоў я ў калгасную краму купіць пакосту, дафарбаваць дзе што ў хаце. Ад нас тая крама была за кіламетраў шэсць. Крамнічыха займалася нейкімі хатнімі справамі. Пакупнікі чакалі колькі часу на вуліцы. Чакаў, трэба сказаць праўду, нецярпліва і я. «Гэта ж так час марнуецца!» - думалася мне. У звязку з гэтай некаторай нервовасцю я не адразу звярнуў увагу на тое, што мяне тузае за крысо пінжака маленькі хлопчык, тутэйшы жыхар. Тузае і ўсё нешта згадвае Дзеда Мароза ды гуркі. Урэшце я прыгнуўся да яго і запытаўся:

- Што ж табе, мілы хлопчык, трэба?

Хоць не адразу, але з ягоных слоў я даведаўся вось пра што. Ён, гэты самы юны грамадзянін, быў ласы да гуркоў. А бабуля яму сказала, што сёння прыйдзе вялікі Дзед Мароз і забярэ або памарозіць усе гуркі. Вось ён і пайшоў з хаты шукаць таго Дзеда Мароза, каб папрасіць яго не чапаць гуркі. Заўважыўшы ў натоўпе ля крамы вялікага дзеда з белай барадою, ён і накіраваўся да яго, гэта значыцца - да мяне, і пачаў прасіць, каб я абмінуў іхні гарод.

Што рабіць? Прыйшлося, каб супакоіць малога, узяць грэх на душу, выступіць самазванцам першы раз у жыцці.

- Сынок! Ідзі і скажы сваёй бабулі, што я вашых гуркоў чапаць не буду. Усе яны дастануцца на добры спажытак табе!

Той аж затанцаваў ад радасці.

- Праўда, дзядуля?

- Праўда, шчырая праўда!

Ён пабег да свае хаты, каб прынесці бабулі такую прыемную навіну.

Калі я расказаў дома пра нашу з ім гутарку, мая жонка пажартавала:

- Прыйдзецца табе ісці сёння накрываць гуркі ў таго хлопчыка, каб не страціць свой аўтарытэт перад ім.

Але, на шчасце, у гэтую ноч марозу не было і гуркі засталіся цэлыя без накрывання.

## І той бацька, і другі бацька

### 1

Ён, мой сусед, - каваль. Добры каваль. Асабліва выдатна ён каваў коні. Самыя наравістыя, самыя няўрымслівыя коні ў яго станавіліся рахманыя, супакойныя, пакорлівыя.

Паставіў ён сваю ўласную хату, раскарчаваўшы ўсёй сям'ёй вялізны кавалак тайгі. Але калі ён снедаў або вячэраў, уся сям'я павінна была толькі глядзець. Ніхто за стол тады не садзіўся. Самыя лепшыя стравы былі яму, кавалю. Абедаў ён у сталовай, дадому не хадзіў. Калі падрос большы сын, стаў каржакаваты, дужы хлопец, вучыўся ў восьмым класе, то пачаў памагаць бацьку, быў у яго за малатабойца. Хадзілі абедаць разам у сталоўку. Бацька сядзеў ля стала, абедаў, сын - ля сцяны на табурэтцы. Бывала, чаго-небудзь бацька не з'ядаў, адсоўваў на край і каратка даваў загад:

- Даеш!

Сын развінаў пакуначак, які яму давала ў кузню маці, і засёрбваў яго бацькавым недаедкам. Бацька ж каваль, а

сын - малатабоец…

Мы пацікавіліся, як склалася іхняе жыццё далей. Сын пасля арміі дадому не паехаў.

**2**

У цяжкія для нашай Айчыны гады, асабліва ў часе паміж 1918-1922 гадамі, было нялёгка большасці нашага народа. Пайкі хлебныя малыя, купіць на рынку бадай што не было чаго, а галоўнае - не на што. Але ўсё ж здаралася, што на які лахман наш бацька нешта выменьваў, прыносіў дадому кавалак хлеба звыш пайковага. Садзіўся ён ля стала, браў у рукі ножык і рэзаў скудны прыдабытак на ўсіх малых, не рэзаў толькі на сябе. Малыя гэта заўважалі і, прымаючы ад яго такі каштоўны дар, як лустачка хлеба, пыталіся:

- Чаму ж ты, тата, не адрэзаў для сябе?

- А вы не ведаеце? Я сваю долю адразу з'еў, калі здабыў, бо, не еўшы, хіба ж я меў бы сілы прынесці вам гэта ўсё дадому?

## Сцяпан Прохаравіч

Працаваў я ў Сібіры некалькі гадоў у сталярнай майстэрні з адным сібіраком, па паходжанню беларусам. Звалі яго Сцяпан Прохаравіч. Прозвішча ён меў- Мельнікаў. Было ў яго адзінаццаць дзяцей, і з іх толькі адзін сын. Ды дзяўчаты вясёлыя, прыгожыя, здольныя і да работы і да мастацтва: спяваць, танцаваць. Адна - добры акрабат нават была. А сам бацька які быў мастак: бондар, саннік, калёснік, рымар, паляўнічы, рыбак, шавец… І зверх усяго - музыка, скрыпач. Іграў ён на скрыпцы і сабе і людзям. Прасілі:

- Прыйдзі, Сцяпане, пайграй.

Хадзіў. А скрыпка - яшчэ бацькоўская, з Беларусі прывезеная…

І вось аднойчы трапілі мы ўдвух са Сцяпанам Прохаравічам у аварыю. Працавалі з ім пры невялічкай цыркулярнай піле ў сталярнай майстэрні. А пастаўлена піла была без афіцыйнага дазволу, на нашу ўласную адказнасць. І вось паадрываліся нашы прымітыўныя мацункі, парэзала піла нам рукі: мне правую, садраўшы мяса з вялікага пальца, а яму - левую, паадразаўшы па адной фаланзе на пальцах. Заматалі мы свае рукі тым-сім ды пайшлі да хірурга. А хірург, жанчына, - вельмі высокай кваліфікацыі. Але што найлепшы хірург зробіць, калі паадразаны кончыкі пальцаў і садраны пазногаць ды мяса да касці. Ледзь не

адняла мне палец зусім. Сястра медыцынская дапамагла: маладая, дужая, сцягнула мяса з бакоў, а дакторка і прыхапіла іголкай... Так палец і ацалеў.

Сцяпану Прохаравічу ж і таго няма: зрабіла перавязку, кроў спыніла і ўсё.

- Зарасце, працаваць будзеце. Што для сталяра фаланга або і паўфалангі на левай руцэ? А каб уся рука, лягчэй?

Так яго суцяшала. А ён толькі падтаквае:

- Так,так, вашая праўда.

А калі мы выйшлі з бальніцы, азірнуўся ён, нікога блізка няма - стаў і... заплакаў...

Я жыў бліжэй ад бальніцы, чымсьці ён. Падумаў, што так ад болю ён. Запрашаю:

- Дарагі браце Сцяпане! Пойдзем да мяне, паляжыш, адпачнеш, боль утаймуецца...

- Не, браток, гэты боль не ўтаймуецца навекі. Лепш бы мне пальцы на правай руцэ паабразала, чымсьці на левай...

Я адразу і не ўцяміў, кажу:

- Ды што ты, Сцяпане! Правая ж рука нам важней!

- Эх ты, брат! Ніяк зразумець не хочаш! Правай рукой я толькі смычок трымаю, а левай жа лады перабіраю. Ды які ж з мяне скрыпач будзе?

Тады толькі я ўцяміў, што, маючы літаральна дваццаць спецыяльнасцяў, якімі ўладаў, бы прафесар, ён самай галоўнай лічыў дараваную яму ад прыроды - мастацкую, музычную. Яна, значыцца, прыносіла яму і радасць, і адпачынак, і асалоду. А самая вялікая асалода - свядомасць таго, што ты даеш радасць іншым людзям.

...Прайшло ўжо нямала часу, калі я развітаўся з тым сваім сябрам, сібірскім беларусам. Пабачыўшы адну жанчыну з таго далёкага паселішча, спытаў пра Сцяпана Прохаравіча:

- Як ён маецца, ці іграе на скрыпцы?

Адказала яна, уздыхнуўшы:

- Іграць-то ён іграе, але ўсё нешта не так...

Нездарма тады слёзы пакаціліся ў яго з вачэй...

## Яблынькі

**1**

Краснаярскі гадавальнік пладовых дрэваў быў далёка за горадам. Але я не пашкадаваў, што прыехаў, калі зірнуў на ягоныя багацці. На кожным кроку, на кожным метры адчувалася, што тут

працуюць людзі, закаханыя ў сваю справу. Нібыта ў нейкай чароўнай казцы, а не на яве разгортваліся перада мной усё новыя і новыя дзялянкі, адна прыгажэй за другую. Галоўным чынам - яблыні, яблыні і яблыні. Але якія! Сапраўды думалася, што нейкі ўсемагутны чараўнік, махнуўшы сваёй чараўнічай лясачкай, увагнаў у зямлю ствалы дрэваў, пакінуў на паверхні адны толькі кроны. Гэтыя кроны распасцерліся над самай зямлёю. На іх - поўна яблыкаў усялякіх, самых добрых гатункаў, буйных, прыгожых, як у найлепшых нашых беларускіх садах. Для таго каб сашчыкнуць яблык, не трэба падымаць галаву ўгору, браць якую адмысловую жэрдачку, для таго прыстасаваную. Не! Наадварот, трэба, як над гурковай ляхой, прыгнуць галаву, паглядзець на крону і без жаднай жэрдачкі, проста рукамі ўзяць тое, што табе да спадобы... Дзе ж тыя чараўнікі, што здзейснілі такое дзіва? Вось яны! Побач са мной! Імя ім - нашы савецкія людзі. Яны ж у гадавальніку стварылі тысячы прышчэпаў для таго, каб сібіракі маглі мець пры сваіх сядзібах або ў калгасах чараўнічыя яблыні...

Я набраў звыш двух дзесяткаў яблынек, трохгадовых прышчэпаў. Мне завінулі гэтае ўсё адмысловым спосабам, - карэнне паабкручвалі вільготным мохам, пасля ўсё разам - рагожай. Дарога далёкая. У Сібіры няма блізкіх дарог. Самая блізкая, да райцэнтра, у нас была семдзесят кіламетраў. А я так і не сказаў: навошта такія яблынькі з нізенькай кронай. А на тое, каб іх зімой пазасыпала снегам і не памарозіла.

Выйшаў я са сваім пакункам на дарогу, спадзеючыся, што на якой-небудзь папутнай машыне даеду да станцыі. І ў гэты час пабачыў, як з неймавернай хуткасцю пачало мяняцца неба: яно ўскоўдрылася нейкай чорна-сіняй хмарай, з гэтай хмары пачалі пучкамі вылятаць бліскавіцы, біць перуны за якіх вёрст пяць, але так, што было добра чутно і тут. Што ж будзе, калі перуны наблізяцца да гэтага месца?! І нідзе блізка - ніякай будкі, ніякага дрэва. Стаіць толькі пара абшморганых кусточкаў. Як на грэх, усе машыны ідуць з горада. З аднаго боку і зразумела: раніцой яны ішлі ў горад, там справілі свае справы і цяпер вяртаюцца назад... Але ж для мяне гэта малая ўцеха! Прайшло, праўда, некалькі машын і ў горад, але яны, уцякаючы ад навальніцы, якая наступала ім на пяты, нават і не думалі спыняцца. І вось пачалі падаць першыя кроплі дажджу. Кроплі цяжкія, буйныя. Нават чутно, як яны стукаюць па пяску, нібыта прабіваючы, пракладваючы дарогу для іншых. Я падумаў ужо, што прыйдзецца пакінуць мой пакунак на дарозе, а самому ўцякаць, куды вочы глядзяць. Аж раптам ідзе нечая індывідуальная аўтамашына, «Пабеда». Падняў я так, для самасуцяшэння, руку. Думаю, што не спыніцца... І раптам машына спыняецца. Прачыняе дзверцы

маладзіца, пытаецца:

- Што, дзядуля?

Я паказаў рукой на неба, пасля на свой пак:

- Хоць бы як да першага гарадскога транспарту дабрацца...

- А куды вам наогул трэба?

- О! Мне далёка, аж у Абанскі раён...

- Значыцца, на вакзал?

- Але!

- Сядайце...

Толькі я прычыніў, пагрузіўшыся, дзверцы ў машыне, як пачалася залева. Муж гэтай маладзіцы змушаны быў некалькі разоў спыняць машыну, бо з неба ліліся проста вадаспады, праз якія за крок не было нічога відно...

Маладзіца жартуе:

- Пашэнціла вам, дзядуля! Яшчэ адна хвіліна, і вы сваіх яблынек адцураліся б...

Падвезлі яны мяне да самага вакзала. Толькі машыша спынілася ля вакзала - і дождж перастаў. Выглянула сонца. Нібыта не было на свеце перуноў, бліскавіц, а быў увесь час ясны дзень.

Выявілася, што мяне вёз сібірскі беларус. Я сардэчна падзякаваў ім абаім і запрасіў каштаваць яблыкі ў сваё паселішча.

- Магчыма і прыеду калі, - не адмовіўся ён. - Справа ў тым, што мае бацькі жывуць у суседнім з вамі раёне, а я час ад часу наведваю іх...

Гэта быў пачатак шляху. Далей пачаліся прыгоды, перад якімі пачатак стаў зусім непрыкметны...

**2**

Чыгуначны шлях да Канска і шаша да Абана праляцелі хутка. Застаўся самы страшны і цяжкі кавалак дарогі, ды не маленькі - семдзесят кіламетраў - ад Абана да ракі Бірусы. Забягаючы крыху наперад, скажу, што праехалі мы яго на магутным дызельным трактары за чацвёра сутак. Гэта азначае: па семнаццаць - васемнаццаць кіламетраў у суткі... Было такое раздарожжа, што па таежных дарогах не хадзілі больш ніякія машыны.

На панадворку леспрамгаснага склада нагрузілі поўную цялежку, фактычна вагон, розным жалеззем, цвікамі, запчасткамі. Гэтую цялежку прымацавалі да трактара. Звязаны яны былі дышлам, - бярозавым бервяном, акаваным рознымі жалезнымі хамуцінкамі, скобамі. Паверх гэтага ўсяго села са сваёй маёмасцю брыгада маладых геолагаў, якая ехала ў наша паселішча. Моладзь дужа сардэчная, прыязная, сімпатычная, але зусім ненапракты-

каваная ў такіх паходах. Калі я, моцна прывязаўшы да борта цялежкі пакунак з яблынькамі, пачаў лаштаваць сабе месца ў цялежцы, яны весела смяяліся з мяне. Асабліва гучны смех выклікала тое, што я ўзяў бярозавую жэрдку і загнаў яе паміж грузамі і бортам.

- Што гэта будзе, для чаго?

- За гэтую жэрдку я буду трымацца ў дарозе, каб не зваліцца...

- Ой, дзядуля, паводле свайго росту вы і лясачку сабе падшукалі...

- Не трэба смяяцца, дзеткі, а пакуль мы на месцы - пастаўце хоць пару такіх жэрдак для сваіх дзяўчат...

- Дзякуем вам за параду! Не клапаціцеся, мы ўсе - фізкультурнікі...

Паехалі. Выехалі з горада, узялі кірунак на Апана-Ключы. Ад'ехаўшыся кіламетры за два, наша цялежка пачала нахіляцца то на правы, то на левы борт. Усе новыя, фарсістыя рукзакі маіх юных спадарожнікаў, якія я радзіў ім папрывязваць ды мацней: «Ха-ха! Ніхто іх у нас не ўкрадзе!» - апынуліся адны на левай палове дарогі, другія - на правай. Пачалі пырхаць следам за імі і «фізкультурнікі». Усе дзяўчаты з'ехалі да майго бярозавага кала, паляпіліся за яго, як пчолкі ў часе раення за які сучок. Толькі і чулася:

- А божухна! Калі ж пачнецца добрая дарога?

Я іх супакоіў тым, што сказаў:

- Гэта ёсць самая найлепшая частка нашага шляху. Праз кіламетраў пятнаццаць - самая горшая. Але, праўда, там вакол будзе тайга, багата жардзін усялякіх, можна ўмацавацца як хочаш...

Яны не падзякавалі мне за паведамленне, але пачалі пытацца, што зрабіць і як для бяспекі.

У сяле Апана-Ключы мы спыніліся. Механікі праверылі сваю машыну, а юныя вандроўнікі папрывязвалі ўсе да аднаго свае рэчы, панастаўлялі ля бартоў бярозавых колікаў для сябе.

У першы ж дзень мы праехалі вёску Байкан і ўзышлі ў тайгу сапраўдную. Дарога - мора разліванае. Ад'ехалі ад Байкана кіламетраў пяць-шэсць, як паламалася дышла. Але тут, на шчасце, быў добры прыпынак: сталоўка, некалькі домікаў, у якіх жылі нарыхтоўшчыкі жывіцы. Пакуль павалілі бярозу, абкантавалі яе на дышла, перастаўлялі жалеззе са старога на новае, надышла ноч. Заначавалі дзе хто здолеў: хто ў хатках, хто на трактары, хто ля агню. Раніцай паснедалі ў сталоўцы, паснедаць можна было як хочаш, прадукты - вышэйшай якасці, нават толькі што застрэленая дзічына: цецерукі, рабчыкі, глушцы... Пасля снедання

паехалі далей.

Пачаліся другія суткі. Ад'ехаліся, можа, пятнаццаць кіламетраў - аварыя: лопнула жалезная злука, «серьга», пры дапамозе якой дышла чапляецца за трактар. Гэтага з пня не ссячэш...

Пайшлі з паклонам у паселішча Азёрнае, да нарыхтоўшчыкаў жывіцы. Пакуль дачакаліся іхняга начальніка - час ішоў без супынак. Начальнік, чалавек добры і разумны, каб не трымаць такую партыю людзей, даў загад - адкруціць патрэбную частку з іхняга трактара і даць нам. Пакуль адкручвалі, пакуль прыкручвалі - надышоў вечар. Заначавалі ў Азёрным. Паснедаўшы ў гэтым паселішчы, раніцой крануліся, падзякаваўшы і насельнікам і начальству за гасціннасць і дапамогу.

### 3

Ехалі, ехалі. А тут машкара, камары. Яны ж - як абавязковае блюда ў кепскай сталоўцы. У геолагаў - бутлі з дыэцілфталатам. У нас - бутэлечкі з дзёгцем бярозавым ды яшчэ накамарнікі - сеткі, тканыя з конскага воласу. Глянеш на нас - нібыта з нейкага пякельнага маскараду павылазілі ўсе - мурзатыя, пакусаныя ды яшчэ ў карычневы колер ад бярозавага дзёгцю пафарбаваныя... Едзем, едзем. У адным месцы сасновы сук нізка нахіліўся над намі. Папрыгіналі галовы, а адзін малады хапіўся рукамі, каб падняць яго крыху, адвесці ад дзяўчат. У гэты момант - трактар даў поўны ход, вырваў за сабой цялежку, а хлопец і застаўся вісець на суку. Саскочыць - праўда, нібыта мякка, але ж унізе гразь. Калі не ўтопіцца, падаючы з вышыні, дык увесь гразёй зальецца. І брызент ніякі не падкладзеш: гразь суцэльная. Пабралі сякеры, нассякалі лапак, накідалі з бакоў на дарогу. На тыя лапкі саскочыў. Заблоціўся, зразумела, але ж не так, як бы без лапак было. А самае галоўнае - час ідзе. Трэція суткі. Дзень на другую палову пераходзіць, а мы ад'ехаліся роўна нічога. І вось трапілі на такое месца, што ні ўзад, ні ўперад. Наша цялежка загрузла па самыя барты. Стасільны трактар не можа даць рады. Нават адчапіўся ад нас, каб не засесці самому, і ад'ехаўся на лепшае месца. Раптам чуем, тарахціць недзе ззаду яшчэ трактар. Пад'ехаў бліжэй. Калёсны, слабы, але ж дзве вялізныя бочкі партвейну вязе, значыць, сілу нейкую мае. Ад'ехаўся і ён на лепшае месца, паставіў свой партвейн, пасля разам тузганулі нашу цялежку і вывалаклі з гэтага прадоння, адвезлі метраў за сотню, на больш прыдатнае месца. Там трактарысты нашыя і - з калёснага заняліся падкручваць гайкі, бо яны, некаторыя, зусім аслаблі.

Пасажыры павыходзілі на абочыны: хоць ногі крыху адыдуць, адпачнуць ад такой язды. Тым часам следам за намі на

парцы коней ехала пошта ў лёгенькай карыфашцы. Нічога не ведаючы, паштавік заехаў на тое месца, дзе тапілася нашая цялежка і выціснула сабой такую вялізную яміну. Левы конь адразу пагрузіўся ў тую яміну, у гразь. Засталася над гразёй адна толькі галава. Паштавік адразу выпраг другога каня, вывеў яго на абочыну і стаў думаць горкую думу: ніхто ж ніколі не дасць веры, каб на дарозе, хоць бы і таежнай, конь утапіўся. Значыцца, паштавік нейкую памылку вялікую зрабіў... У гэты час нашыя трактарысты запусцілі матоы. Пачуўшы іх, паштавік сеў конна на выратаванага каня, прыехаў на нашую стаянку, злез і ўкленчыў проста ў гразь:

- Ратуйце, людцы! Конь утапіўся на дарозе!

Хто ж тут скажа - «справа не мая»? Пабралі рыдлёўкі, сякеры, вяроўкі, пайшлі да таго каня. А ён, бедны, калі пабачыў людзей, як пачаў ірзаць, як пачаў ірзаць - не спыняецца. А карціна якая жудасная: ляжыць на гразі адна галава і ржэ, нават грывы не відно. Прыйшлі людзі, абступілі вакол таго бедалагу. Хто рыдлёўкай гразь адлівае, хто лапкі сячэ, хто жэрдачкі падносіць. Намасцілі з бакоў дзве гаці невялічкія, прашмаргнулі вяроўкі ды ўсім натоўпам і выцягнулі таго каня. Падзякаваў паштавік ратавальнікам, спрог зноў коні ў карыфашачку ды следам за намі.

Трэція суткі канчаліся. Ноч. Распалілі агонь, павячэралі, паспалі - хто як мог, каму як было лепш. На чацвёртыя суткі прашу я паштавіка:

- Вазьмі мяне з яблынькамі, давязі да паселішча. Баюся я, каб мае яблынькі не прапалі.

А ён мне адказвае:

- Ты бачыш, што мой выратаваны конь толькі для ліку ў запражцы ідзе, увесь час дрыжыць, як у трасцы якой.

- Ды я не прашуся, каб ты мяне вёз. Я пайду пехатой. Ты мае яблынькі толькі вазьмі, прывяжы ззаду.

Прывязаў. Увечары чацвёртых сутак прывёз я іх дадому і пасадзіў адразу. Некалькі штук даў у падарунак тром маім сябрам, з якімі разам працаваў. Не ведаю, як дрэвы жылі ці жывуць у іх. А на маёй колішняй сядзібе прыняліся добра. Мне прыслалі фота, на якім яблынька проста абсыпана яблыкамі ад зямлі і да самага невысокага верху.

Колькі людзей памагло, каб гэтыя яблынькі даехалі да свайго месца!

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Цяпер замест той таежнай пракладзена добрая дарога, шаша. Аўтобусы «Ікарус» ідуць па той дарозе, на якую мы патрацілі чацвёра сутак, дзве гадзіны. А хто хоча, ад Канска да Бірусы можа праляцець рэйсавым самалётам за паўгадзіны. Думаю, што новыя

насельнікі таго паселішча пачнуць цяпер гадаваць і вінаград нават...

## Як начаваў у Байкане

Давялося мне зімою ісці ў тайгу. Перад тым двое сутак мяла мяцеліца. Усе сцяжынкі, усе дарогі занесла снегам, намяло на адкрытых мясцінах вялікія гурбы. І такой дарогі мне дзесяць міль. Выйшаў я з горада рана. Пры мне толькі адна буханка хлеба, але вялікая, кілаграмы на чатыры, і пачак цукерак-падушачак. Апрануты я цёпла: павалаканы паўкажушок, зімовая шапка, валёнкі.

Іду, як цалік пракладваю, баразну ў снезе сабою ару. Зірну назад - так баразна і застаецца. Ніхто, зразумела, не едзе. Кожны чакае, калі клін трактарам працягнуць - правалакуць, прачысцяць шлях.

Пасля абеду прыйшоў я ў Апана-Ключы. Спыніўся ў знаёмых, перакусіў. Старая гаспадыня пакідае начаваць.

- Дарогі няма. Дужа натоміцеся.

Адказваю, што я сёння абавязкова павінен трапіць у вёску Байкан. Калі я там заначую, дык заўтра вечарам буду дома. А калі заначую тут, тады мне трэба будзе ў тайзе начаваць. Ну што ж яна больш скажа: сваю гасціннасць выказала, а ты - як хочаш і як знаеш... Ад гэтага сяла дарога пайшла нібыта ў нізіну, адхонам. Снегу намяло куды больш, чым да сяла. Баразну разгортваю яшчэ глыбейшую. Іду...

Прытаміўся, піць хочацца. Вазьму жменьку снегу, скамячу ды ў рот. Растане, праглыну - зноў піць хочацца.

З'явіліся ўжо вялізныя купы дрэў - падыходжу да самай тайгі. Сцямнелася. Толькі святла - ад снегу. А я іду...

І бачу леваруч - агеньчыкі зазіхацелі. Я ўсцешыўся: хоць прыцемна, але ж дайшоў да сваёй сённяшняй мэты! Спыніўся, глянуў. Нешта не тое мне прыдалося: агеньчыкі вёскі з'яўляюцца раптоўна проста перад дарогай, калі спусцішся ў роў ды з яго выберашся. А тут агеньчыкі менавіта леваруч, там, дзе стаяў вадзяны млын. Самае ж галоўнае, што яны пераходзяць з месца на месца, як жывыя. «Э! Дык жа гэта воўчае вяселле! Проста на іхні пір трапляю».

Пастаяў я, пастаяў - аж агеньчыкі пасунуліся на Апана-Ключы полем. А вецер у мой бок, ваўкі нюхам мяне і не выкрылі. Пайшло тое вяселле сваім шляхам. А я іду сваім... Дайшоў да таго рова, спусціўся, зноў узняўся. Вось ён і Байкан. Агні гараць ва ўсіх вокнах, але ад газніц. Электрычнасці ў іх тады не было. А

самае галоўнае, ведаў я пра гэта добра, сёлетні год для людзей быў дужа цяжкі: рана стукнуў мароз, памерзла ўся чыста бульба. Якія атожылкі нараслі, ды добрага плёну не далі. Жыта было павымакала, а рэшту градам пабіла. Нейкая карысць і падтрымка была ад аднаго-адзінага гароху. Ды яшчэ ад тайгі - грыбоў бралі, ягад... А ў звязку з такімі акалічнасцямі народ быў сярдзіты. Свае са сваімі сварыліся. Старая беларуская прыказка кажа, што калі на гумне не малоцiцца, тады ў хаце калоцяцца. А гэтая вёска была на дзевяноста дзевяць працэнтаў заселена беларусамі, якія выехалі сюды яшчэ перад рэвалюцыяй.

Падыходжу я да «дагаварной хаты», у якую павінны прымаць на начлег. Стукаю ў акно.

- Хто там?

- Начаваць да вас!

- Заўтра ў мяне свята, я мыю падлогу, нікога не пушчаю.

- А дзе ж мне начаваць?

- Дзе хочаш! Бывай здароў!

Калі не хочуць размаўляць у той хаце, гаспадыні якой плацілі грошы, дык што ж мне маглі сказаць у суседніх!

І надумаў я ісці ўсю ноч да свайго жытла. Прыблізна на сярэдзіне вёскі якраз паварот на тайгу. Падыходжу я да гэтага павароту і бачу каля яго хату. Хата вялікая, тыпова сібірская, але нейкая дужа заняпалая. На ёй не тое каб страхі, але і крокваў нават няма. А так і комін стаіць, і вокны зашклёныя. Дай, думаю, яшчэ раз паспрабую. Стукаю ў акенца. Жаночы голас пытаецца:

- Што вам трэба?

Я тлумачу. Жанчына адказвае:

- У мяне дужа бедная хата. Ідзіце куды ў лепшую.

Зноў тлумачу:

- Я шукаю не багацця, а дзе б мне ноч перасядзець. Гэта ж мароз - градусаў сорак...

- Заходзьце, калі ласка! Толькі не крыўдуйце...

Адчыніла яна дзверы. Зайшоў. Якая б хата ні была, а пасля такога марозу - рай! Між іншым, у хаце чыста, падлога аж зіхаціць, нашоркана венікам з пясочкам.

Павітаўся я. Распрануўся ды пытаюся:

- Ці няма ў вас трохі гатаванай вады, хоць кубачак.

Яна адказвае, што ў печы - поўны чыгун. Хочаш пі, хочаш мыйся.

Я такі папарыў свае ногі, пасля наліў кубачак вады, дастаў з рукзака буханку хлеба і чую, што мяне нібыта голкамі нешта коле. Узнімаю вочы ўгору, а там, на палатках, дзеці гэтай гаспадыні, чацвёра. Ведаючы, як у іх кепска справа з харчаваннем, я запытаўся:

- А ці няма ў вас яшчэ кубачкаў?

Гаспадыня мая здзівілася:

- А што вы з імі будзеце рабіць? Кубачкі ёсць, зразумела.

Паставіла яна яшчэ пяць кубачкаў. Наліў я ў іх гарачай вады, парэзаў на шэсць кавалкаў сваю буханку хлеба і на кожную лусту паклаў падушачак.

- Справа ў тым, дарагая гаспадыня, што я чалавек сямейны. У нас заведзена так, каб усе садзіліся за стол разам, а ніхто адзін аднаму ў рот не заглядваў.

Яна пачала пярэчыць, што мне яшчэ дзень ісці. Я адказаў, маўляў, мне лягчэй стане ісці, калі на сэрцы будзе лёгка...

Пакуль мы з ёй размаўлялі, дзеці самі пазлазілі, селі ля стала, і мы ўсе разам павячэралі.

Раніцой, аддзякаваўшы ёй за начлег, пайшоў я ў свой апошні перагон і ўжо цёмна-цёмна з'явіўся дадому...

## І смех, і грэх...

Заўтра - Пятро, як дзяды нашы казалі. Нават і ў Сібіры настала лета. Мы пазаносілі на вышкі розныя накрыўкі, імі накрывалі лехі гурковыя, таматы ды наогул усю гародніну, якая не мае дружбы з замаразкамі. Але па старой звычцы кожны вечар, кладучыся спаць, я выходзіў на ганак і глядзеў, колькі градусаў на надворным тармометры.

Пайшоў і ў той вечар, адзінаццатага ліпеня. На тэрмометры было два з паловай градусы цяпла. Калі я сказаў пра гэта жонцы, яна не паверыла і дала раду:

- Пасвяці электрычным ліхтарыкам, трэба ведаць вельмі дакладна.

Пры электрычным святле - усё роўна два з паловай градусы. У маленстве я чытаў апавяданне аднаго фінскага пісьменніка, як стары, сівы і ў дадатак сляпы дзядуля выйшаў раніцай на панадворак, памацаў рукой зямлю і пасля гэтага закрычаў у роспачы: «Дзеткі, уставайце! Уся наша праца загінула!». Каб пасля бяды не галасіць дарэмна, не мацаць раніцай прымарожаную гародніну, мая гаспадыня дала параду:

- Пастаў будзільнік на першую гадзіну ночы. Тады пабачым. Калі знізіцца яшчэ, пойдзем накрываць.

Зрабіўшы так, я паскідваў, на ўсякі выпадак, усе накрыўкі з вышак, сабраў у адно месца старыя газеты і пасля таго заснуў. Неўзабаве зазваніў гадзіннік. Я да градусніка: паўтара градуса марозу. Значыцца, перад світаннем будуць усе шэсць. Не бавячы часу, мы заняліся ратаваць сваю працу. У нас была яшчэ аўчарка,

дык яна, паддаўшыся нашаму настрою, больш паловы накрывак перацягала ў гарод. Накрываць мы накрываем, а нашы суседзі спяць, нічога не чуюць. Падбег я да аднаго акна, стукнуў:

- Мароз, накрывайце гародніну.

Маладая гаспадыня выскачыла босая, аж гвалт закрычала:

- Зімна! - Пабегла яна, абулася ды за працу.

Падышоў я да другое хаты, стукнуў таварышу, з якім разам у майстэрні адной працавалі:

- Пятро! Мароз! Мы гарод накрываем!

А ён мне адказвае:

- Сусед дарагі! Заўтра мае імяніны, ніякіх маразоў не павінна быць. А што вы накрываеце - накрывайце, у вар'яцкім доме яшчэ весялейшыя фокусы бываюць...

Падзякаваў я за такі прыгожы камплімент ды зноў на свой гарод. Панакрывалі мы ўсё, нават фасоль і тую газетамі пазасцілалі. Апрача таго, поўныя бочкі, якія для паліву стаялі, вадой дапоўніў. Глянулі на градуснік - шэсць градусаў марозу.

Раніцай, як толькі сонейка ўзышло, паднялося, пайшлі мы ўсе накрыўкі скідаць ды гародніну вадой з палівачак паліваць. У нас - не змерзла ніводнага каліва, а ў беднага імянінніка нават бульбоўнік увесь счарнеў.

Днём у майстэрні смеху было немаведама колькі. А гэты самы Пятро мне прэтэнзію даў:

- Чаму вы мяне не ўгаварылі? Я тады, можа б, устаў і таксама пазакрываў сваю гародніну.

## Саратаўскі беларус

Прыехалі мы з жонкай у Беларусь. У адну маленькую вёсачку, дзе ніколі ў жыцці не былі, нікога з людзей да таго не бачылі і не ведалі. Вёсачка дужа прыемная, прыгожая. Нават вуліца і тая асаблівая, не падобная да іншых: зялёная, спарышнікам уся зарасла, як зялёным дыванам пакрыта. А з бакоў, апрача садоў і кветнікаў, рабінамі абсаджана. Ходзім мы на возера купацца, ходзім у лес грыбы збіраем, на памежках некаторыя лекавыя расліны бяром ды сушым: святаяннік, насенне трыпутніку, мяту. Адначасна, калі бывае ў людзей вольны час, слухаем, як яны гавораць, якая ў іх сама вымова, які лексічны запас. Ідучы вулічкай, да нас на лаўку перад домам садзяцца калі, хоць на кароткі час, суседзі, пытаюцца, расказваюць...

А насупраць дома нашай гаспадыні жыла адна вельмі слаўная сям'я. Маці працавала на мясцовай пошце, бацька - рабочы. Дачушка старэйшая адвучылася ў восьмым,

перайшла ў дзевяты клас. Мала таго, што прыгожая і разумная, але гэта была на дзіва для нас з жонкаю працавітая дзяўчына. Яна адна даглядала ўсю хатнюю гаспадарку, гатавала есці для ўсёй сям'і, рыхтавала пойла ды корм для жывёлы, прачкарыла, знаходзіла і час чытаць кнігі. А школьныя адзнакі ў яе ўсе былі выдатныя. Гэтыя акалічнасці выклікалі ў нас вялікую сімпатыю да гэтае сям'і і не меншую павагу. Калі аднойчы да нас падышоў пагаманіць крыху сам бацька, мы з вялікім задавальненнем паслухалі яго, падтрымалі размову з ім. Гаварыў ён па-беларуску прыгожа, нават, я сказаў бы, з літаратурным ухілам. Вымова ў яго была чыстая, натуральная: казаў «дзякую», а не «д'зякую», як некаторыя ў горадзе, «сяджу», а не «сяд'жу».

Аднойчы ён у мяне запытаўся, з якога раёна Беларусі я паходжу.

- З Пастаўскага, але даўно-даўно выехаў адтуль. А вы?

- Я з Саратаўшчыны...

У мяне нават думкі такой не з'явілася, што гэта з той Саратаўшчыны, якая на Волзе. Я парашыў, што пасля вайны які-небудзь наш раён перайменавалі ў Саратаўскі. Але запытаўся:

- Даруйце, але дзе ж ён, той Саратаўскі раён, як ён называўся раней?

Мой субяседнік засмяяўся ды і пытаецца:

- Няўжо вы не ведаеце, дзе знаходзіцца Саратаўшчына? Вы жартуеце, зразумела...

- Як?! - яшчэ больш здзівіўся я. - Дык вы з Волгі, з той самай Саратаўшчыны?!

- Але, але. А чаму вы дзівіцеся?

- Мяне дзівіць, што вы гаворыце па-беларуску так, нібыта тут нарадзіліся.

- Нічога дзіўнага! Калі я ажаніўся, а мая жонка – тутэйшая, - то надумаў тут і застацца. А жыць з людзьмі, сустракаючыся з імі штодня, і не ведаць іх мовы - я лічу недастойным людской годнасці. Апрача таго, гэта значыла б прызнацца ў сваёй бяздарнасці. Ці цяжка вывучыць яшчэ адну мову! Мая дачушка вывучыла чатыры, уладае імі як мае быць. Трэба ж і мне не вельмі адстаць ад яе. Хіба я няправільна разважаю?

- Вы разважаеце дужа правільна, па-ленінску.

**«А Маня дурная!»**

Аднойчы сядзеў я на лавачцы каля дома з суседскай дзяўчынкай Маняй. Падышоў да мяне, павітаўся і сеў побач

таксама суседскі хлопчык Шлёмка, такога ж узросту, як і Маня.

Я люблю размаўляць з малымі. Цікава, як яны глядзяць на жыццё, на вакольны свет. І гэтым разам пагаварылі аб тым-сім. Тут хлопчык і кажа:

- А гэта Маня дурная!

Я здзівіўся і пакрыўдзіўся.

- Што ты вярзеш? Ты б такія адзнакі са школы прыносіў, як яна. У яе ж адны пяцёрікі...

- Ха! Што яе пяцёркі! Я залез у іхні сад, узлез на самую лепшую яблыню і латашу сабе яблыкі, поўную пазуху напакаваў. Прыходзіць яна. Прайшла каля самай яблыні, мяне не ўбачыла, узяла з-пад суседняга дрэва нейкі ападыш ды і пайшла з саду... Дзе ж яе розум?!

Я праз малы час пытаюся ў Мані, ці праўда гэта, што Шлёмка кажа.

- Праўда, дзядзечка! Я пайшла да яблыні адмыслова, гэта ж мая самая любімая. Кожную раніцу хаджу да яе. Аж бачу, на дрэве сядзіць ён. У іх свайго саду няма. Няхай, думала так, няхай паласуецца... Узяла зусім не патрэбны мне яблык і пайшла прэч з саду, каб не засмуціць, не здэтанаваць яго...

## Хованкі

Недалёка ад Сянна, на беразе таго ж возера, пры якім стаіць і Сянно, ёсць невялічкая, утульная вёсачка Свабоднае. Давялося нам неяк пражыць там з паўлета. Што, апрача прыроды, спадабалася нам у тым прыгожым куточку Беларусі - гэта людзі. Вельмі добрыя, цікавыя, лагодныя людзі. А затым - дзеці. Жонка мая бадай усё жыццё працавала настаўніцай, ды і паездзілі мы па свеце багата. Такім чынам, маглі рабіць параўнанні, супастаўленні. Розныя бываюць і дарослыя, розныя бываюць і дзеці. Вось, напрыклад, у часе вайны ішла жанчына прасёлкам да станцыі. Сустрэла мужчын. Пытаецца ў іх:

- Ці так я іду, ці правільным шляхам?

- Ды не, - кажуць, - зусім не! Вам трэба ісці вось гэтай дарогай. Адразу і прыйдзеце туды, куды вам трэба.

Бедная жанчына паслухала іх, прайшла кіламетраў дзесяць па асенняй калатусе, ды з клункамі, і даведалася, што ёй трэба было зусім у адваротны бок ісці...

Скажыце, ці варты тыя людзі добрага слова? Нейкая звярыная, жывёльная жорсткасць і бязлітаснасць кіруюць такімі істотамі...

А вось у Свабодным, гуляючы ў лесе, мы неяк затлуміліся і

пайшлі не ў патрэбны бок, а ў адваротны. Па дарозе сустрэлі двух хлопчыкаў, якія ехалі на фурманцы ў кузню, везлі нейкую дэталь ад жняяркі для рамонту. Павіталіся з намі. Жонка пытаецца:

- Ці далёка да Свабоднага?

Большы адказвае:

- Недалёка, але ж вы не ў той бок ідзеце. Сядайце на нашу фурманку, мы вас падвезямо...

Едучы, яны расказалі нам пра свае дзіцячыя справы, а ў нас запыталіся, хто мы, дзе жывём. Уся гутарка была далікатная, без ніякіх выкрутасаў і зухаватасці...

У Свабодным жа мы наглядалі неаднойчы, як дзеці, якія не хадзілі ў поле, гулялі ў розныя гульні, у тым ліку і ў хованкі. Было дзяцей блізу нашае хаты шасцёра-сямёра, прычым больш-менш аднаго ўзросту. Але гуляў разам з імі адзін хлопчык гадоў чатырох, а можа, і менш таго, бо ён хадзіў у адной кашульцы, без штонікаў. Клікалі яго - Вася.

Калі давалі сігнал хавацца, ён адыходзіў крокі на два і закрываў далонямі свой твар. Гэта азначала, што ён схаваўся, што яго ніхто не бачыць. Мімаволі згадаліся нам страўсы, якія, прытаміўшыся ад пагоні, хаваюць галовы ў пясок. І вось хлопец або дзяўчынка, якія правяралі ўсе хованкі, самыя патаемныя мясцінкі, праходзілі колькі разоў ля гэтага маленькага Васі і ўсё пыталіся:

- Ды дзе ж той Вася схаваўся? Ды як жа нам адшукаць Васю? Хто нам дапаможа знайсці Васю?

А Вася аж танцуе на сваёй схованцы, але рук ад твару не адымае. Урэшце ён застукаў усіх, ён перамог...

Як бы хацелася зірнуць сёння на таго Васю! Цяпер яму, пэўна, чатырнаццаць або пятнаццаць гадкоў. Вось бы паглядзець, як ён гуляе з малодшымі ад сябе! Ці так жа добра, як гулялі з ім самім...

## Зімовыя браткі

У вайну некаторы час я працаваў эканамістам. Мае абавязкі былі - улік работы брыгад. А тут яшчэ трэба выходзіць на тэрміновыя пагрузкі вагонаў нашымі вырабамі, якія накіроўваліся на заводы. Адным словам, работы хапала ўсім і ўсялякай. Тым не менш, шмат хто знайшоў час і ўрабляў агародныя пляцоўкі. Меў такую пляцовачку і я. Расло ў мяне багата гародніны, большую палову яе з'ядалі сябры, якія, калі справа даходзіла капаць гарод, казалі:

- А навошта нам? Мы заўтра, можа, адсюль паедзем...

Аднак елі тую гародніну яны надзвычай ахвотна. Насеялі і насаджалі мы розных кветак, спаборнічалі адзін з адным, сусед з суседам. Перад уваходам у мае жытло была вялізная клумба, уся занятая браткамі, прычым самых розных колераў і барваў. Хоць даскокамі, але знаходзіў я час прапушыць зямлю пры іх, паліць. Раслі яны так, што лепш не можа быць. Нават людзі з дужа жорсткімі сэрцамі спыняліся ля клумбы і захапляліся ўголас...

І што было галоўнае: усе ўздыхалі аб тым, што вось прыйдзе зіма, маразы, і гэтае хараство загіне пад снегам...

Я падумаў, падумаў: што калі хоць частку кветак узяць на зіму ў памяшканне?

Пачаў я ажыццяўляць сваю задуму. Зрабіў вялікую скрыню, больш метра даўжынёй, сантыметраў сорак вышынёй і столькі ж ушыркі. У скрыню я насыпаў самай лепшай зямлі і перасадзіў з зямлёй жа даволі багата кветак. Некалькі дзён і начэй гэтая скрыня стаяла ля клумбы, а перад самымі маразамі я занёс яе ў сваё жытло, паставіў на вышыню двух метраў.

Усе ў адзін голас казалі:

- Нічога не будзе! Гэтыя кветкі ў памяшканні жыць не стануць.

А трэба дадаць яшчэ, што ў мяне ўсю ноч гарэла лямпа ў дзвесце ват. Печка, вялізная, чыгунная, палілася круглыя суткі, без перапынку.

Што дапамагло - не ведаю: ці святло ад лямпы, якая была на адлегласці аднаго метра ад кветак, ці цеплыня ад печы, ці добрая акуратная перасадка, але кветкі красавалі безупынна. Адны адцвіталі, другія пачыналі, зеляніна была цёмна-зялёная, здаровая.

Кожны вечар, прыходзячы з работы, мы падыходзілі да кветак і разглядвалі іх з добрай, прасветленай усмешкай. Можа, кожны згадваў тыя дні, якія красавалі для яго, як гэтыя прыгожыя, дзівосныя кветкі, калі на душы і сэрцы было спакойна і чыста. Хто ведае! Адны ўздыхалі, другія ўголас выказвалі сваё захапленне.

І дажылі кветкі, прыносячы асалоду ўсім, аж да канца сакавіка месяца.

Прыйшлося мне, у сваю чаргу, быць адказным дзяжурным на кухні. Працуючы там, я некалькі разоў хадзіў і падкладваў дровы ў сваю печ, каб трымалася цеплыня. Пад самую раніцу, гадзіны за паўтары да раздачы снедання, кухар папрасіўся ў мяне:

- Дазволь, я пайду пасплю гадзінку якую ў цябе!

Не хацелася мне пускаць яго.

- Ты мне кветкі памарозіш!

- Я буду дровы ў печ падкладваць, - дакляраваў кухар.

Што зробіш, прыйшлося дазволіць.

...Калі я пайшоў будзіць кухара, бачу, што з майго коміна не дым, а пара ідзе: апошняя цеплыня выходзіць. Пастукаў у дзверы. Адчыніў ён. Я першым чынам да кветак... Нахілілі галоўкі... Я да вядра з вадой, каб папырскаць іх - кубак у вядро не лезе, лёд ледзьве не ў палец таўшчынёй паверх вады... Падкладваў дровы кухар!

Так і загінулі мае кветкі...

Цяжка ўявіць, які гвалт быў увечары, калі людзі прыйшлі з работы!

Усю віну клалі на мяне:

- Навошта ты таго кухара пусціў...

Кожны шкадаваў аб сваім. А я - дык аб тым, што не стала каму вітаць мяне і ціхенька-ціхутка нагадваць мне песеньку, якую калісьці спявала маці... Гэта ж яны, мае кветкі, падавалі сваімі пялёстачкамі гукі ўцехі, надзеі, наступнай радасці і, з'яднаўшыся з галасамі кветак майго сэрца, стваралі такую чароўную мелодыю...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А сам я і сёння згадаў пра вас, браткі, бо такія самыя, мілыя майму сэрцу сінявокія браткі я сустрэў у сябе ў Беларусі.